Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ




ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**


№ 8-9 (11-12) Жнівень—Верасень 1926



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1926




# Краязнаўства і настаўніцтва.

Аднэй з асаблівасьцяй сучаснага краязнаўчага руху ў СССР зьяўляецца тое, што, апрача задач дапаможна-навуковага характару, якія звычайна маюць значэньне толькі для спэцыялістых і аматараў, ён зьвязаны вельмі цесна з вытворчай працай настаўніка. Наша сучасная школа—не акадэмічна, а знаходзіцца на вытворчым грунце; тое самае і сучаснае краязнаўства—не акадэмічнае, а вытворчае. Мэтод гатовых ведаў, мэтод пасыўнага прысваеньня школьнага матар'ялу мы ўсюды імкнемся замяніць мэтодам здабываньня ведаў, мэтодам дасьледчым. Але дзе-ж гэты мэтод знаходзіць сваё лепшае ўжываньне, як не ў краязнаўчай працы?

Існуючыя цяпер у масавай школе програмы ГУС'а заўсёды кажуць пра неабходнасьць назіраньня над мясцовым матар'ялам і распрацоўкі яго ў галіне мовы, прыродазнаўства, грамадазнаўства. Але якім чынам можна даставаць гэты матар'ял, як распрацоўваць і сыстэматызаваць яго, калі ня шляхам колектыўнай краязнаўчай працы настаўніцтва?

Трэба сказаць праўду, што настаўніцтва БССР інстынктыўна адчувала і адчувае, што краязнаўчая праца—пераважна яго праца. Сярод шасьці з паловай тысяч сяброў акруговых і раённых краязнаўчых т-ваў і гурткоў, раскіданых па ўсіх куткох нашае рэспублікі, настаўніцтва складае 80 проц.—гэта адно сьведчыць абаграмаднай зацікаўленасьці настаўніцтва да краязнаўчай працы. Матар'ялы па розных галінах прыроды, быту, экономікі БССР і інш., якія атрымлівае ЦБК, бадай выключна зьбіраюцца настаўнікамі або школьнікамі пад іх непасрэдным кіраўніцтвам. Узорнае апісаньне паасобных раёнаў, якое організоўвае ЦБК і намячаюць некаторыя акруговыя т-вы, таксама орыентуецца, бадай выключна, на настаўніка-масавіка, які зьвязан з працоўным насельніцтвам вёскі і мястэчка, які ведае патрэбы жыцьцябыцьця сваёй ваколіцы.

Усе гэтыя асобныя адзнакі яшчэ не зьяўляюцца здавальняючымі ў поўнай меры. ЦБК мяркуе, што краязнаўчая праца цяпер увайшла ў тую стадыю свайго разьвіцьця, калі масы настаўніцтва павінны быць уцягнуты ў працу поўнасьцю. Практыка паказвае, што праца на мясцох, галоўным чынам, у раёнах, выконваецца пакуль што ў большасьці нямногімі працаўнікамі, а большасьць школьных працаўнікоў на мясцох, адчуваючы неабходнасьць краязнаўчай працы ў сваёй штодзеннай практыцы, чакае гатовых матар'ялаў і вельмі мала робіць дзеля палягчэньня сваёй уласнай практычнай працы.

Надышоў новы вучэбны год. Масаваму вясковаму настаўніку прыходзіцца ў сваёй працы абапірацца на „нашу вёску", „наш раён", „нашае мястэчка", а між тым, галоўным чынам, гэты матар'ял, найболей патрэбны і жыцьцёвы, нашым настаўніцтвам не апрацаваны. Матар'ял гэты, бягучы і дынамічны па сваёй сутнасьці, ня можа быць пададзены

ў гатовым відзе ў кніжцы—ён можа быць вынікам дасьледчай працы самога настаўніцтва на мясцох. Дзеля палягчэньня яго працы на далейшы час трэба, каб сабраны матар'ял занатоваўся і захоўваўся ў школьных музэях. Задача арганізацыі школьных музэяў зьяўляецца цяпер аднэй з чарговых задач масавага настаўніцтва на шляху краязнаўчай працы. Адна гэта задача можа і павінна на шмат гадоў запоўніць зьместам школьную працу настаўніка, вымагаючы сур'ёзных і адказных адносін да працы цяпер, і гэта дасьць вялікую дапамогу ў будучыне.

Неабходна, каб масавая школа і масавы настаўнік мелі ў поўнай меры краязнаўчую літаратуру, інструкцыйную і мэтодычную. Трэба, каб акругі і раёны выпісвалі ў патрэбным ліку краязнаўчую літаратуру для сваіх школ з мэтай азнаямленьня і распрацоўкі. ЦБК мяркуе, што яго часопіс „Наш Край", які орыентуецца на працоўную інтэлігенцыю БССР, у першую чаргу, на настаўніцтва, павінен мець месца ў бібліотэцы кожнай школы нашае рэспублікі.

Няхай настаўніцтва пранікаецца сьвядомасьцю, што краязнаўчая праца—частка яго штодзеннай школьнай працы, і няхай яно з гэтага пункту погляду зробіць усе неабходныя вывады да сваёй бягучай працы ў школе.

**Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.**



Проф. А. У. Фядзюшын.

# Ахова прыроды і школа.

## Беларускаму настаўніцтву.

У найноўшай гісторыі органічнага сьвету, апроч фактараў фізыка-географічных і аўтономічных, якія робяць магчымай эволюцыю організмаў, вялікую ролю пачаў граць чалавек; уплыў яго на прыроду выяўляецца або непасрэдна або яшчэ ў большай меры ўкосна. І тое і другое, з пункту погляду натуралістага, у вялізарнай большасьці выпадкаў характарызуецца, як рэзка адмоўны ўплыў, калі ня лічыць лёсу культурных расьлін і жывёл, якія гадуюцца ў хатніх абставінах, ды цэлай групы чужаедаў (паразытаў), комэнсалаў, сымбіонітаў і інш. катэгорый, што так або іначай зьвязалі свой лёс з чалавекам і яго культурай.

Зьмена прыроды пад уплывам чалавека часам ня вельмі дзівіць сучасьніка і можа быць мала прыкметна пры статычным толькі вывучэньні гэтага пытаньня; але калі толькі спробаваць вывучыць дынаміку паасобных компонэнтаў прыроды, прасачыць іх лёс у гістарычным разрэзе часу, дык вобраз рэзка мяняецца і міжвольна дзівіць дасьледчыка фатальным вынікам барацьбы за існаваньне шмат каго з іх і дазваляе прадбачыць такі-ж лёс для цэлага шэрагу іншых.

Магчыма, мне скажуць, што, гаворачы аб гэтым пытаньні, мы, уласна, ломімся ў адчыненыя дзьверы, што ўсім добра вядома грубае руйнаваньне чалавекам прыроды і што, бязумоўна, трэба што-колечы зрабіць, трэба паклапаціцца аб далейшым лёсе дзікіх жывёл і расьлін, якія зьяўляліся да гэтага часу вечна жывой крыніцай нашага дабрабыту ня толькі з экономічнага боку, але і з эстэтычнага.

Між тым, я спыніўся на гэтай тэме якраз дзеля таго, што лічу пытаньне гэта куды больш паважным, чым звычайна прывыклі яго лічыць, а таксама яшчэ дзеля таго, што выратаваньне рэшткі нашай, ужо вельмі ўбогай жывой прыроды і далейшае яе падтрыманьне і ахова, меней усяго залежаць ад формальнага законадаўства, якое заўсёды імкнулася абмежаваць празьмерны ўплыў чалавека ў справе спусташэньня прыроды, а цалкам знаходзіцца якраз у вашых, т-шы настаўнікі, руках. Вялікі ўплыў у вёсцы савецкай школы ў сувязі з усеагульным абавязковым навучаньнем, у значнай меры дапаможа пропагандзе ідэй абароны прыроды. Школьная моладзь, якая зьяўлялася ў нас да гэтага вельмі часта чыннай удзельніцай руйнаваньня жывога сьвету, лёгка можа быць Вамі накіравана ў бок руплівай абароны

акружаючай прыроды. Але раней, чым казаць аб тых спосабах, якія трэба ўжыць дзеля абароны прыроды і аб тэй ролі, якую павінна ў гэтым адыграць новая школа, дазвольце троху болей конкрэтна высьветліць гэту справу рознымі прыкладамі, прычым я абмяжуюся выключна лёсам мясцовай фаўны, якая мае для нас, зразумела, бліжэйшае значэньне і, разам з тым, найболей мне знаёмая.

Вы, напэўна, ведаеце, што ўся цяперашняя Беларусь, яшчэ, параўнаўча, у нядаўнія гістарычныя часы, амаль уся была пакрыта непраходнымі лясамі, багата населенымі рознастайнымі пародамі зьвяроў і птушак. Між іх было шмат жывёл, якія ўжо аканчальна зьніклі пад уплывам чалавека. Да ліку жывёл, якія зьнішчаны ў нядаўнія гістарычныя часы, належаць такія цікавыя віды, як тур або першабытны бык—Boos primigenius, які лічыцца прародзічам хатняй, буйнай рагатай скаціны і які насяляў лясы Заходняй і Сярэдняй Эўропы. У дзікім стане гэта жывёла сустракалася яшчэ ў пачатку XVII сталецьця. Апісаньне яго і малюнак дадзены (у пачатку XVI веку) быўшым паслом пры двары вялікага князя Васіля Іванавіча і караля Жыгімонта Аўгуста ў Польшчы—баронам Гербэртштэйнам (гл. Rerum Moscoviticarum Commentarii Sigismundi liberi Baronis in Herberst 1556, ст. 109,110).

З іншых прадстаўнікоў паракапытных, якія былі зьнішчаны ў Беларусі, зьяўляецца таксама добрародны алень (cervus elaphus), які сустракаўся ў мясцовых лясох да пачатку XIX сталецьця. Пасьля гэтага толькі дзе-ні-дзе ў панскіх парках ён штучна ўтрымваўся яшчэ некаторы час. Але найболей сьвежа гісторыя ужо зьнікшага на нашай тэрыторыі самага буйнага з сучасных у Эўропе, сысуноў зубра, які вымер у лясох Нямеччыны ў палове XVI сталецьця і які ў Літве і Беларусі ў дзікім стане сустракаўся яшчэ ў XVIII сталецьці. Апошняе стада іх у некалькі сот галоў старанна ахоўвалася ў Белавескай пушчы (б. Горадзенскай губ.). У працягу апошняй вайны ды за час нямецкай окупацыі Заходняй Беларусі белавескі зубр аканчальна зьнішчаны і ў дзікім відзе ўжо не сустракаецца[1]).

З драпежных былі зьнішчаны на тэрыторыі Беларусі дзікая кошка (Felis sylvestris scheb), якая сустракалася дзе-ні-дзе яшчэ ў пачатку XIX сталецьця і ў канцы таго-ж сталецьця канчаткова выбіта расамаха (gulborealis[2]). Дзеля таго, каб мець хоць некаторае ўяўленьне аб колькасьці дзікіх жывёл, якія вадзіліся ў лясох Беларусі, будзе цікавым прывесьці некаторыя даныя аб вывазе рэчаў паляўнічага промыслу з беларускіх губэрань, паводле матар'ялаў, якія захаваліся ў губэрскіх статыстычных справаздачах і апісаньнях розных аўтараў (Сапуноў, Дэмбовецкі і інш). Так, напрыклад, каля 70 гадоў таму назад (1859 г.) толькі з аднэй Віцебскай губ. па рацэ Заходняй Дзьвіне ў Рыгу было адпраўлена 215 пудоў ласіных скур і 15 пудоў ласіных рагоў. Ласіная скура каштавала тады ад 3 да 5 рублёў. Дзікіх коз было так багата, што яны цаніліся за адзінку ад $1^1/_2$ да 2 рублёў. У XVI сталецьці, у часы караля Жыгімонта I, у лясох куніцы былі настолькі звычайны, што пры судовых міравых угодах з старон, якія мірыліся, бралася т. зв. „заміршчына", г. значыць міравы падатак, „па куніцы шэрсьцю" і, як відаць, гэта ня было чым-колечы цяжкім для выкананьня.

---

[1]) Гл. аб гэтым мой-жа артыкул: „Да лёсу белавескага зубра". (нэкролёг). час. „Наш Край" № 6-7 (9-10).

[2]) Да ліку жывёл, якія былі зьнішчаны ў Беларусі, трэба аднесьці птушак: баклана, які гняздзіўся ў Пінскіх балотах і колпіцу.

Тым ня менш, ужо ў XVII сталецьці зьмяншэньне каштоўных жывёл, пад уплывам згубнай дзейнасьці чалавека, рабілася відавочным, і літоўскі ўрад выдаў шмат грамат, якімі забаранялася паляваньне на больш каштоўных зьвяроў. Праўда, гэта забарона датычылася толькі сялян; прывілейныя-ж клясы—буйныя зямляўласьнікі—палявалі паранейшаму. Але, ня гледзячы ні на якія формальныя забароны і строгія кары, уключна да кары сьмерцю за забойства зубра або дзікай казы, гэтыя і іншыя жывёліны ўсё роўна нішчыліся. Як відаць, у лёсе нашых буйных дзікіх зьвяроў няўдзячную ролю адыгралі спачатку 1812 год, у часе наполеонаўскай вайны, калі беларускія лясныя гушчы запоўніліся шматтысячнымі арміямі, а затым 1863 год, калі тут-жа адбывалася ўпартая партызанская барацьба польскіх паўстанцаў, якія хаваліся ў глухіх лясох. Але, напэўна, рашучае значэньне ў лёсе большай часткі нашай каштоўнай паляўнічай фаўны мелі падзеі з 1914 г. па 1920 г. Два гады таму назад, па думцы гуртка паляўнічазнаўства пры б. Інстытуце сельскай гаспадаркі ў Менску, шмат было выпушчана анкет, якія сабралі матар'ял аб стане нашай буйнай фаўны цяпер, і пры параўнаньні вынікаў з становішчам да вайны, атрымаўся малюнак вельмі адмоўны. Паказаныя дыяграмы распаўсюджваньня найгалоўнейшых відаў нашай паляўнічай фаўны, укладзеныя мной на падставе апрацоўкі 1.000 анкет, назьбіраных ад усіх лясьніцтваў і сельсаветаў Беларусі, навочна ілюструюць дынаміку паасобных відаў за гэту страшную для шэрагу каштоўных жывёлін дэкаду 1914—1924 г.

Дыяграма распаўсюджаньня мядзьведзя 1915-1925 гг.




Дыяграма распаўсюджаньня лася 1915-1925




Якраз такому-ж спусташэньню за гэты час падпаў і наш лес. Яшчэ нядаўна беларускія абшары славіліся лясістасьцю, грымела пагаласка аб славутым Палесьсі з яго глухімі лясамі, багатай фаўнай, прыгожымі легендамі аб яго насельніках, іх асаблівым быце і абліччы. І ўсё гэта адышло ўжо ў галіну гісторыі. Нямногія з вас, пэўна, ведаюць, што ў цяперашні час падлік у процантах лясістасьці Беларусі гавора нам, што мы ў гэтых адносінах ужо займаем месца ніжэй нямеччыны, г. зн. краю, які прывозіць да сябе лес. Так, паводле даных проф. Перахода, якія адносяцца да 1925 году, у нас лясістасьці ня болей 26 проц., а сапраўды, напэўна, меней, бо плошчы, якія лічацца пад лесам, вельмі спустошаны хаотычнай рубкай. Не гаворачы аб экономічным значэньні паданых фактаў, само сабой вынікае пытаньне аб ахове лесу, або, дакладней, некаторых вучасткаў яго, ужо як помнікаў прыроды, якія трэба захаваць у непарушаным відзе для патомкаў.

Але ня толькі лес, як асабістая прыродная комбінацыя жыцьця, павінен быць захован, але і паасобныя компонэнты лесу або іншых месц, у нас у шмат якіх выпадках заслугоўваюць найменьня помнікаў прыроды. Бобр (багатая літаратура аб якім сьведчыць аб былой шырокай яго распаўсюджанасьці, у гэты час зьяўляецца ўжо ні чым іншым, як нэкралёгам) цудоўным спосабам захаваўся ў некалькіх кутках Беларусі і, вядома, у першую чаргу заслугоўвае назвы помніка прыроды і патрабуе пільнай абароны. Аднак, што мы бачым у рачаіснасьці? Ня гледзячы на існуючую формальную забарону забіваць бабра ня толькі ў нас, на Беларусі, але і ва ўсім сьвеце, за выключэньнем Канады (дзе бобр адраджон і дае ўжо вялікі прыбытак), бабра ўсё-ткі і цяпер нішчаць пры першым выгодным выпадку. З таго часу, як я бліжэй пачаў знаёміцца з распаўсюджанасьцю бабра ў Беларусі, я ўпэўніўся, што ў кожным месцы яго знаходжаньня можна констатаваць факты яго зьнішчэньня, якія сьцьвярджаюцца рачавымі довадамі ў відзе скур, частак шкілетаў і г. д.

Дыяграма распаўсюджаньня дзіка 1915-1925 г.




Але ня толькі адзін бобр у нас набыў значэньне рэлікту прыроды. З поўным правам на тэрыторыі сучаснай Беларусі гэта становішча заняў ужо і лось. Калі-б мне давялося ўкласьці карты распаўсюджаньня лася толькі 30 год таму назад, то я павінен быў-бы папросту замаляваць усе раёны Беларусі, а вось (стар. 9)—цяперашняя карта яго распаўсюджаньня.

Дыяграма распаўсюджаньня казы 1915-1925 г.г.




Заслугоўвае ў нас абароны яшчэ цэлы шэраг жывёл і расьлін. З першых адзначым такія віды, як гагара-нырэц (Colymbus arcticus), шэры гусь (Anser anser), якія вельмі рэдка плодзяцца ў нас і зьяўляюцца рэшткамі формаў тундравай фаўны, побач з беляком ды пардвой, якая калісь, можа быць, мела тут болей шырокае распаўсюджаньне. Да такіх-жа рэліктаў пасьляледавіковага пэрыоду трэба аднесьці нашу стронгу пярэстую (Salmo fario), якая дзе-ні-дзе захавалася ў нашых сьцюдзёных ручайкох. Нават такі драпежнік, як арол вялікі, які надта рэдка сустракаецца ў нас, павінен быць узяты пад ахову, ня гледзячы на яго шкоду для паляўнічай гаспадаркі, калі толькі сапраўды гаварыць аб ахове прыроды. У Нямеччыне арлы ўжо даўно ахоўваюцца.

З расьліннага сьвету надта важна захаваць дзялянкі нечапанага лесу ўсіх тыповых дрэвастанаў, але асабліва шкода будзе, у выпадку згубы, тысячалетніх дубовых лясоў і гаёў ва ўсходніх частках сярэдняй Беларусі, у Гомельшчыне, на Сожы і Дняпры. Іх захаваць неабходна

ў першую чаргу. З паасобных відаў заслугоўваюць поўнай аховы, з прычыны іх навуковага значэньня ў даных абставінах, такія віды, як Asalia pontica, Linnea borealis, salvinia notans, Empetrum nigrum і іншыя рэлікты, якія сьведчаць аб мінулай гісторыі краю і якім у будучыне, з разьвіцьцём земляробскай культуры, з разьвіцьцём мэліарацыйнай справы ў краі, пагражае зьнішчэньне.

Хто іншы, як ня вы, настаўнікі-прыроднікі, хутчэй зразумее навуковае значэньне гэтых, пакуль што яшчэ мала каму цікавых жывых помнікаў, жывых малюнкаў у вялізнай кнізе прыроды, якая запісала жывымі сымболямі пазьнейшую гісторыю нашай плянэты?

Такім чынам, вы бачыце, што патрэба ў сапраўднай ахове прыроды, нават, ня кажучы аб экономічным значэньні, у нас вельмі насьпела, а пакуль што ў гэтым кірунку ў нас зроблена зусім мала. Дзеля таго, каб даць паняцьце аб тым, якое значэньне надаюць пытаньням аховы прыроды заграніцай, і каб лягчэй было намеціць і нам сваю програму ў гэтым пытаньні, я спробую даць невялічкі нарыс становішча гэтага пытаньня там за апошні час, паколькі гэта магчыма зрабіць, працуючы ў мясцовых умовах, куды слаба даходзяць так патрэбныя для нас навіны.



СХЭМАТЫЧНАЯ КАРТА РАСПАЎСЮДЖАНЬНЯ У Б.С.С.Р.
ЛАСЯ
(Alces machilis Ogilby)
на 1925 г.
(Паводле А. У. Фядзюшына, Охотн. хозяйство Белоруссии.")
Маштаб 80 вёрст у цалі

У 1910 годзе на 8-ым міжнародным зьезьдзе зоолёгаў у Граце, вядомы зоолёг і падарожнік па Цэйлону Пауль Сарацын сказаў прамову пад загалоўкам „Ueber Weltnaturschutz“ *), прысьвячоную пытаньню аховы жывёл і расьлін. У гэтай прамове Сарацын падаў думку аб організацыі на востраве Шпіцбэргене міжнароднага запаведніка. На гэтым-жа зьезьдзе, па ініцыятыве П. Сарацына, была ўтворана міжнародная камісія з прадстаўнікоў розных дзяржаў з тым, каб кожны з іх клапаціўся і дзейнічаў у сваёй дзяржаве ў інтарэсах аховы прыроды. Затым, у 1913 годзе ў лістападзе ў г. Бэрне (Швайцарыя) адбывалася міжнародная нарада аб сусьветнай ахове прыроды. Гэта нарада зьявілася вынікам выступу ўжо памянёнага П. Сарацына ў 1910 г. ў Грацы (Аўстрыя) на конгрэсе зоолёгаў. Восемнаццаць дзяржаў прыслалі на гэту нараду сваіх прадстаўнікоў: Аўстралія, Аўстрыя, Аргентына, Бэльгія, Вялікабрытанія, Вэнгрыя, Нямеччына, Голяндыя, Данія, Гішпанія, Італія, Норвэгія, Португалія, Расія, Паўночна-Амэрыканскія Злучаныя Штаты, Францыя, Швайцарыя і Швэцыя. Ня ўсе дэлегаты на зьезьдзе былі вучоныя, шмат з іх зьяўляліся дыплёматамі адпаведных краін. Ад Расіі на гэтым зьезьдзе прысутнічалі—ботанік-акадэмік Барадзін і зоолёг проф. Кажэўнікаў.

*) Paul Sarazyn. Ueber Welthaturschutz Verhandlungen des VIII Internationalen Zoologen-Kongresses Im Graz 15—20 august 1910. Jena, 1912.

У пачатку нарады П. Сарацын прачытаў вельмі грунтоўны даклад на тэму: „Аб задачах сусьветнай аховы прыроды“ *), дзе паказвалася на надзвычайна хуткае зьнішчэньне жывёл чалавекам, асабліва згубнае там, дзе да гэтай справы прымешаны капітал. Найболей жахлівымі былі такія прыклады, як зьнішчэньне трох мільёнаў бізонаў у працягу аднаго 1876 году ў Паўночнай Амэрыцы—вынік дзейнасьці акцыонэрнай кампаніі для здабычы скур—або вываз з аднэй толькі голяндзкай часткі Новай Гвінэі ў 1910 годзе птушыных скурак для жаночых капялюшаў на суму каля 634 тысячы франкаў. Пры гэтым зьнішчаліся найбольш каштоўныя птушкі, як, напрыклад: райскія, якія даюць надзвычайна яскравыя пер'і. У ангельскай-жа частцы Новай Гвінэі райскія птушкі, вянцаносныя голубы (goura coronata Flem) і шмат іншых былі ўзяты пад спэцыяльную ахову. З прычыны таго, што прапаведзь паміж жанчын, асабліва ў Парыжы (гэтым законадаўцы мод) аб тым, каб яны самахоць адмовіліся ад аздобы сябе пер'ямі, посьпеху ня мела, у шмат якіх дзяржавах выданы законы, якія забараняюць прывоз экзотычных птушак і іх скурак з мэтаю промыслу. Гэта пачала Англія, якая забараніла вываз птушыных скурак з Індыі і прывоз іх у Вялікабрытанію. Затым вышла забарона вывазу птушыных скурак і з Аўстраліі і нямецкай часткі Новай Гвінэі. У Злучаных Штатах таксама выдалі загад, паводле якога ня толькі забаронены прывоз туды ўсялякага роду пер'яў, апрача пер'яў хатніх птушак, але нават падарожніцам не дазваляецца прыяжджаць у капялюшах з пер'ямі дзікіх птушак. З дакладаў розных прадстаўнікоў іншых краін высьветлілася, што справа аховы прыроды ахапіла амаль усе дзяржавы, а ў Нямеччыне (Прусіі) яна асабліва цьвёрда пастаўлена. Так, дзякуючы стараньням конвэнту, існуе спэцыяльная ўрадавая ўстанова—„Amfliche Stelle für Naturdenk malpflege“ (Berlin, grunewaldstrasse), якая кіруе аховай „помнікаў прыроды“. У Прусіі ахоўваюць ня толькі дзялянкі лесу, балот і інш., але нават маленькія групы дрэў або нават паасобныя дрэвы, буйныя валуны і г. д.

Адносна аховы птушак у Прусіі шмат напісана ў „календары“, прысьвечаным абароне птушак—„Vogelschutz Kalender“ (Выд. т-ва аховы птушак). Асаблівай увагі заслугоўвае тут артыкул д-ра Клозэ пад назваю: „Ueber die rechtliche Steling der Vogelwelt in Preussen“ („Прававое палажэньне птушынага сьвету ў Прусіі“). У гэтым артыкуле Клозэ дае цікавыя спраўкі аб нямецкім законадаўстве па пытаньні аб ахове птушак. У вадзнаку ад нашага законадаўства, у Нямеччыне закон паляўнічы і закон аб ахове птушак („Das reichsvogelschutz gesetz“ ад 30 траўня 1908 г.)—ёсьць розныя законы, у розныя часы выдадзеныя, прычым паляўнічыя законы носяць мясцовы характар, а аб ахове птушак—зьяўляецца агульнадзяржаўным. Такім чынам, адразу відаць, што ў Нямеччыне справе аховы птушак надаюць вялікае значэньне. Ды сапраўды, там няма ніводнай птушкі, якую мог-бы забіць кожны, хто пажадаў. Аб гэтым кажуць многія зьезды (Бэрлін, Штутгарт, Гамбург і інш.), прысьвечаныя пытаньням абароны птушак.

У Швайцарыі ёсьць запаведнік „Швайцарскі нацыянальны парк“ у 200 кв. кілёмэтраў у Энгадынскай лагчыне, утвораны стараньнем „Швайцарскага саюзу дзеля аховы прыроды“, што налічвае ў сваім складзе 25.000 сяброў, якія даюць штогод па аднаму франку сяброў-

*) Paul Sarazyn. Ueber die Aufgaben des Weltnaturschutzes. Basel, 1913,

скага ўзносу. Гэта ёсьць тып абсолютнага запаведніка, дзе ўсё ідзе без усялякага ўмешваньня чалавека.

Па ўсёй рэспубліцы ахоўваецца буйны арол—барадач gupaetus barbatus), ня гледзячы на яго шкадлівасьць для сельскай гаспадаркі. У Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах каля 10 гадоў таму назад была распачата організацыя на ўсходзе вялізарнага дзяржаўнага Апалачскага парку, плошчаю ў 1.000 кв. міль, які таксама, як і вядомы на захадзе Іельлёстонскі парк, павінен служыць прытулкам для захаваньня ў непарушнасьці фаўны і флёры. Апрача таго, там узьнікла „Т-ва аховы бізона". Паводле даных гэтага т-ва. да 1/I 1923 г. ў Амэрыцы бізонаў налічвалася 12.457 штук (дзікіх—каля 1.000). Падобнае-ж т-ва, аб якім я забыўся сказаць раней, ёсьць у Нямеччыне ў Франкфурце на Майне—„Т-ва аховы зубра".

Лік запаведнікаў у Амэрыцы хутка расьце і ў апошні час павялічыўся яшчэ на адзін, які быў заснованы прыватнай асобай—Мак-Ільчэні (штат Лузыяна). Плошча яго была 25.000 дзес., а цяпер ужо каля 100.000 дзесяцін. У Шытрыі, Далмацыі, Карынцыі і Крайні усюды ёсьць невялічкія запаведнікі; асабліва ахоўваюцца птушкі, апрача шкодных. У Далмацыі, напрыклад, узяты пад поўную ахову цецярукі. У Бэльгіі, паводле даных проф. Массара, дазволена забіваць, як шкоднікаў, ва ўсякі час ястрабаў, перапел, крачак (шкодных для рыбнай гаспадаркі). Птушкі-ж морскага ўзьбярэжжа—чайкі, крачкі і ўсе мошкаедныя—карыстаюцца поўнай абаронай.

У Францыі, ня гледзячы на яе абязьлесьсе, наладжан лясны запаведнік плошчаю да 200.000 дзесяцін. Абмяжоўваньне права вывазу і гандлю пер'ямі дзікіх птушак-прымусіла, паводле слоў акадэміка Пэрр'е, адну фірму, якая гандлявала аздобамі з пер'яў, вызначыць прэмію ў 10.000 франкаў за тое, каб зрабіць хатняй птушкай белую чаплю, якая дае жаночыя „эгрэткі".

У Вялікабрытаніі існуе закон аб ахове прыроды і асобна—аб апецы над птушкамі, які дае шырокую магчымасьць ажыцьцяўляць гэту абарону на практыцы. Існуе каралеўскае т-ва абаронцаў птушак (Royal Society for the Protestion of Birds) з уласным запаведнікам. Ня так даўно ўзьнікла там-жа цікавае т-ва для ўтварэньня запаведнікаў (Society for the Promotion of Nature Reserves). Апрача таго, ёсьць „Нацыянальны саюз" (The National Trust) для аховы помнікаў гістарычных і прыроды.

Дзеля аховы фаўны ва ўсей Брытанскай імпэрыі ва ўсіх частках сьвету ёсьць спэцыяльнае т-ва (Society for Protestion of the Fauna of the Empire). У шмат якіх мясцох уздоўж узьбярэжжа, дзе праходзяць пералётныя шляхі птушак. тэлеграфныя драты зьняты і заменены падземным кабелем, што забясьпечвае вельмі шмат птушак ад згубы, бо яны разьбіваюцца аб дрот уначы ў час пералётаў. З гэтайжа мэтай устаноўлены абараняючыя сеткі каля маякоў.

У ангельскіх колёніях ёсьць буйныя запаведнікі—рэзэрваты, дзе дзічына вольна плодзіцца і знаходзіцца пад аховай. З іх асабліва цікавы запаведнік у Брытанскай Усходняй Афрыцы ў провінцыі Уганду. Праз гэты вялізны рэзэрват праходзіць чыгунка ад Момбазы на захад. Гэта—абсолютны запаведнік, плошчаю ў 25.000 кв. вёрст. Там усякае паляўніцтва забаронена, дзякуючы чаму захавалася надта многа дзікіх жывёл. Вось як апісвае сваё тут падарожжа проф. Догель: „Каля 6 гадзін падрад цягнік ідзе як-бы праз вялізарны заолёгічны сад. Па баках ад дарогі, часам 100-200 крокаў ад рэек, пасьвяцца стады прыгожых газэляй, брыдкіх доўгамордых антылёпаў-конгоні, пярэстых зэбраў.

Часам жывёлы, угледзеўшы цягнік, спакойна шчыплюць траву, а часам палахліва аглядаюцца ў бок цягніка і кідаюцца наўцекі вялікімі скачкамі. Гэтай звычайнай дзічыны так многа, што кожны ўзгорак, кожная лагчынка пярэсьціць кропкамі гэтых жывёлін, якія падобны да звычайнай скаціны на выгане. Гэтых дзікіх жывёлін там так многа, дзякуючы толькі строгай ахове. Брытанская Ўсходняя Афрыка—адзінае месца на зямной кулі, дзе яшчэ захавалася многа буйнага дзікага зьвера. Каб ня было тут строгіх мер аховы, дык у працягу нязначнага часу і тут поўнае зьнішчэньне дзічыны зрабілася-б нямінучым, што мы і бачым на прыкладах Паўднёвай Афрыкі і Трансваалю. Там за якія-колечы 40 год, зусім зьніклі мільённыя стадкі антылёпаў, зьнішчаны адзін від дзікага каня—кагга, вымер паўднёва-афрыканскі носарог і г. д. Апрача паказанага рэзэрвату, існуе шмат меншых запаведнікаў, напрыклад, на поўначы ад гары Кенія. У некаторых з іх ахоўваецца толькі частка жывёл; напрыклад, забаронена страляць *шрубарогую* антылёпу, куду (Strepsi cerus). Пад поўную ахову на ўсім працягу Брытанскай Афрыкі ўзяты штраўсы і буйная антылёпа эляіда (Taurotragus), над якой робяцца спробы, каб зрабіць яе хатняй. Амаль пад такой-жа аховай знаходзяцца сланы, з якіх дазволена забіваць толькі самцоў і пры тым у якіх вага кожнага клыка ня меней 30 фунтаў, і, апроч таго, прыплачваецца каля 100 руб. золатам за кожнага слана.

Да ліку іншых мер аховы, якія дапамагаюць захаваньню дзічыны, належыць надта высокі мытны збор на зброю, якая сюды прывозіцца, і на права паляваньня. Лік жывёл, якія дазваляецца страляць, строга ябмяжованы.

У Голяндыі ў 1910 г. заснована Інда-Голяндзкае т-ва абароны прыроды.

Португальскі ўрад забараніў у сваёй мозамбікскай колёніі забіваць марабу, белых чапляў, штраўсаў і зьбіраць яйкі дзікіх птушак.

Вельмі шмаг у справе аховы прыроды зроблена як урадам, так грамадзкімі організацыямі ў Аўстраліі. Амаль што ўсе гарады маюць там запаведнікі. Напрыклад, на запаведнік каля Сіднею траціцца штогод горадам каля 12.000 франкаў. Шмат жывёл узята пад поўную ахову, і паляваньне на іх забаронена.

Другая нарада міжнароднага таварыства па ахове прыроды павінна была адбыцца ў г. Базэлі ў верасьні 1914 г., але сусьветная вайна прымусіла надоўга адкінуць такія мірныя пытаньні, як ахова прыроды, а пасьля парушаная сувязь з Захадам перашкодзіла сачыць у поўнай меры за разьвіцьцём гэтае справы там.

У нас-жа, у дарэволюцыйнай Расіі, пры расійскім географічным т-ве існавала так званая сталая Прырода-ахоўная камісія, у задачы якой уваходзілі клопаты аб ахове найбольш цікавых і важных у навуковым сэнсе куткоў прыроды, а таксама ўзбуджаць зацікаўленасьць у шырокіх колах насельніцтва і ўраду да пытаньняў аховы прыроды. Гэта камісія ўзьнікла пасьля дакладу акадэміка І. П. Барадзіна, аднаго з пачынальнікаў гэтай справы ў Расіі. „Раскінуўшыся на аграмадным абшары ў дзьвюх часьцях сьвету, мы зьяўляемся валадырамі ў сваім родзе адзіных скарбаў прыроды. Гэта такія-ж самыя унікі, як, напр., малюнкі Рафаэля; зьніштожыць іх лёгка, але ўтварыць нанова няма магчымасьці“, гавора ў сваім цікавым артыкуле І. П. Барадзін. Вядомы популярызатар Вільгельм Бэльше ў сваім артыкуле „Думкі аб райскіх птушках“, хочучы пераканаць „няўспрыймальную да разуменьня прыроды публіку“, што зьніканьне райскіх птушак з усёй зямлі будзе

вялікай бядой, таксама, як і Барадзін. прыпадабляе гэта таму, „як калі-б зьнікла з усёй зямлі Сікцінская Мадона і каля дзьвесьце іншых выдатнейшых твораў мастацтва“. Што датычыцца мяне, дык я зусім далучаюся да слоў, сказаных аб гэтым пытаньні настаўнікам проф. Г. А. Кажэўнікавым: „Я-бы дадаў яшчэ да гэтага,—кажа ён,—што копіі і фотографіі ў большай меры замяняюць зьніканьне твораў мастацтва, чым музэйныя прэпараты ды чучалы—зьніканьне жывых істот. У тым, што беспаваротна перастала існаваць не знадворная форма, а сваяаблічнае злучэньне жывых сіл, ды, прытым, злучэньне не індывідуальнае, а відавое, ёсьць нешта глыбока трагічнае, і сумна, што шмат хто не ўсьведамляе гэтага трагізму.

Куды важней адзначыць першы момант у Расіі грамадзкага пачынаньня ў справе аховы прыроды.

У 1911 годзе, у мястэчку Хортыца, там, дзе была калісьці славутная Запароская Сеч, сярод немцаў-колёністых узьнікла першая ў Расіі т-ва ахоўвальнікаў прыроды. З 215 членаў т-ва было толькі 10 расійцаў, але пачынальнікам і галоўным натхніцелем гэтага пачынаньня быў расіец—Пётр Піліпавіч Бузук. У хуткім часе т-ва разьвінула энэргічную дзейнасьць у сэнсе распаўсюджваньня сваіх ідэй. Удалося дабіцца наказу, праз дырэктара народных школ, настаўнікам аб тым, каб апошнія вытлумачылі школьнікам, што ня можна руйнаваць птушыных гнёздаў ды мучыць жывёлін. Праз сельскія праўленьні загадалі, каб на палявыя работы ня бралі сабак бяз прывезі, бо тыя сабакі, якія вольна бегаюць па палёх і лясох, нішчаць шмат дзічыны. Рабіліся штучныя гнязьдзілішчы для птушак ды разьмяшчаліся ў садох і, урэшце, заарандавалі вучастак зямлі, дзе паляваньне было спынена, і, такім чынам, залажылі першы грамадзкі запаведнік. Хортыцкаму т-ву ўдалося таксама абараніць ад руйнаваньня некалькі прыгожых скал на Дняпроўскіх парогах, якія меліся ўжыць на ломку каменю. Такім чынам, відаць, што гэта першае т-ва аховы прыроды шырока і правільна разумела свае задачы і ў гэтым сэнсе апынулася наперадзе нават нашых сталічных організацый, якія практычна ў той час да справы аховы прыроды не прыступілі.

Вялікая вайна затрымала зьдзейсьненьне ідэй аховы прыроды, хоць у 1916 г. ў кастрычніку выдалі закон аб запаведніках (Собран. Узакон. и Распоряж. Правительства от 30-Х 1916 г., № 304, отд. первый, ст. 2396), згодна якому міністру земляробства давалася права ствараць запаведнікі для захаваньня і гадоўлі паляўнічных і прамысловых зьвяроў і птушак.

Для гэтага ў 1915 г. былі вызначаны: Саянскі паляўнічы запаведнік, амаль што роўны па плошчы Іельлёстонскаму парку, г. зн. каля 500.000 дзес., а таксама на ўсходнім беразе Байкалу—Баргузінскі, плошчаю да 350.000 кв. дзес., галоўнае прызначэньне якіх была ахова собаля.

З прыватных організацый, накіраваных да аховы прыроды, бязумоўна самай выдатнай установай зьяўляўся маёнтак Фальц-Фэйна „Асканія Нова“, які быў вядомы ня толькі ў нас, але і за межамі. Апрача вельмі цікавых у навуковым сэнсе спроб па акліматызацыі ды скрыжаваньні розных парод дзікіх жывёлін, Асканія Нова насіла характар стэпавага запаведніка, дзе 500 дзес. нечапанага стэпу ніколі ня ўзорвалася. Пасьля рэволюцыі былі закладзены яшчэ запаведнікі ў Крыме для аховы крымскага лесу і аленя, галоўным чынам; потым на Каўказе—для аховы апошніх каўкаскіх зуброў; у дэльты Волгі—для

аховы водаплывучых птушак, якіх тут было ў вялікім ліку, шэраг болей дробных запаведнікаў у іншых мясцох (Косіно, Ласінаастроўскія дачы, Ізмайлаўскі зьвярынец пад Масквой і інш.) і, урэшце, у мэтах аховы, галоўным чынам, бабра і рэшты лася, у студзені 1925 г. пастановай Саўнаркому Беларусі ўстаноўлен запаведнік у нас, на поўначы ад воз. Пялік, у Барысаўскай акрузе, плошчаю да 70.000 кв. дзес.

У Савецкім Саюзе, асабліва ў сувязі з краязнаўчым рухам, які дасягнуў зараз у нас, як вам вядома, вялікіх разьмераў, пытаньні аховы прыроды даволі прыметна высунуты як з боку ўрадавых арганізацый, так і з боку грамадзкіх. Першы дэкрэт аб ахове прыроды быў напісан яшчэ ў 1921 г. У. І. Леніным. Пазьней (1925 г. ў кастрычніку) у іншай рэдакцыі дэкрэт гэты зноў быў апублікаваны. І на гэты раз у ім падрабязна былі вызначаны мэты і парадак закладаньня, а таксама і кіраваньня запаведнікамі. Пры Галоўнавуцы быў устаноўлены пададдзел па ахове прыроды; на 1-ым Усерасійскім зьезьдзе золёгаў у 1922 г. ў Ленінградзе між іншымі рэзолюцыямі была прынята рэзолюцыя, паводле якой зьезд лічыць неабходным, каб ахова прыроды ў рэспубліцы была пастаўлена належным чынам і з адпаведнай выдачай на гэта сродкаў, прычым была зьвернута ўвага на тэрміновасьць мер па ахове каўкаскіх зуброў, як апошніх прадстаўнікоў гэтага віду, якія жывуць у дзікім стане на зямной кулі.

На апошнім зьезьдзе золёгаў у 1925 г. ў Маскве было арганізована Усерасійскае т-ва аховы прыроды. У Беларусі-ж, пры Інбелькульце працуе Камісія па ахове помнікаў старасьветчыны, мастацтва і прыроды. Гэта пакуль адзіны афіцыяльны ў нас орган, які павінен клапаціцца і аб ахове прыроды.

Такім чынам, вы бачыце, што шмат якія дзяржавы з болей густым насельніцтвам і інтэнсыўнай культурай раней нас сустрэлі пагрозу жыць сярод спустошанай прыроды і ў тэй або іншай форме прыняліся за вырашэньне гэтага пытаньня. У нас-жа за гэту справу ўзяліся троху пазьней, але ў той час, калі на Захадзе ідэю аховы прыроды насельніцтва лёгка ўспрыймае, у нас гэтага няма. Прыклады неашчаднага драпежніцкага карыстаньня прыродным багацьцем у нас занадта відавочны. Вось як характарызаваў вынікі гэтых драпежніцкіх адносін у нас да прыроды памёршы проф. Сіланцьеў: „Лясы зьнікаюць і замяняюцца пустырамі, выжарамі, патраўленымі скацінай, крываворослымі рэдкімі хмызьнякамі, або, у лепшым выпадку, сельска-гаспадарчай ральлёй; рэчкі, вазёры і балоты мялеюць або зусім высыхаюць. Разам з гэтым, зьнікае шмат жывёлін і расьлін, часткай з прычыны зьмены прыродных абставін, пры якіх яны трацяць ранейшыя выгодныя месцы для засяленьня і распладненьня, часткай-жа дзеля непасрэдных уплываў самога чалавека, які нішчыць ня толькі патрэбную яму фаўну і флёру, але і з прычыны адсутнасьці ў нас ашчадных і добрых адносін да дароў прыроды наагул, досыць часта нават і зусім яму непатрэбных. Забіць, па забабоннай думцы аб яе шкоднасьці, любую жывёлу проста, без усялякай прычыны, а толькі таму, што яна падвярнулася пад руку,—у нас самае звычайнае зьявішча. Таксама мала хто пройдзе каля дрэва або хмызьняка без таго, каб не адшчыпнуць ліст, адламаць галінку, вяршаліну дрэўца або нават рубануць па дрэву сякэрай. Усё, што мае хоць малейшую каштоўнасьць, нішчыцца без усялякай гаспадарчай ашчаднасьці, і ўсё гэта, па думцы проф. Сіланцьева, робіцца дзякуючы „ўсёй супольнасьці ўмоў, якія праводзілі разь-

віцьцё сельска-гаспадарчай культуры ў Расіі, галоўным-жа чынам, з прычыны таго, што нам прыходзілася, пашыраючы земляробства на неабсяжных абшарах, вясьці цэлымі сталецьцямі ўпартую барацьбу з першабытнай прыродай; гістарычна стварыліся ў расійскага насельніцтва зусім неашчадныя, а хутчэй варожыя адносіны да прыроды і да паасобных яе элемэнтаў. А суровыя жыцьцёвыя абставіны бедных, малакультурных вясковых мас тым больш, вядома, не маглі дапамагчы разьвіцьцю ў іх ня толькі эстэтычнага пачуцьця, але, нават, элемэнтарнай літасьці і імкненьня да аховы натуральных багацьцяў прыроды. На вельмі вялікім абшары расьлі і жылі нашы продкі, і ў іх не магла выпрацавацца ідэя ашчадных адносін да лесу і лясной дзічыны, дзеля гэтага асноўным сьветапаглядам расійскага народу ёсьць уяўленьне аб іх, як аб дармовай карыснасьці, даступнай карыстаньню кожнага бяз усякіх абмежаваньняў: „Лес—боскі, птушкі і зьвяры—таксама боскія: сячы, лаві ды страляй, дзе і колькі хочаш, на наш век хопіць“, вось звычайная ідэолёгія селяніна лясного раёну Расіі“.

„Вядома, што тым менш цікавасьці можа ў нас выяўляць земляроб да аховы такіх жывёлін, як дробныя зьвяркі і птушкі, якія ня прыносяць ніякай відавочнай карысьці і праўдзівае значэньне якіх для сельскае гаспадаркі насельніцтву невядома. Дзякуючы гэтаму, толькі і могуць быць такія сумныя малюнкі руйнаваньня птушыных гнёзд, нішчэньня птушанят і наогул усяго жывога дзяцьмі, бадзячымі кошкамі і сабакамі, вынікам чаго зьяўляецца вялікае спусташэньне нашай зямлі ад птушак“ *).

І вось для перавыхаваньня мас, каб выгадаваць у насельніцтва яшчэ з дзіцячых год пачуцьцё замілаваньня да прыроды і ашчадных адносін да яе дароў і, прытым, ня толькі дзеля карысных мэт, а хутчэй дзеля ідэёвага падыходу да гэтага, патрабуюцца, галоўным чынам, не законадаўчыя мерапрыемствы, а выхавальныя. Роля школы, роля настаўніка ў справе аховы прыроды—вельмі вялікая.

Значэньне школы ў справе прыцягненьня насельніцтва да аховы прыроды заўсёды заўважалася, асабліва за межамі. А калі там у гэтых адносінах школа грала вялікую ролю, дык у нас да рэволюцыі школа ня мела магчымасьці зрабіць моцнага ўплыву ў гэтым кірунку, бо выкладаньне прыродазнаўства, з якім лягчэй за ўсё зьвязаць прапаганду ідэй аховы прыроды, у школах сельскіх і ніжэйшых, дзе якраз і патрабавалася максымальнае выхаваньне і ўплыў школы, бо вясковыя дзеці звычайна болей іншых нішчылі птушак,—там, паўтараю, словы аб прыродзе не вымаўляліся, а само прыродазнаўства ў нас часта далучалася да крамольнай дысцыпліны.

У нямецкай школьнай літаратуры ёсьць шэраг твораў, спэцыяльна накіраваных да падняцьця ў дзяцей інтарэсу да ідэй прыроды. Напр., у вышэйпамянёным „Voglschutz Kalender—1914“ ёсьць шмат артыкулаў для дзяцей. Адзін з іх мае мэтай популярызацыю сярод дзяцей пытаньня аб калцаваньні птушак; іншыя артыкулы носяць характар апавяданьняў з такімі, прыблізна, назвамі: „Дапамажэце нам супроць злых дзяцей“, дзе малюецца пасяджэньне птушак з прамовамі і протоколам.

Для больш шырокай публікі ў Нямеччыне ёсьць таксама спэцыяльныя часопісы, прысьвечаныя ахове прыроды, і з іх заслугоўвае

*). А. А. Сіланцьеў. „Как организовать в России охрану полезных для сельского хозяйства животных?“ Паасобны адбітак з „Сельского хозяйства и лесоводства“ за 1916 г., ст. 3-4.

большай увагі выданьне Дзяржаўнага Інстытуту для аховы помнікаў прыроды ў Прусіі пад загалоўкам—„Naturdenkmäler“ (Vortrage und aufsätze), якія выдаюцца паасобнымі выпускамі—сшыткамі і прысьвечаны аднэй звычайна тэме. Зусім нядаўна (1926 г.) зьявілася ў друку дужа цікавая кніга: „Wege zum Naturschutz“ пад рэдакцыяй проф. Waltera Schoenichen, у якой ёсьць некалькі артыкулаў выдатных вучоных на розныя пытаньні аховы прыроды. Наколькі шырока ў Нямеччыне праводзіцца ахова прыроды і які ў гэтым удзел прымаюць дзеці школьнага ўзросту, можна бачыць хоць-бы з таго, што там існуе цэлая фірма Бэрлейша, якая вырабляе выключна дуплянкі і іншыя штучныя гнёзды для прыцягненьня карысных птушак у сады, паркі і лясьніцтвы. У вадным толькі Бэрліне ёсьць дзіцячы саюз аховы птушак, які яднае 30.000 школьнікаў.

У Вэнгрыі ў школах штогод, побач з днём „пасадкі дрэў“, ладзіцца „птушыны дзень“, калі настаўнікі растлумачваюць школьнікам значэньне птушак у прыродзе, іх карысьць для чалавека, апісваюць іх біолёгію, заклікаючы да абароны птушак і, бязумоўна, ёсьць добрыя вынікі: нямецкія сады і паркі—поўны птушак, лясы маюць дзічыны ў такім ліку, аб якім мы нават марыць ня можам. Нашы-ж гарадзкія сады і паркі выглядаюць пустэлямі ў параўнаньні з нямецкімі.

У нас спэцыяльнай школьнай літаратуры аб ахове прыроды да апошняга часу ня было зусім, і толькі ў 1925 г. зьявілася брошура Н. Пад'япольскага—„Роль школы в деле охраны природы“ (Выд. „Новая Москва“), у якой гаворыцца аб ролі ў гэтым пытаньні школы з практычнага боку справы, а таксама артыкул Н. Дзергунова ў № 21 часопісу—„Листок биостанции юных натуралистов“ ад 5 лістапада 1925 г. пад назвай—„Привлечение и охрана птиц в трудовой школе“. Абодва артыкулы зьяўляюцца вельмі каштоўнымі падручнікамі для настаўніка, які пажадаў-бы на практыцы зьдзейсьніць ахову прыроды пры дапамозе дзіцячых організацый.

Апрача паказаных артыкулаў, ёсьць у нас па гэтым пытаньні яшчэ літаратура, але вельмі бедная; можна адзначыць артыкулы: акадэміка І. І. Бародзіна — „Охрана памятников природы“. Петроград 1914 г., выд. Русск. Географ. общ.; проф. Таліева В. І.—„Охраняйте природу“. Харьков, 1914 г.; проф. Б. М. Жыткова—„Охрана животных и разведение пушных зверей“. Москва, выд. „Задруга“, 1919 г.; Браўнэра—„Влияние человека на природу и охрана природы“. Харьков, 1923 г.; проф. Броцкага А.—„Охрана природы в Туркестане“. Ташкент 1923 г.; проф. Силанцьева А.—„Как организовать охрану полезных для сельского хозяйства животных. Журнал „Сельское хозяйство и лесоводство“, 1916 г. Урэшце будзе цікава прывесьці абежнік-ліст Наркамасьветы РСФСР ад 29-IV 1924 г. б. г. за № 3005, які вельмі дакладна выказвае пажаданы кірунак у працы школ і іншых дзіцячых установ у справе аховы прыроды. Справа аховы прыроды, якая, дзеля яе дзяржаўнага значэньня, зьяўляецца вельмі клапатлівай для Наркамасьветы, пры ажыцьцяўленьні сваіх задач адчувае патрэбу ў організаванай дапамозе школы. Школа павінна даць адпаведнае месца выхаваньню ашчаднай і спрыяючай увагі да прыроды і да жывога, павінна прышчэпліваць належныя навыкі, накіраваныя на ахову прыродных каштоўнасьцяй. У процэсе адукацыйнай працы школы трэба выясьніць вучням неабходнасьць захоўваць акружаючыя прыродныя багацьці ў інтарэсах:

1) гігіенічных (роля расьліннасьці ў якасьці генэратара тлену, сады і паркі—„лёгкія гораду“).

2) экономічных (шкоднасьць, якая робіцца драпежніцкім зьнішчэньнем прыродных багацьцяў, зьнішчэньнем жывёлін—хаўрусьнікаў земляроба і садавода і інш. драпежніцкае зьнішчэньне лясоў) і

3) навуковых (зьнішчэньне рэдкіх форм расьлін і жывёлы, амаль што помнікаў прыроды)".

Далей у гэтым-жа лісьце паказваецца, як на найлепшы спосаб для выхаваньня ашчадных адносін да прыроды, на наладжваньне ў школе „жывых куткоў", організацыю дрэўных пасадак, пабудову дуплянак-гнёзд для птушак, зьмяшчэньне жывёл у школе (у клетках, тэрарыях, водніках і г. д.). Зусім правільна паказваецца на тую прыметную шкоду нашым паркам і прыгародным лясом, што робіцца экскурсіямі, якія кепска наладжваюцца і маюць сваім вынікам масавыя зьнішчэньні зяляніны і жыўнасьці. Асабліва церпіць наша прыгародная прырода ў дні ўрачыстасьцяй, калі ў гарады вязуць вялізарны лік маладых дрэўцаў, галін і інш. зяляніны для аздобы будынкаў і, зразумела, школ таксама.

„Настаўніцтва павінна ўявіць сабе, што такога роду аздоба, якая робіцца, разам з тым, пры актыўным удзеле дзяцей, робіць вялікую шкоду як самім дрэвастанам, дзе гэта зяляніна вырубаецца і выламліваецца, так, і яшчэ ў большай меры, справе выхаваньня ашчаднай увагі да прыроды, аб чым была гутарка вышэй" (ibid).

У сярэдніх і старшых групах, разам з вывучэньнем прыроды і жыцьця мясцовага краю, ідэя аховы прыроды, як крыніцы матар'яльнага дабрабыту краю, павінна праводзіцца абавязкова. Такім чынам, у паказаным лісьце Галоўсоцвыху РСФСР даволі поўна вызначана роля школы ў пытаньні аховы прыроды і даюцца некаторыя практычныя мерапрыемствы.

Да гэтага можна дадаць, што праца ў школе, накіраваная да выхаваньня пачуцьця ашчадных адносін да прыроды, можа пачынацца нават з малодшага ўзросту, дзе ў час экскурсій і ў жывых кутках дзеці зблiжаюцца з жывой прыродай і паступова пачынаюць другімі вачыма глядзець на жывыя істоты. „Мы ведаем, з якой зацікаўленасьцю адносяцца дзеці да птушак, як блішчаць іх вочы, калі яны назіраюць іх, і разам з гэтым бывае, што часта маленькія хлопчыкі страляюць у птушак з рагатак, лука і разбурваюць гнёзды. Гэта—нездаровае зьявішча бывае таму, што зацікаўленасьць дзяцей, не накіраваная трапнай рукой настаўніка на належны шлях, прымае паляўнічы характар, можа быць выклікана інстынктамі даўных часоў, закладзенымі ў прыродзе дзіцяці. Гэтыя зьявішчы яшчэ вельмі часты і на іх трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. Актывізм, выкліканы птушкамі, можна перавесьці на прыцягненьне і ахову птушак, на што дзеці з ахвотай ідуць. Гэта ўжо давялі звычайныя школы" *). Такімі мерамі аховы птушак, як зімовая прыкармліваньне пры дапамозе спэцыяльна пабудованых кармежак, могуць займацца дзеці 8-10 гадоў. Школьнікі старшага ўзросту могуць займацца іншымі мерамі аховы, напрыклад, будаваць штучныя гнёзды, вывучаць жыцьцё птушак таго раёну, дзе вызначана весьці працу, рабіць пасад хмызьнякоў, дрэў, падразаць іх, назіраць за выкананьнем абавязковых пастаноў аб ахове прыроды, аб паляваньні і г. д. і дапамагаць, такім чынам, т-вам аховы прыроды і інш.

*) І. Дзергуноў. „Привлечение и охрана птиц в трудовой школе". Листки БЮК № 21—1925 г. Масква.

Калі-б удалося выканаць у школах пэўную програму практычнага зьдзейсьненьня ідэй аховы прыроды, якую, напрыклад, раіць вышэйцытаваны ліст Галоўсоцвыху або дае ў сваёй цікавай брошуры Н. Под'япольскі і, разам з тым, удалося-б прапусьціць праз гэтыя школы нашу сялянскую (асабліва) і гарадзкую моладзь, дык можна было-б быць упэўненым, што ў асобе падрастаючага маладога пакаленьня мы знайшлі-б шчырых абаронцаў прыроды, і мінула-б небясьпека апынуцца акружанымі пустэляй.

Такім чынам, астачы прыроды, якія бязьлітасна нішчацца чалавекам, могуць быць выратаваны не законадаўчымі мерапрыемствамі, бо на гэта ня хопіць патрэбнага контролю, а магутным уплывам на моральны бок нашага новага пакаленьня і шляхам выхоўваньня такіх пачуцьцяў, як замілаваньне і ашчадныя адносіны да прыроды.





**Проф. В. І. Пераход.**

# Яловая „рамень“ Горацкай лясной дачы.

Яловыя дрэвастаны, у якіх елка, як дрэўная парода, была-б пануючай, сустракаецца, параўнаўча, на невялікай плошчы; так, паводле даных Ф. Ястрэмскага для Менскай губ., елка займае толькі 8,6 проц. усяе плошчы дрэвастанаў.

Такім чынам, яловыя дрэвастаны Беларусі не зьяўляюцца для яе тыповымі; Беларусь—краіна сасновых бароў і лісьцяных дрэвастанаў.

Аднак, усё-ж такі некаторая частка лясоў БССР прадстаўлена елкаю, дзеля чаго лесавод Беларусі не павінен чурацца елкі, як дрэўнай пароды, тым больш, што яна значна пашырана ў лясох, *як прымешка*.

Апроч таго, што зьяўляецца вельмі цікавым для нас, Беларусь налажыла свой адбітак на яловыя дрэвастаны, дала ім як-бы сваё нацыянальнае аблічча, увёўшы ў склад яловых дрэвастанаў гэткія пароды, як дуб, клён, ліпу, чаго мы ня бачым, напр., у суседняй РСФСР.

Значыцца, яловыя дрэвастаны ў БССР утвараюць быццам свой „беларускі тып“, і ў гэтых адносінах ён ня толькі заслугоўвае ўвагу, але і набывае асаблівую цікавасьць для навукі.

Выяўленьне ўсіх асаблівасьцяй і тыповых рыс лясоў і лясной гаспадаркі Беларусі, якая зьяўляецца чыста краязнаўчай працай, разам з тым дапамагае і абуджэньню нацыянальнага замілаваньня да свайго роднага лесу.

Дзеля азнаямленьня з тыпамі яловых лясоў Беларусі, мы спынімся на Горацкай дачы, якая знаходзіцца ў раёне, дзе елка зьяўляецца пануючай пародай сярод хваёвых дрэвастанаў.

1.

У Горацкай дачы мы сёлета абсьледвалі квартал 41-шы, які ў гэты час знаходзіцца пад загадам катэдры лесаэкономікі пад назваю *„вучотны квартал“*, дзеля таго што ў ім будзе весьціся праца па сталаму падліку экономічных элемэнтаў лясной гаспадаркі ў яловых дрэвастанах.

Агульная плошча вучасткаў, якія пакрыты лясамі, і іх таксацыйная характарыстыка адзначаюцца ніжэй.

| Літары вучасткаў пакрытых лесам. | Плошча вучасткаў, пакрытых лесам. у гэктарах. | Узрост (лік гадоў). | Паўната дрэвастанаў. | Сярэдняя вышыня ў мэтрах. | Сярэдні дыямэтр у сантым. | Запас у куб. мэтрах. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | на 1 гэкт. | на вучаст. |
| а | 2,08 | 100 | 0,5 | 27 | 31 | 228 | 474 |
| б | 4.59 | 100 | 0.4 | 25 | 36 | 228 | 1.047 |
| в | 45,12 | 100 | 0,7 | 27 | 36 | 399 | 18.003 |
| г | 12.67 | 100 | 0.5 | 27 | 31 | 256 | 3.244 |
| д | 13.66 | 80 | 0,5 | 25 | 27 | 199 | 2.718 |
| е | 11.30 | 100 | 0.6 | 24 | 27 | 228 | 2.580 |
| ж | 5.10 | 100 | 0,7 | 27 | 31 | 342 | 1.744 |
| з | 2,20 | 90 | 0.4 | 26 | 27 | 171 | 386 |
| і | 2,08 | 70 | 0,6 | 27 | 31 | 342 | 711 |
| к | 3.50 | 80 | 0.5 | 26 | 27 | 171 | 599 |
| л | 7,32 | 90 | 0,8 | 27 | 31 | 427 | 3.126 |
| м | 3,06 | 80 | 0,7 | 27 | 27 | 342 | 1.047 |
| н | 1,09 | 30 | 0,6 | 18 | 18 | 114 | 124 |
| о | 1.97 | 40 | 0,8 | 18 | 18 | 114 | 225 |

У суме агульная плошча ўсіх вучасткаў, якія пакрыты лесам, дае 115,74 гэктары з запасам (агульным) у 36.028 куб. мэтр., што дае каля 310 клм. на 1 гэкт.

Усе дрэвастаны гэтых вучасткаў мы падзяляем на тры катэгоры, прымаючы пад увагу ролю паасобных парод:

*1) грудавая „рамень“*, прадстаўленая яловымі дрэвастанамі, з панаваньнем елкі ($^8/_{10}$, $^9/_{10}$, $^7/_{10}$), на лепшых урадлівых, суглінкавых глебах, першых (лепшых) бонітэтаў з прымешкаю дубу і клёну ў падлеску, а часам і ў другім ярусе, і ліпы; асіна таксама ўваходзіць у склад, але яна ня можа лічыцца характэрнай для гэтага тыпу яловай „рамені“ Горацкай дачы;

*2) асінавая „рамень“*—яловы дрэвастан, дзе галоўным компонэнтам зьяўляецца асіна, якая характарызуе гэты тып і дае яму сваё аблічча;

*3) бярозавая „рамень“*, якая характарызуецца тым, што ў склад яловага дрэвастану ўваходзіць бяроза (часам $^5/_{10}$); гэты тып займае зьніжаныя мокрыя месцы з забалочаным грунтам.

Пры рэкогносцыровачным абсьледваньні названых *тыпаў яловага лесу,* якое зроблена намі супольна з супрацоўнікам катэдры (Г. Баркоўскім), атрыманы такія даныя:



Грудавая „рамень" Горацкай дачы (вучотн. кв.).

*Тып яловай, грудавай „рамені",* зьняты на фотоздымку першым, характарызуецца, як мы казалі ўжо, прысутнасьцю ў падлеску, а часам і ў другім ярусе, дрэўных парод, якія ўваходзяць у склад так

званых „ліставых груд“: дубу, клёну, ліпы, дзеля чаго мы і назвалі гэты тып яловай „рамені“—„грудавай раменьню“; у паўночных лясох РСФСР, таксама яловых, такога тыпу грудавай „рамені“ няма, бо там няма дубу, клёну і ліпы (галоўным чынам, першых дзьвёх парод).

Дзеля гэтага *мы лічым тып грудавай „рамені“ беларускім тыпам яловых лясоў.*

Паводле зробленых непасрэдна ў лесе запісаў і вымерваньня, грудавая „рамень“ характарызуецца глебавым насьцілам з шыроколіставых траў (майнік, кісьліца, курасьлеп) і папараці з роду *Aspidium*, прычым Asp. dryopteris утварае неперарыўныя зарасьнікі, сярод якіх пышна расьце, кустамі, *Asp. Filix mas*. Дуб і клён—усюды ў падлеску. а часам і ў паросьце, як, напр., адзін з клёнаў, які меў на вышыні грудзей 25 сантымэтраў (з маразабойнаю шчылінаю), быў вышынёй 30 арш. Елка ў гэтым тыпу пры дыамэтры, у 80-100 гадоў дасягаючым да 42 сант., мае вышыню 42 арш. (30 м.). Гэтая вышыня вельмі значная, бо лічба ў 30 мэтраў зьяўляецца, параўнаўча, вялікай. Мы абмералі таксама і велічыню прыросту па ліку пластоў у вадным сантымэтры (сьвердзелам Прэсьлера); атрыманы наступныя даныя:

а) у першым сантымэтры—7 пластоў
б) у другім „ —5 „
в) у трэцім „ —4 пласты.

Грудавая „рамень“ займае лепшую глебу і больш сухія месцы: яе называюць некаторыя лесаводы ў Беларусі „па грунту“—„сьвежай раменьню“.

Іншыя тыпы яловай „рамені“ (асінавая і бярозавая „рамень“), якія выдзелены намі ў вучотным квартале, ня так характэрны для Беларусі, бо сустракаюцца ўсюды і ў сярэдняй і ў паўночнай частках РСФСР.

*Тып асінавай „рамені“* займае кісла-перагнойныя, суглінкавыя глебы, з імшастым насьцілам (Hypnum), чарніцай і хвашчом (Equisetum), які часта сустракаецца месца, дзе яна знаходзіцца, некалькі зьніжанае, мокрае; адкуль і назва гэтае рамені—„вільгатная“ рамень, хаця гэтая прымета (вільгаць і макрата) знаходзяцца ў залежнасьці ад вопадзяй і дзеля таго мяняецца. Елка ў гэтым тыпу горшая па якасьці і ў тым-жа ўзросьце (V-ая кляса), пры дыямэтры ў 28 сантымэтраў на вышыні грудзей, дае вышыню толькі 27 аршын (каля 20 мэтраў). Прырост, вымераны намі, даў такія лічбы:

а) у першым сантымэтры—17 пластоў
б) у другім „ —12 „
в) у трэцім „ —10 „

*Тып бярозавай „рамені“* знаходзіцца на найбольш нізкіх, забалочаных месцах, з падушкамі моху—зязюлькін лён (Polytrichum communis) і балацянага (Sphagnum); на высечаных мясцох, дзе елка зьнішчана, застаецца парасьнік бярозы; месцамі—вадзяныя балотцы з асакою.

[illegible] ная намі ў гэтым тыпу, дала пры дыямэтры ў 25 сантымэтраў усяго 25 аршын (17,8 мэтраў), а прырост па ліку пластоў у 1 см.—гэтакія даныя:

а) у першым сантымэтры—21 пласт
б) у другім „ —12 „
в) у трэцім „ — 7 „



Бярозавая „рамень“ Горацкай дачы (вучотн. кв.).

Узрост быў узяты той самы (90 год), кляса панаваньня абмераных дрэў—другая (паводле Крафта).

2.

Дык вось, мы адрозьніваем тры тыпы яловай рамені ў Горацкай дачы (паводле вучотнага кварталу), вызначаючы іх не па насьцілу або ўласьцівасьцях глебы (сьвежая, вільготная, мокрая), а *па характэрнай прымешцы складу*.

Такая клясыфікацыя, з пункту гледжаньня народнае гаспадаркі наогул і лясное—у прыватнасьці, мае тую перавагу, што яна дае нам уяўленьне аб родзе тых патрэб, якія мы зможам здаволіць, вядучы гаспадарку ў яловых лясох Беларусі.

Так, у грудавай „рамені“ мы можам здабыць ня толькі бярвеньні для жылых дамоў, але і лапці (ліпавае лыка) для селяніна. У васінавай „рамені“ ёсьць надта добрая асіна для саматужных промыслаў і сернікавай вытворчасьці. Урэшце, у бярозавай „рамені“ селянін атрымлівае апал (бярозавыя дровы) і лёгкі будаўнічы матар'ял (на жэрдкі, калы).

Елка ў тыпах асінавай і бярозавай „рамені“ можа быць выкарыстана для няжылой будоўлі, а таксама для балянсаў (дзеля папяровай прамысловасьці).

Такім чынам, магчыма, мы маглі-б весьці розную гаспадарку ў яловых лясох, злучаючы ў адзіны „тып гаспадаркі“ тыя дрэвастаны, якія давалі-б аднолькавы сортымэнт драўніны.

Лесаэкономістага Беларусі пытаньні гаспадаркі цікавяць больш за ўсё, і ён глядзіць на прыроду лесу з таго пункту гледжаньня, колькі ёсьць таго ці іншага продукту, неабходнага для здавальненьня розных патрэб (колькасьці і якасьці продукту, які мерыцца цаною).

Нарэшце, мы хочам яшчэ ахарактарызаваць тып яловага лесу Горацкай дачы тымі данымі, якія былі атрыманы пры лесаўпарадкаваньні 1924 году:

| Склад яловых дрэвастанаў. | Лік дрэў (на 1 дзесяц.). | | | Сярэдні дыямэтр. модэляй (вяршк.) | Сярэдняя вышыня ў арш. | Сярэдні ўзрост (гадоў). | Запас у такс. саж. | Сярэдні прырост у т. с. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Дзелавых | Дравяных | Разам | | | | | |
| 8/10 елкі 2/10 асіны | 392 | — | 392 | 7.2 | 40 | 90 | 67,02 | 0,75 |
| 7/10 елкі 3/10 асіны | 396 | 8 | 404 | 6,3 | 35 | 80 | 46,90 | 0,51 |

Мы хацелі-б абмежавацца гэтымі лічбамі, бо адзначаныя спробы ўзяты ў кв. 41-ым, што цяпер знаходзіцца пад загадам катэдры, якую мы займаем у Беларускай С.-Г. Акадэміі.

Аднак, лічым патрэбным сказаць у канцы некалькі слоў аб значэньні „вучотнага кварталу“, і чаму яго варта было-б мець*) у кожным лясьніцтве БССР.

Справа вось у чым. У сучасны момант правільнай лясной гаспадаркі на Беларусі нельга весьці бяз сталага падліку экономічных элемэнтаў: якаснай лічбы, лясной і глебавай рэнты, сьпеласьці, звароту рубак і г. д.

З прычыны таго, што цана на драўніну ня сталая, трэба гаварыць аб неабходнасьці сталага, пэрыодычнага (штогодняга) падліку ўсіх элемэнтаў гаспадаркі ў лясох.

*) Каб кожны лясьнічы на БССР хоць-бы на адным типовым для дачы квартале („вучотным“) праводзіў тыя ці іншыя досьледы, дык гэта патроху заахвоціла-б яго да дасьледчай працы. *Аўтар.*

Да гэтага часу мы вывучалі толькі лясы, мала зварочваючы ўвагі на іх экономіку; гэта тлумачыцца тым, што прырода—асноўны фактар вытворчасьці драўніны.

Але самі па сабе лясы Беларусі—гэта толькі об‘ект для гаспадарчай дзейнасьці беларускага народу. Будучы накіраванай на прыроду лесу, яго дрэвастану, дзейнасьць гэтая выяўляецца, перш за ўсё, у эксплёатацыі лесу, але эксплёатацыі разумнай, плянамернай, якая забясьпечвае ня толькі захаваньне экономічнага прынцыпу, але і сталасьць выкарыстоўваньня лясоў.

Адгэтуль тры грунтоўныя аддзелы павінны ўваходзіць у програму вывучэньня лясоў БССР:

1) *лесагадоўны,* мэтаю якога зьяўляецца вывучэньне, аднаўленьне лясоў і іх біолёгіі;

2) *лесаэкономічны,* які мае на мэце вывучэньне продукцыі лясоў і іх экономікі;

3) *лесаэкспёатацыйны,* які вывучае спосабы тэхнічнай і мэханічнай апрацоўкі драўніны.

Гэтыя тры аддзелы павінны ўваходзіць і ў склад лясных дасьледчых установ БССР, бо лясная гаспадарка трыадзіна, і аднабаковая праца ніколі ня дасьць патрэбных вынікаў.

Усе тры пастаўленыя задачы павінны быць прыняты, як асноўныя, і пры вывучэньні яловых „раменяй“ Беларусі.



## І. Зьбіткоўскі.

# Trapa natans L.

### Вадзяны арэх альбо чортаў арэх.

Адна з найцікавейшых расьлін, якія трапляюцца ў стаячых і павольных водах Беларусі—Trapa natans L=вадзяны арэх або нават „чортаў арэх“. Апошняя назва ўжываецца ў адносінах да пладоў гэтае расьліны, мабыць, таму, што цьвёрдыя плады вадзянага арэха маюць парасткі ў выглядзе рагоў.

Вядома некалькі відаў вадзянага арэха, якія складаюць адзіны род і адзіную сям'ю Trapaceae Tlerop (Hydrocaryaceae). Прадстаўнікі гэтае сям'і ў нашы часы трапляюцца ў Эўропе, Азіі, Афрыцы, а ў Амэрыцы—толькі як выкапні, або разводзяцца штучна. Апроч Тснуючых цяпер відаў тrapa (з іх у Беларусі ірапляюцца: Trapa natans ˥—арэхі 3—3,5 см. даўжыні, T. europaea Tlerop (T. natans L var. muzzaneusis Jaggi Беразіна), вядомы і некалькі відаў выкапняў. Разрозьненае распаўсюджаньне гэтае расьліны і шырокае распаўсюджаньне яе выкапняў сьведчыць аб тым, што гэтая расьліна з часоў свайго ўзьнікненьня значна скараціла плошчу свайго ўзрастаньня. І сапраўды, Trapa natans L — рэлта, захаваўшайся ад трацічнай эпохі.




Гэта водная расьліна з тонкім, іншы раз вельмі доўгім пры пачатку, паўзучым сьцяблом. Падводныя лісьці працілежныя, лініяватыя,

хутка ападаючыя; ля асновы іх сьцябло выпускае некалькі перкавата-галіністых карэньняў, якія раней памылкова лічыліся за падводныя лісьці.

Лісьці, плаваючыя на паверхні вады, сабраны ля верхавіны сьцябла густым акружжкам. Пласток ліставы, ромбічны, буйна-зубкаваты, а хвасток ліставы, пасярэдзіне раздуты, як пузыр (плавальная прылада). Красуе вадзяны арэх у чэрвені-ліпні белымі дробнымі кветкамі, якія адыходзяць ад пазух падводных лісьцяў. Кветкі з чатырма часткамі і адным слупком з двугнёзднай плодазавязьзю.

Кветкі ўзьнімаюцца над вадою, але ў тым выпадку, калі яны, па якой-колечы прычыне, застаюцца пад вадою, яны бываюць зазычанымі і, тым ня менш, плоданоснымі. (Кветкі, якія такім спосабам самаапылкоўваюцца, носяць назву клейстогамных).

Пасьля запладненьня кветаножка згінаецца данізу і цягне за сабою запладнёную кветку ў ваду. Плады высьпяваюць пад вадою. Увосень расьліна адмірае, а плады падаюць на дно, дзе і захоўваюцца да прарастаньня. Паросткі (рогі), нібы якар, утрымліваюць арэх на дне.

Пры прарастаньні насеньня, як вядома, з яго перш за ўсё паказваецца карэньчык, які, як правіла, заўсёды расьце ўніз; гэтак бывае і ў той час, калі карэньчык штучна прымушаюць зьмяніць кірунак. Ён заўсёды будзе расьці ўніз. Вадзяны арэх у гэтых адносінах зьяўляецца выключэньнем. Карэньчык, паказаўшыся з насеньня, пачынае расьці ня ўніз, ды ўверх. Есьць і яшчэ асаблівасьць пры прарастаньні вадзянага арэха. Як відаць на малюнку, за карэньчыкам (ніжэй яго) паказваецца якаясьці лусачка і далей зноў такая самая, падобная да караню нітка. Лусачкі і гэтая нітка—нішто іншае, як лісьцень (на мал. 1 і 2—левы бок і 5—плод); 1—першы лісьцень; 2—другі лісьцень; 3—корань; 4—сьцябло. Лісьцені—гэта запасы харчу для ўсякае расьліны, якая разьвіваецца з насеньня.



Trapa natans L. Вадзяны арэх

Доўгі лісьцень вадзянага арэха адным канцом знаходзіцца ў насеньні і цягне з яго пажыўныя матэрыі, патрэбныя для разьвіцьця расьліны У куце паміж абодвух лісьцяў потым зьяўляецца пучок, які паступова разьвіваецца ў цэльную групу парасткаў. На парастках зьяўляюцца лісьці, спачатку вузкія, а потым, паступова, яны прымаюць ромбічную форму плаваючых на паверхні вады лісьцяў гэтае цікавае расьліны.

У той-жа час пачынае разгаліняцца і корань; ён цяпер паступова загінаецца верхавінаю ўніз, дарастае да дна і тамака ўкараняецца. Корань вадзянага арэха, як мы бачым, нарэшце прымае сваё сталае

становішча, але прыходзіць да яго кружным шляхам, апісвае дугу і выносіць парастак з лісьцямі бліжэй да паверхні вады. Біолёгія вадзянага арэха досыць цікавая. Аднак, яшчэ цікавей значэньне вадзянага арэха, як харчу.

Мучністыя плады Trapa natans паўсюды, дзе гэтай расьліны многа, ужываюцца, як харч, сырымі, варанымі або печанымі, або робяць з іх крупы ці муку. У дагістарычныя часы ў Эўропе вадзяны арэх ужываўся, як харч, у жыхароў палевых будынкаў. Цяпер, у сувязі з абмяленьнем рэк, энэргічным зьнішчэньнем гэтае карыснае расьліны чалавекам, вадзяны арэх паступова зьнікае. Але ў тых месцах, дзе ўплыў чалавека на прыроду ня быў вельмі значны, вадзяны арэх трапляецца нярэдка ў значнай колькасьці і зьнікае толькі з зарастаньнем і забалочваньнем вадазбораў. У Японіі, у Кітаі культура вадзянага арэха вельмі пашырана, а ў Кашміры (Індыя) вадзяны арэх дае крухмалісты харч для дзесяткаў тысяч чалавек на працягу поўгоду. Тутака яго гадуюць ва ўсіх вадазборах, азёрах, саджалках, і ангельскі ўрад аддае водныя плошчы ў арэнду пад культуру вадзянага арэха.

У Астрахані, Пензенскай, Сімбірскай і Варонескай губ., а таксама і ў Тамбоўскай (Елашма) вадзяны арэх зьяўляецца нават прадметам мясцовага гандлю.

Бязумоўна, што ў Беларусі, дзе плошча вады такая значная, можна разводзіць вадзяны арэх; для гэтага варта толькі ўсходжыя плады гэтае расьліны перанесьці ў вадазборы, у якіх гэтая расьліна не трапляецца. Па словах вядомага проф. Флёрава, вадзяныя арэхі, высаджаныя ім у невялікую саджалку, вельмі добра разрасьліся (Уладзімерская губ. Аляксандраўскі павет).

Краязнаўчыя організацыі маглі-б зацікавіцца гэтаю расьлінаю і паклапаціцца аб яе распаўсюджваньні па ўсіх вадазборах Беларусі. З другога боку, гэтая спроба выкарыстаньня вод такім шляхам, пры посьпеху, дала-б новы спосаб падняцьця прыродных багацьцяў Беларусі; і ў воднай гаспадарцы, побач з рыбным промыслам і рыбаводзтвам, культура вадзянага арэха, добра пастаўленая, бязумоўна, дала-б значныя выгады, а менавіта: 1) павысіла-б каштоўнасьць водных абшараў, 2) павялічыла-б колькасьць крухмалістых продуктаў, выпрацоўваемых у Беларусі ў дадатак і незалежна ад зярновага паляводзтва.

---

I. Зьбіткоўскі.

# Ваўчкі трыдзельныя.

**Bidens triparfitus L.**

Ваўчкі трыдзельныя растуць звычайна па вільготных мясцох—ля ручаёў, рэк і саджалак—у большай частцы Беларусі і ў Эўропэйскай частцы СССР. Аднагадовае галоўнае сьцябло мае процілежныя галінкі і пакрыта рэдкімі валаскамі. Лісьці процілежныя, з крылатым ліставым хвастком і амаль расьсечаным на тры ланцэтаватыя, пілаватыя па краёх, часткі, ліставым пластком. Сьцябло і кожная галінка маюць на канцы акруглыя кошычкі. Акрыўка кошычка ў два рады: у знадворным радзе травяністыя, пілаватыя па краёх прыкветкі, а ва ўнутраным радзе прыкветкі чырванаватыя з перапончатымі цэльнымі краямі. Кветкі трубкаватыя, жоўтыя. Падвяночак складаецца з дзьвюх поўсьцінак з вострымі, абернутымі ўніз зубчыкамі. Ён застаецца пры пладзе, дзякуючы чаму плады моцна чапляюцца за адзежу і за поўсьць жывёлы, і такім чынам расьліна распаўсюджваецца.



Bidens tripartitus L.

У народнай мэдыцыне ўжываецца трава ваўчкоў трыдзельных, г. ё. надземныя часткі расьліны, сабраныя ў часе красаваньня з другой паловы лета; збор і сушка нецяжкія. Хаця аб гэтай расьліне ў фармаколёгіі няма вестак, аднак, на яе ёсьць попыт, і таму яна ёсьць у аптэках. У даваенныя часы ваўчкоў трыдзельных у сушаным відзе разыходзілася штогодна, прыблізна, 1.000 пудоў. Фармацэвтычна гэтая расьліна мала вывучана. Ужываецца проці залатухі.

Апроч таго, гэтая расьліна мае ў сабе хварбу. Баваўняныя і ваўняныя тканіны ў адвары гэтае расьліны набываюць сьветла-жоўты колер, а з нязначнаю дамешкаю меднага купарвасу жоўты колер робіцца гусьцейшым. Як той, так і другі колеры вельмі трывалыя. Ахварбаваную такім спосабам баваўняную тканіну я трымаў на сьвятле на працягу поўгоду, і за гэты час колер яе амаль што не зьмяніўся.



В. Полянская.

# Вольха чорная і вольха шэрая.

У Беларусі спатыкаюцца два віды вольхі: вольха чорная (Alnus glutinosa Gärln.) і вольха шэрая (Alnus incana L), якія адрозьніваюцца адзін ад другога як з свайго знадворнага выгляду, таксама і па эколёгіі (г. ё. умовах узрастаньня).



**Шэрая вольха—Alnus incana**. 1) Галіна з пладамі. 2) Квяцістая галіна з мужчынскімі (вялікімі) і жаночымі (маленькімі) каткамі. 3) Мужчынская кветачка. 4) Жаночая кветачка.

У чорнай вольхі чорнабурая, шурпатая, патрэсканая кара і зусім голыя, у маладым узросьце клейкія лісьці акруглай формы з выразам наверсе; маладыя галінкі яе голыя, з глянцам, часта клейкія. У шэрай вольхі кара гладкая, срабрыста-шэрага колеру; лісты яйкавіднай формы, на канцы завостраныя, пакрытыя зьнізу срабрыстымі валаскамі, маладыя галінкі таксама пакрыты пушком. Кветкі шэрай і чорнай вольхі маюць аднолькавую пабудову, з тэй толькі розьніцай, што шышачкі шэрай вольхі—сядзячыя а ў чорнай вольхі—на ножках.

Дробныя кветачкі вольхі, якія красуюць да зьяўленьня лісьцяў, сабраны ў суквецьці—каткі. Каткі гэтыя, таксама, як і ў бярозы, двух радоў: мужчынскія і жаночыя, якія маюць у сабе аднаполыя кветкі. Кветачкі вольхі вельмі дробныя і пабудаваны таксама прымітыўна, як і кветкі бярозы (г. ё. складаюцца з слупкоў альбо

тычачак і лускаватага аквецьця), хоць некалькі і адрозьніваюцца ад іх па форме, як відаць на малюнку. Вольха, таксама, як і бяроза,—расьліна аднадомная, г. ё. мужчынскія і жаночыя каткі яе знаходзяцца на адным дзераве. Гэткае падабенства ў пабудове кветак і суквецьцяў прымусіла батанікаў аб'яднаць вольху і бярозу ў адну сям'ю бярозавых. Аднак, плады вольхі значна адрозьніваюцца ад пладоў бярозы; пры дасьпяваньні лусачкі жаночых кветак павялічваюцца, дзервянеюць і ўтвараюць шышку, раней зялёную, а потым чорна-бурую. Гэтыя шышкі застаюцца на дрэве, і ўзімку па іх заўсёды лёгка пазнаць вольху, нават бяз лісьцяў.

Чорная і шэрая вольха, апроч знадворнага выгляду, адрозьніваецца адна ад другой таксама ўмовамі ўзрастаньня і раёнам распаўсюджаньня. Чорная вольха распаўсюджана па ўсёй Беларусі і зьяўляецца зусім звычайным у нас дрэвам. Яна расьце звычайна ў вільготных нізінах, на гляіста-балотнай глебе, утвараючы так званыя чорна-альховыя дрыгвы. Шэрая вольха, наадварот, любіць больш дрэнаваную глебу і расьце па берагох рэк, на ўзьлесьсі, ля палёў, ля дарог. Трапляецца яна толькі ў паўночнай частцы Беларусі, прыблізна, да мяжы Магілеў-Барысаў. У Бабруйскай і Мазырскай акрузе я яе зусім ня бачыла, але ў Случчыне, як відаць, яна расьце (паводле даных батаніка Пачоскага). Магчыма, што ў Слуцкай акрузе яна трапляецца ўжо толькі разрозьненымі адасобненымі месцазнаходжаньнямі. Гэткае разьмеркаваньне па Беларусі шэрай вольхі тлумачыцца тым, што яна зьяўляецца наагул дрэвам больш паўночнага тыпу, чымся чорная вольха, і трапляецца ў Расіі нават за канцавосным кругам. Па Беларусі-ж праходзіць паўднёвая мяжа яе неперарыўнага распаўсюджаньня. Праўда, шэрая вольха трапляецца яшчэ дзе-ні-дзе ў Валынскай губэрні, але толькі адасобненымі астраўкамі. Чорная-ж вольха, наадварот, на поўнач не заходзіць далей за 62° паўн. шырыні, але затое на поўдзень распаўсюджваецца далёка, да Херсонскае і Кацярынаслаўскае губ., і часта спатыкаецца ў балотных нізінах стаповае краіны.



**Чорная вольха—Alnus glutinosa.** 1) Галіна з недасьпелымі жаночымі шышкамі. 2) Галіна з мужчынскімі і жаночымі каткамі. 3) Дасьпелыя шышкі. 4) Мужчынская кветачка. 5) Жаночая кветачка.

На паўднёвай мяжы распаўсюджаньня шэрай вольхі, напрыклад, у паўночнай частцы Магілеўскае і паўднёвай частцы Барысаўскае акругі, трапляецца часта мешаніна чорнай і шэрай вольхі — вольха пушыстая (Alnus pubescens Tausch). Па выглядзе яна больш падобна да шэрае вольхі; кара ў яе шэрая, маладыя лісьці і ліставыя хвасткі пушыстыя, але жаночыя шышкі сядзяць на выразных ножках, як у чорнай вольхі, а лісьці часта зьяўляюцца пераходам ад лісьцяў шэрай вольхі—з вострым канцом—да лісьцяў чорнай вольхі—тупых.

Цікава было-б знайсьці дакладную мяжу распаўсюджаньня шэрай вольхі і яе адменьнікаў на тэрыторыі Беларусі; краязнаўцам, якія жадаюць прынесьці карысьць у гэтых досьледах, прапануецца запісваць найбольш паўднёвыя пункты, дзе ім траплялася шэрая вольха, і засушваць пры гэтым асобныя галінкі яе з шышкамі, як дакумантальны довад.



# Праграмы, інструкцыі і анкеты.

## Прыродныя фарбы Беларусі.

Па вёсках Беларусі для афарбоўкі пражы (нітак) або тканіны (палатна) жыхары ўжываюць некаторыя расьліны (васількі, талакнянка-мучальнік, вольха), для афарбоўкі яец—лушпайкі цыбулі, пацяруха сенная і г. д., а можа месцамі ўжываецца якая-небудзь гліна або зямля (руда).

Прыродазнаўчая сэкцыя лічыць, што мы павінны выявіць поўнасьцю, які прыродны матар'ял ёсьць для тых ці іншых фарб у нас, на Беларусі, і далей карыстаньне гэтым матар'ялам паставіць на самы лепшы шлях.

Вось дзеля гэтай мэты Прыродазнаўчая сэкцыя і зварачаецца да сяброў краязнаўчых організацый запоўніць ніжэйзьмешчаную анкету як можна паўней і прыслаць яе па адрасу: г. Менск, Інстытут Беларускае Культуры, Рэволюцыйная 21, Прыродазнаўчая сэкцыя.

### Анкета аб прыродных фарбах Беларусі.

1. Дакладна адзначце месца, аб якім гаворыце (акруга, раён, воласьць, вёска, калі хутар—дык пры якой вёсцы і г. д.

2. Ці фарбуюць у Вас расьлінамі або выкапнямі (зямля, руда, гліна і г. д.) пражу, тканіну, скуры, і дрэва.

*Увага:* Аб фабрычных фарбах у анкеце пісаць ня трэба.

3. Якія расьліны ці выкапні ў Вас ужываюцца для фарбы (назва).

4. Якая частка расьліны ўжываецца для фарбы (лушпайкі, карэньне, лісьце, кара, дрэва і г. д.).

5. Як здабываюць і падрыхтоўваюць выкапні для фарбы.

6. Для якога колеру фарбы ўжываецца тая ці іншая расьліна або руда.

*Увага:* Калі для якога-небудзь колеру ўжываецца не адна, а дзьве ці больш расьлін або якая-небудзь іншая мешаніна, дык гэта трэба адзначыць.

7. Апішэце, як тэхнічна праводзіцца фарбоўка: колькі бярэцца расьліны, напр., на адзін кілёграм пражы або тканіны; ці кладзецца яшчэ што-небудзь; варыцца яна ці не; калі варыцца, то колькі гадзін; што робяць потым (мыюць ці проста сушаць); як падрыхтоўваецца тканіна або пража для афарбоўкі і г. д.

8. Расьліны ўжываюцца сырыя ці сухія, у якую пару году зьбіраюцца гэтыя расьліны.

Просьба не абмяжоўвацца толькі пытаньнямі анкеты, але, калі хто будзе лічыць патрэбным, пісаць больш. Усё напісанае прымецца пад увагу.

Уся паштовая корэспондэнцыя на імя Інбелкульту перасылаецца дарэмна.

**Прыродазнаўчая сэкцыя.**

# Матар'ялы з месц.

В. Самцэвіч і П. Стрыгуцкі.

## Дрэваапрацоўчы завод „Комінтэрн" у Н.-Барысаве.

*(Паводле матар'ялаў абсьледваньня настаўнікаў—курсантаў 6-тыднёвых настаўніцкіх курсаў у 1926 г.).*

### Умовы пабудовы заводу і яго гісторыя.

Дрэваапрацоўчы завод „Комінтэрн" знаходзіцца ў адным клм. ад вакзалу „Барысаў" Маскоўска-Беларускай чыгункі пры р. Бярэзіне. вышэй чыгуначнага маста праз раку. Такое месцапалажэньне заводу зьяўляецца вельмі выгадным: па рацэ сплаўляецца лесаматар'ял заводу, а блізасьць да вакзалу дае магчымасьць скорага і лёгкага падвозу па асобнай чыгуначнай ветцы апрацованага матар'ялу да вакзалу для пагрузкі і адпраўкі па чыгунцы.

Завод быў адчынены купцом Бэрманам у 1912 г. Рабочыя заводу сьведчаць, што завод быў дрэнна абсталёваны з боку тэхнічнага; праца была і засталася ў значнай меры саматужная. Дрэннае абсталяваньне заводу тлумачыцца тым, што Бэрман меў на ўвазе (застрахаваўшы завод у належную суму) яго спаліць, каб атрымаць страхавую прэмію. І сапраўды, за час 1912—1917 гады завод пачынаў два разы гарэць, але няўдачна для махінатара: пажар тушыўся, і ўладар нічога, такім чынам, не атрымаў.

У час рэволюцыі 1917 г. Бэрман уцёк, і завод перайшоў пад ведама Земсаюзу. Пры польскай окупацыі завод стаяў і руйнаваўся акружаючым насельніцтвам. Польская ўлада імкнулася вывезьці машыны і абсталяваньне заводу, але гэта не ўдалося з прычыны пярэчаньня і перашкод з боку рабочых. У 1921 г. завод адышоў да Лесбелу, які зноў прыстасаваў яго да працы і пусьціў у ход. У сучасны момант завод вельмі зношаны і патрабуе грунтоўнага перабудаваньня.

### Рэволюцыйныя моманты.

У 1914 г. адбылася забастоўка. Надзвычайная эксплёатацыя купцом Бэрманам рабочых прымусіла апошніх выставіць патрабаваньні адносна павялічэньня зарплаты. Як праходзіла забастоўка і якія былі конкрэтныя патрабаваньні—устанавіць зараз немагчыма. Забастоўка хутка скончылася; рабочыя нібы атрымалі невялічкую надбаўку і прыступілі да працы.

У рэволюцыі 1917 г. рабочыя прымалі досыць чынны ўдзел. Найбольш актыўнымі рабочымі былі Патаповіч і Бабіцкі; першы і да гэтага часу працуе на заводзе.

## Рабочая сіла.

У сучасны момант на заводзе працуе 417 чалавек, з якіх рабочых 375 ч., служачых—21 ч. і малодшага абслугоўваючага пэрсаналю—21 ч. З агульнага ліку рабочых на заводзе працуе 55 жанчын, пераважна ў фанэрным цэху, дзе праца найбольш лёгкая; у лесапільным цэху жанчын зусім няма; падлеткаў—32 ч. (у бачкарным цэху—14 ч., мэханічным—2 ч. і фанэрным—16 ч.). Па вытворчаму стажу рабочыя разьмяркоўваюцца наступным парадкам: да 1 г.—82 ч., ад 1 да 2 г.—129 ч., ад 3 да 5 г.—106 ч., звыш 5 г.—58 ч.

Па кваліфікацыі: чорнарабочых—286 ч., сьлесароў і качагараў—40 ч., станкавых—29 ч. і адміністрацыйна-тэхнічнага пэрсаналю—15 ч.

Па адукацыі: з вышэйшай асьветай—1 ч., з сярэдняй—2 ч., з незакончанай сярэдняй—7 ч., з хатняй—119 ч., з ніжэйшай—187 ч. і няпісьменных—54 ч.

## Зарплата.

Зарплата выдаецца згодна 17-разраднай тарыфнай сеткі. Ніжэйшы аклад пэнсіі па 3-му разраду—24 р. 37 к. у месяц. Сярэдні заробак рабочага заводу ў дзень па цэхах: лесапільнаму—2 р. 05 к., фанэрнаму—1 р. 93 к. і бачкарнаму—1 р. 48 к. Паштучная плата за 1 куб. фут дрэва—3 р. 96 к. і за 1 куб. мэтр фанэры—1 р. 88 к. Падзённых рабочых на заводзе няма. Пэнсія выплачваецца два разы ў месяц (5-га і 20-га) грашыма; натурай нічога не выдаецца. За май м-ц выплачана рабочым усяго 20.088 р. 91 к.

У параўнаньні з ранейшымі гадамі зарплата павялічылася па цэхах наступным парадкам:

| ЧАС. | Па лесапільн. цэху. | Фанэрнаму. | Стружачнаму. | Бачкарн. |
|---|---|---|---|---|
| 1924 г. | 1 р. 47 к. | 1 р. 33 к. | 1 р. 50 к. | 1 р. 27 к. |
| 1925 г. | 1 р. 72 к. | 1 р. 65 к. | 2 р. 00 к. | 1 р. 45 к. |
| 1926 г. | 2 р. 05 к. | 1 р. 93 к. | 2 р. 27 к. | Не працаваў. |

Зарплата павышаецца ў залежнасьці ад павышэньня продукцыйнасьці працы на заводзе.

## Умовы працы і ахова здароўя.

Санітарныя ўмовы працы на заводзе досыць цяжкія: адсутнічае праветрываньне, а ў лесапільным і бачкарным аддзяленьні дуе скразны вецер. У фанэрным цэху цяжкае паветра: робіцца клей і клеіцца фанэра. Спэцвопратка выдаецца на поўгода. Праца на заводзе ідзе ў 2 зьмены па 8 гадзін, а жанчыны з груднымі дзяцьмі працуюць па 7 гадзін. У лесапільным цэху адсутнічае належная мэханізацыя заводу, і праца ў значнай меры праводзіцца саматужным спосабам: пераноска і падыманьне матар'ялу, падкладваньне пад машыну і інш.

Пры заводзе ёсьць амбуляторыя, якая абслугоўвае рабочых, служачых заводу і іх сем'і. За тэрмін студзень—чэрвень б. г. ў амбуляторыі лічыцца 723 наведваньні (або па 4 чал. ў сярэднім у дзень), дома аказана дапамога за гэты час 57 ч. З эпідэмічных хвароб асабліва пашыраны быў „грыпп" у сакавіку м-цы. Пасьля хвароб рабочым даны былі адпачынкі—448 чал. на 1.288 дзён, што дае 1,8 проц. хворых у вадзін дзень.

### Энэргія.

Завод абслугоўваецца трыма паравымі машынамі, з якіх 2 маюць па 150 конскіх сіл і 1—50 конскіх сіл. Адна з першых машын абслугоўвае фанэрны цэх, частку лесапільнага і стружачнага цэху (у час яго працы), а другая—бачкарны і значную частку лесапільнага цэху, трэцяя машына ў 50 конскіх сіл абслугоўвае адно з лесапільных аддзяленьняў. Вада для паравой машыны дастаўляецца пры дапамозе насоса з калодзежу, у які вада праходзіць праз трубы з ракі Бярэзіны. Рухавікі апальваюцца апілкамі і трэскамі з лесапільнага цэху. Гэтага матар'ялу ў поўнай меры хапае на апал рухавікоў, а астачай апілак засыпаюцца канавы і нізкія балотныя месцы.

Паравыя машыны, апрача падачы мэханічнай энэргіі да станкоў, даюць пару на распарваньне дрэва для фанэры і для варыльнага і сушыльнага прэсаў.

Асьвятляецца завод электрычнасьцю ад дынама-машыны, якая выключна з гэтай мэтай і ўстаноўлена. Дынама-машына пераменнага току—110 вольт. Мэханічную энэргію дынама-машына атрымоўвае ад рухавіка ў 150 конскіх сіл.

### Сыравіна розных відаў.

Завод „Комінтэрн" апрацоўвае дрэва і дае дошкі розных гатункаў, бэлькі, клёпкі для бочак, стружкі для ўпакоўкі яек, фруктаў і фанэру, дзеля чаго патрэбен розны лесаматар'ял: сасновыя і яловыя бярвеньні, асіна, вольха, бяроза. Усяго сыравіны для заводу патрабавалася (прыблізна) у кубічных мэтрах:

| Час. | Лесапіл. цэх. | Фанэрн. цэх. | Бачкарн. цэх. | Стружк. цэх. | На суму. |
|---|---|---|---|---|---|
| У 1924-25 г. . | 44.298 | 5.403 | 30 | 15 | 410.329—68 |
| У 1925-26 г. (за 6 мес.). . | 25.060 | 5.418 | Не прац. | 1.091 | — |

Лесаматар'ялам (сыравінай) завод забясьпечвае Лесбел з лясоў Барысаўскай акругі, якая, у залежнасьці ад лясістасьці і блізасьці да сплаўных рэк, падзелена на вучасткі лесасекаў. На гэтых вучастках канторамі Лесбелу ўзімку загатаўляецца лесаматар'ял і падвозіцца да рэк, а летам па р. Бярэзіне падганяецца к заводу плытамі. Сыравіна часткай (асабліва для фанэрнага цэху) дастаўляецца фурманкамі і чыгункай. Матар'ял для лесапільнага цэху часткай захоўваецца ў рацэ пры беразе, часткай на беразе ракі, адкуль і падаецца на завод. Матар'ял для фанэрнага цэху захоўваецца ў асобных ярусах, прычым у месцах адрэзу абмазваецца вапнай, каб ня трэскаўся.

## Працэс вытворчасьці.

*Бачкарны цэх.* Матар'ял з берагу ракі падвозіцца на фурманках к першаму станку канцарэзкі (маятнікавая піла), якая пераразае бярвеньні на кавалкі, даўжынёю 1,75 вяршка. Парэзаныя кавалкі дрэва пастунаюць да загатоўчай пілы, якая падгатаўляе цурбаны для барабана, адрэзваючы з аднаго боку аполак, каб цурбан лепш прылягаў да барабана. Барабаны (працуе 4) разразаюць цурбаны на клёпкі, таўшчынёю 0,5 дм. (па 6-12 клёпак з цурбана). Ад барабана клёпкі, ідуць у фугоўку (ёсьць 4) для абрэзкі бакоў і прыдачы ім належнае формы; на ваганэтках клёпкі адвозяцца да ўтору для выраўнаньня даўжыні клёпак, прарэзкі надрэзаў для ўстаўленьня доньняў, пасьля чаго гатовы матар'ял ідзе ў склад для прасушкі.

Трэба правесьці наступныя палепшаньні: замяніць пілы барабанаў на пілы больш крэпкай закалкі; набыць спэцыяльную прыладу для тачэньня піл і разводу зубоў. Наладзіць мэханічнае змазваньне ваганэткі пры фугоўцы, бо цяпер амаль што праз кожныя 10 хвілін рабочыя спыняюць станок дзеля змазваньня ваганэткі.

*Лесапільны цэх* мае 2 аддзяленьні. У вадно матар'ял з ракі падаецца па каналу з вадой, у другое падвозіцца ваганэткай, потым бярэцца на доўгі ланцуг і паступова падаецца к тром лесапільным рамам. Першая рама з абодвух бакоў абразае аполкі, а дзьве другія разразаюць брусы на дошкі рознай таўшчыні. У другім аддзяленьні загатаўляюцца дубовыя дошкі для пабудовы вагонаў. Дошкі сартуюцца: лепшыя вывозяцца на склад, горшыя (з абзой) ідуць на цыркулярку, дзе абза абрэзваецца; дошкі ідуць на склад, а абрэзкі на апал. Аполкі разрэзваюцца канцарэзкамі на кавалкі розных сартоў: адны ідуць у Донбас, другія—на абгароду і апал; камлявыя кавалкі аполкаў паступаюць да цыркулярак, дзе яны разрэзваюцца на брускі і для зьбіваньня скрынак і ідуць на сярніковую фабрыку „Чырвоная Бярэзіна“.

У першым аддзяленьні ўстаноўлены 3 лесапільныя рамы сыстэмы Гофмана, 2 канцарэзкі і 2 цыркуляркі. Прапускная здольнасьць аддзяленьня па заданьню—1.700 куб. футаў у дзень і звыш заданьня ў зімовыя дні вырабляецца 15-25 проц., а ў летні час—40-48 проц. звыш заданьня. У другім аддзяленьні: 2 рамы тэй-жа сыстэмы Гофмана, 1 канцарэзка і 2 цыркуляркі. Прапускная здольнасьць—250 куб. футаў у гадзіну.

Патрэбны наступныя палепшаньні: замена лесапільных рам рамамі большай конструкцыі; у другім аддзяленьні трэба наладзіць падачу матар'ялаў вадой па каналу.

*Фанэрны цэх* мае наступныя аддзяленьні: 1) парыльня; 2) мэханічнае аддзяленьне; 3) клеяварня і 4) сартовачна-ўпаковачнае аддзяленьне. Працэс вытворчасьці наступны: калоды ваганэткамі дастаўляюцца ў парыльню з 4-ма камерамі па 2.250 куб. футаў дрэва кожная. Пасьля 2-гадзіннай прапаркі летам і 6-гадзіннай зімой матар'ял у распараным відзе паступае ў мэханічнае аддзяленьне к 2 лушчыльным машынам („шчэль-машына“ сыстэмы Флекс), якія вылушчываюць драўляныя ленты 0,25—12 мм. таўшчынёй. На адным варштаце вылушчваецца „шпон“—надворныя слаі фанэры, на другім—унутраны слой. На гэтых-жа варштатах „шпон“ разразаецца на патрэбныя для фанэры лісты. Далей лісты паступаюць к вальцава-клеявому варштату, дзе яны з абодвух бакоў абмазваюцца клеем і склейваюцца з сухімі лістамі.

Клей загатаўляецца ў клеяварні ў 40—вядзёрнай бочцы з альбуміну, гашанай вапны і цёплай вады; у суткі загатаўляецца і расходуецца 3-4 бочкі. Пачкі фанэры ў 10 лістоў паступаюць у варыльны прэс (сыстэмы Рыхард-Поль), дзе фанэра сьціскаецца гарачымі плітамі з сілай 250 атмосфэр (7.000 пудоў) на працягу 30 хвілін, пасьля чаго фанэра праветрываецца і паступае ў сушыльны прэс (сыстэмы Рыхард-Поль). Фанэра па аднаму лісту кладзецца паміж чыгуннымі плітамі, па якіх праходзіць пара да 100) Цэльсія, і праз 8-9 хвілін сухія лісты паступаюць к цыркулярнаму варштату для абрэзкі і далей сартуюцца ў сарт.-ўпаковачным аддзяленьні.

Парыльня патрабуе рэмонту, бо прапускае пар. Прымітыўны цыркулярны варштат трэба замяніць мэханізаваным варштатам з нажом „Краузэ“, лучшыльныя варштаты зношаны, трэба замяніць машынамі новай сыстэмы.

## Продукцыя вытворчасьці.

Продукцыя вытворчасьці заводу па розных цэхах у гэтым годзе наступная:

| ЧАС. | Лесапільны цэх. | | Фанэрны цэх. | | Стружачны цэх. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. у куб. мэтр. | Сума сабекошт. у руб. | Кольк. у куб. мэтр. | Сума сабекошт. у руб. | Кольк. у клгр. | Сабекошт у рублёх. |
| Студзень | 2.186,08 | 89.055,72 | 204,99 | 26.185,12 | 31.953,25 | 4.792,92 |
| Люты . | 2.401,06 | 99.261,31 | — | — | 34.240,56 | 5.044,06 |
| Сакавік . | 2.566,97 | 103.228,95 | 407,06 | 55.129 | 51.386,23 | 5.914,91 |

Продукцыя вытворчасьці па цэхах у адносінах да вытворчай програмы і вытворчасьці даваеннага часу мянялася наступным парадкам:

| ЧАС. | Лесапільны цэх. | | Фанэрны цэх. | | Бачкарны цэх. | | Стружачны цэх. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | % вырабу к вытвор. пр. | % вырабу к дав. ч. | % вырабу к вытвор. пр. | % выр. к даваен. ч. | % выр. к вытвор. пр. | % выр. к дав. ч. | % вырабу к вытвор. пр. | % вырабу к даваен. часу. |
| 1924/25 г. | | | | | | | | |
| I кв. | 105,5 | 90 | 90 | 90 | 73 | 55 | 99 | 75,7 |
| II кв. | 103,1 | 87,6 | 92,91 | 92,91 | — | — | 96,35 | 73,68 |
| III кв. | 102,2 | 95,4 | 111,6 | 111,6 | 107,1 | 88,33 | 115,7 | 88,47 |
| IV кв. | 119,6 | 101,7 | 117,65 | 117,65 | 110 | 90,67 | 141,8 | 108,4 |
| 1925/26 г. | | | | | | | | |
| I кв. | 117,24 | 99,64 | 119,82 | 119,82 | — | — | 110,77 | 84,70 |
| II кв. | 105,6 | 89,8 | 112 | 112 | — | — | 115,4 | 88 |

З лічбаў вытворчасьці бачым хістаньні; цьвёрдага вырабу яшчэ ня выяўлена, і паданыя лічбы могуць зьяўляцца толькі орыентовачнымі.

Усе продукты вытворчасьці заводу разыходзяцца ў розныя канцы СССР, а лепшыя сарты фанэры вывозяцца ў Нямеччыну.

### Кіраўніцтва заводам.

Завод „Комінтэрн" уваходзіць у трэст „Лесбел" і кіруецца аддзяленьнем Лесбелу ў Барысаве, праз якое завод атрымоўвае сыравіну, усе заказы і вытворчыя пляны, а таксама вядзе ўвесь разрахунак. Лесбел, у сваю чаргу, падлягае ВСНГ БССР. Непасрэдна працай заводу кіруе загадчык заводу праз загадчыкаў цэхаў.

### Організацыя рабочых.

Рабочыя заводу ўваходзяць у Саюз дрэваапрацоўнікаў. Лік сяброў саюзу на заводзе 371 ч. Заўком клапаціцца аб палепшаньні ўмоў працы рабочых, абараняе інтарэсы рабочых. Пры заводзе існуе каса ўзаемадапамогі, якая налічае 185 сяброў. За захаваньнем санітарна-гігіенічных умоў наглядае санкамісія. Амбуляторыя пры заводзе дапамагае хворым рабочым і іх сем'ям. Коопэратыву пры заводзе няма.

### Умовы жыцьця рабочых.

Палова рабочых зьвязана з гаспадаркай і жыве ва ўласных дамох (50 проц.); 10 проц. жыве ў дамох комунальнай гаспадаркі, 32 проц.—у наёмных кватэрах і 8 проц.—у заводзкіх дамох. Плата за кватэры ў заводзкіх дамох наступная: атрымоўваючыя 60 руб. зарплаты ў м-ц плацяць 1 р. 10 к. за кв. саж. плошчы, атрымоўваючыя 45 р.—90 к. і атрымоўваючыя 35 р.—па 60 за кв. саж. На кожнага чалавека прыпадае 0,75 кв. саж. За наём прыватнай кватэры плацяць у сярэднім па 10 р. У сучасны момант для рабочых заводу будуецца 20 новых дамоў па дзьве кватэры ў кожным, плошчай у 55 кв. мэтраў. Наагул, трэба сказаць, што кватэрныя ўмовы рабочых дрэнныя: мала паветра, сьвету, цесна.

### Культасьветная праца.

Пры заводзе ёсьць клюб, бібліотэка, чытальня. У клюбе бывае 45 проц. усіх рабочых. Кнігамі з бібліотэкі карыстаецца 40 ч. За чэрвень м-ц рабочымі выпісваліся 257 экз. газэт і часопісаў „Звезда", „Правда", „Рабочая Газета", „Комсомольская Правда", „Чырвоная Зьмена", „Известия", „Октябрь", „Эмес", „Савецкая Беларусь" і інш. Выпіска газэт з кожным месяцам павялічваецца (у лютым м-цы выпісвалася 170 экз.).

На заводзе існаваў лікпункт, дзе навучалася 14 няпісьменных. Пры клюбе працуюць гурткі: драматычны, музычны і спортыўны. Прачытана 3 лекцыі па санітарыі, праведзены 2 вечары пытаньняў і адказаў.

### Пэрспэктывы заводу.

Выгаднае месцапалажэньне заводу і лясныя багацьці Барысаўскай акругі ствараюць выгадныя ўмовы для далейшага разьвіцьця заводу. У будучым (1927 г.) намечаны плян поўнай перабудовы заводу: пабудова новага адпаведнага будынку заводу, замена старых машын новымі, павялічэньне колькасьці машын, варштатаў, правядзеньне большай мэханізацыі працы заводу, аб'яднаньне двух лясных аддзяленьняў у вадно, пабудова кватэр для рабочых.

Проф. П. Салаўёў.

# Сьпіс птушак, якіх я назіраў у ваколіцах Горак.

Авіофауна Беларусі патрабуе сыстэматычнага вывучэньня. Загадчык Орнітолёгічнага аддзелу Зоолёгічнага музэю Акадэміі Навук СССР проф. П. Сушкін у сваім зьвяртаньні да краяведаў—орнітолёгаў і паляўнічых—паказвае, між іншым, на ўсе раёны Беларусі, з якіх пажадана атрымаць матар'ялы („Известия ЦБК № 4, апрель 1926"). Я даў некаторыя ўказаньні ў артыкуле, які зьмешчаны ў зборніку „Аршаншчына" ч. I („Фауна Аршаншчыны"). З орнітолёгічных прац, ахвярованых Беларусі, апрача майго нарысу, трэба паказаць на працы, якія тычацца Меншчыны, а іменна:

*Федюшин А.* О некоторых птицах Минской губ. Орнитологический Вестник 1912 г., стр. 297—303.

*Никольский А.* Животный мир Полесья. Прилож. к очерку работ Западн. Экспед. по осушке болот 1873—1898 г.

*Шнитников В.* Птицы Минской губ. Материалы к познанию фауны и флоры Российской империи. 1913.

Апрача таго, трэба мець на ўвазе часьць III разьдзелу, ахвярованую птушкам, у IX томе прац П. П. Сямёнава „Россия"—„Верхнее Поднепровье и Белоруссия"(1905). Апрача прац, ахвярованых Польшчы, там цытуюцца і такія працы, як Вобелг Е.—„Прилет птиц в Борисовском у. Минской губ." (Природа и охота, 1878).

Прапануючы ўвазе краязнаўцаў свой сьпіс птушак, я уключаю ў яго толькі тыя віды, якія сам назіраў і ў пэўнасьці іх адзначэньня сумненьня няма.

1. Канюх махнаногі—Archibuteo pallidus Menzb.
2. Мышалоў палявы—Circus cyaneus L.
3. Карагольчык (ястреб-перепелятник)—Accipiter nisus L.
4. Сакол-каршачок—Falco subbuteo L.
5. Шулячок—Falco tinnunculus L.
6. Кугакаўка—Syrnium aluco L.
7. Пугач вялікі—Bubo maximus Ger.
8. Крумкач—Corvus corax L.
9. Шэрая варона—Corvus cornix L.
10. Грак—Corvus frugilegus .
11. Галка—Monedula turrium Brehm.

    *Увага.* Сустракаюцца пераходы да Monedula collaris Drumm.
12. Сарока доўгахвостая—Pica caudata Ier.
13. Сойка звычайная—Garrulus glandarius L.
14. Шпак—Sturnus vulgaris aust.
15. Сініца вялікая—Parus major L.
16. Блакітніца—Parus coeruleus L.

17. Пухляк—Parus palustris auct.
18. Гаічка—Parus boreolis de Sèlys.
19. Маскоўка—Parus Ater L.
20. Чубатая сініца—Lophophanes cristatus Briss.
21. Доўгахвостая сініца—Acredula caudata Koch.
22. Каролік жоўтагаловы—Regulus flavicapillus Naum.
23. Грычун-жулап—Lanius collurio L.
24. Івалга—Oriolus galbula L.
25. Валасяніца пярэстая—Muscicapa atricapilla L.
26. Амялушка—Ampelis garrulus L.
27. Сітаўка—Motacilla alba L.
28. Пліска— „ flava L.
29. Стракатка лясная—Anthus trivialis L.
30. Леска шэрая—Sylvia cinerea Bechst.
31. „ садовая— „ hortensis Bechst.
32. „ чорнагалоўка—Sylvia atricapilla L.
33. Будаўнічок-бражджотка—Phylloscopus sibilatrix Bechst.
34. „ вясьнічок— „ trochilus L.
35. „ цяньковы— „ rufus Bechst.
36. Чаротаўка—Acrocephalus streperus Vieil.
37. „ садовая—Acrocepholus dumetorum Blyth.
38. „ балотная — „ palustris Bechst.
39. Тынаўка—Accentor modularis L.
40. Валова вока—Troglodytes parvulus L.
41. Дрозд-піскун—Turdus pilaris L.
42. „ чорны— „ merula L.
43. Іванчык—Pratincola rubetra L.
44. Салавей-чырвонашыйка—Erithacus rubecula L.
45. Чорнагрудка—Ruticilla phocnicura L.
46. Глінянка—Sitta curopae a L.
„ „ cacsia Wolf.
„ „ uralensis Liht.
47. Паўзунок—Certhia familiaris L.
48. Ластаўка—Hirundo rustica L.
„ Chelidon urbica Boie.
49. Жаўранка звычайная—Alauda orvensis L.
50. „ сьмяцей—Abauda cristata L.
51. Жоўтабрушка — Emderiza citrinella L.
52. Прасянка—Emberiza miliaria L.
53. Юрок-берасьцянка—Fringilla coelebs L.
54. „ звычайны—Fringilla montifringilla L.
55. Зелянушка—Fringilla chloris L.
56. Канаплянка— „ cannabina L.
57. Чачотка— „ linaria L.
58. Чыжык— „ spinus L.
59. Шчыгол— „ carduelis L.
60. Верабей—Passer domesticus L.
„ „ montanus Briss.
61. Чаромашнік—Corpodacus erythrinus Pallas.
62. Гіль—Pyrrhula coccinea Sel.
63. Грун—Cypselus apus L.
64. Зязюля—Cuculus canorus L.
65. Удод—Upupa epops L.

66. Сіваграк сіні—Coracias garrula L.
67. Дзяцел пярэсты—Dendrocopus major Koch.
68. „ малы— „ minor „
69. Жаўна зялёная—Gecinus viridis L.
70. „ сівая— „ canus Gm.
71. Круцігалоўка—Iynx torguilla L.
72. Голуб—Columba livia Briss.
73. Перапёлка—Coturnix communis Bonnat.
74. Курапатка шэрая—Perdix cinerea L.
75. Драч—Crex pratensis Bechst.
76. Кнігаўка—Vanellus cristatus Meyer.
77. Перавозчык—Actitis hypoleucos L.
78. Бусел белы—Ciconia alba Briss.
79. Нырчык—Podiceps cristatus L.

З гэтага сьпісу відаць, як многа птушак можна назіраць у такім маленькім вучастку, якім зьяўляюцца Горкі. Таксама зразумела, што ня ўсе птушкі ўвайшлі ў сьпіс. Адгэтуль ясна, які багаты і каштоўны матар'ял можна мець дзеля высьвятленьня авіофауны Беларусі, калі ўсе краязнаўчыя організацыі рэспублікі зьвернуць патрэбную ўвагу на нашыя мясцовыя птушкі.

А. Крукоўскі.

# Жалезная руда на Мазыршчыне.

Калі пераглядзець па справачніку назвы залюдненых пунктаў па Мазыршчыне, дык выявіцца, што шмат з іх паходзіць ад кораню „руд", а найбольш будуць—то Рудня, то Есіпава Рудня, то Рудня Скрыгалоўская, то Новая Рудня, то Еўтушкавіцкая Рудня і г. д. У кожным раёне, за выключэньнем Азарыцкага і Тураўскага, ёсьць 2—4 вёскі з назвай „Рудня" (Азарыцкі і Тураўскі раёны маюць па аднэй в. Рудні). Усяго па акрузе налічваецца 22 вёскі з назвай Рудня, 1 в.—Падрудня, 1 в.—Руданька, 1 в.—Руда і 6 в. з назвай ад кораню „руд", як, напрыклад: Рудуска, Рудоўка, Рудакоп і г. д. Гэта належыць да буйнейшых залюдненых пунктаў, выключыўшы адгэтуль невялікія пасёлкі, аднадворныя хутары, сярод якіх таксама ёсьць з назвамі „Рудня". Лік залюдненых пунктаў з назвай „Рудня" і паходзячай ад кораню „руд" (іх усяго 31) у вадносінах да агульнага ліку насельных пунктаў па Мазыршчыне (іх 1.481) складае 2,09 проц., у той час як іншыя аднолькавыя назвы больш 4-х разоў на акрузе не сустракаюцца. Гэткая распаўсюджанасьць назвы „Рудня" не зьяўляецца выпадковай, а паходзіць ад слова „руда", якой на тэрыторыі Мазыршчыны значная колькасьць. Разумеецца, што ня ўсе месцы, дзе сустракаецца руда, абсьледваны.

У Мазырскім*) раёне жалезная руда знойдзена сялянамі пры капаньні канавы каля сялібаў в. Рэдзька Мялешкавіцкага сельсавету. Яна залягае тут на глыбіні да 0,7 мэтра ў балоціне, месцам заросшай алешнікам. На працягу даўжыні 1 кілёмэтру і ўздоўж пракопанае канавы сустракаецца руда, слой якой да 1,6 дэцымэтра таўшчынёю.

Сяляне в. Рэдзька апавядаюць, што калісьці на памянёнай балоціне руда капалася і адвозілася на гуту ў Млынок, якая знаходзіцца каля самых Мялешкавічаў. Аб існаваньні гуты ў Млынку вестак пэўных няма. Затое, бясспрэчна, гута была на адлегласьці 0,5 кілёмэтра ад в. Малы-Бокаў, Міхалкаўскага сельсавету, Слабадзкога раёну па правы бок дарогі, якая вядзе з М.-Бокава ў Міхалкі. Каля невялікае рачулкі, што працякае праз гнілую балоціну, ёсьць насып, даўжынёю да 21 мэтра і шырынёю да 8,5 мэтра. Увесь курган усеяны жужалем, які ўтварыўся ад пераплаўкі руды. Старажылы апавядаюць пра руіны б. тут раней заводу, які належаў пану Талстому, але самога заводу не памятаюць.

У суседнім Пятрыкоўскім раёне жалезная руда знойдзена каля в. Аголіцкай Рудні, Пасад-Капцэвіцкага сельсавету, каля в. Скалодзі-

*) Цяпер ён—Слабодзкі.

на, Глініцкага сельсавету і каля в. Глініцы, таго-ж сельсавету, у вадлегласьці 1,5 кілёмэтра, каля дарогі ў в. Балажэвічы, Мазырскага раёну.

У Капаткевіцкім раёне жалезная руда знойдзена каля в. Руданькі (Белкі), Капаткевіцкага сельсавету.

У Азарыцкім раёне пласт руды, таўшчынёю да 1,2 дэцымэтра, агаляецца на беразе рэчкі Уны, каля в. Хамічоў, таго-ж сельсавету, а на 0,25 кілёмэтра ад в. Яўтушкавіцкае Рудні (на карце яна завецца Яўтушкавічы), таго-ж сельсавету, на беразе р. Уны, у тым месцы, дзе яе перасякае шлях з в. Давыдаўкі ў м. Азарычы, была калісьці гута, на якой пераплаўлялася жалезная руда. Гэтую руду капалі ў 2 кілёмэтрах ад в. Карані, таго-ж сельсавету, Азарыцкага раёну, на балоце Чарнетаў. Старажыл Яўтушкавіцкае Рудні Сьцяпан Прус памятае, як гадоў 56 таму назад быў яшчэ будынак гуты, а матка яму расказвала, што на заводзе выцягвалі з жалеза шыны на колы і сашнікі для сох. У в. Людвінаўка, Еўтушкавіцкага сельсавету, нядаўна памёр быўшы рабочы гуты, якому кавалкам гарачага жалеза выпекла вока ў часе працы на гуце.

У Нараўлянскім раёне жалезная руда ёсьць каля в. Дзямідаўская Рудня, Дзямідаўскага сельсавету. Тут-жа гадоў сорак таму назад была і гута па выплаўцы з руды жалеза. У мясцовасьці каля быўш. гуты жыве 15 сем'яў быўш. рабочых гуты, якія і прозьвішча маюць—Рудніцкія. Паводле апавяданьняў быўшых рабочых, на гуце выраблялася ў дзень толькі 15 пудоў жалеза.

У Каленкавіцкім раёне жалезная руда знойдзена каля канавы Вёдрыч, на востраве Сытнае, на глыбіні да 1 мэтра, але шмат жалезнае руды было і цяпер ёсьць каля в. Есіпавай Рудні (на картах яна завецца Восіпавай Рудняй), Зеляноцкага сельсавету. З жалезнае руды тут зроблены насып дарогі каля мосту, дарогі, вядучай у в. Гародчыцы і на станцыю Гародчыцы, Падольскае чыгункі. Старажылы в. Есіпавай Рудні апавядаюць, што калісьці тут руду капалі і вазілі на прыстані ў Мазыр і Рачыцу, а адтуль ужо руду адвозілі нібыта ў Харкаў, і што руды было вывезена да 700 тысяч пудоў. Усё гэта было гадоў каля сарака таму назад. Ці была тут гута па выплаўцы з руды жалеза—ня выяўлена, але-ж магчыма, што, апрача капаньня, тут вялася і яшчэ нейкая праца над рудою. Аб гэтым можа сьведчыць, здаецца, наступны факт: у 1925 годзе на гародзе гр-на в. Есіпавай Рудні, Лукаша Казюкова, была знойдзена жалезная сякера, маючая форму калуна, вагою ў 3 пуды і 10 фунтаў, якая выпадкова не магла тут апынуцца.

Д. І. Даўгяла.

# Аршанскія пячоры.

I.

18 мая гэтага 1926 году вучні аднае аршанскае школы былі на экскурсіі ў мясцовасьці „Дубкі“, якая знаходзіцца ў 1½ кілём. ад мосту праз Дняпро, па левым яго беразе ўверх па плыні.

Дзеці весела забаўляліся. Адзін за адным па чарзе скакалі ўніз па крутому ўзгорку ўзбярэжжа над руччом Арэхаўкай, які тут недалёчка ўваходзіць у раку Дняпро. І вось, адзін хлопчык, скокнуўшы, праваліўся ў лёх. Хутка яго адтуль выцягнулі і пачалі аглядаць лёх. Зараз-жа заўважылі, што трапілі на пячоры.

Весткі аб гэтым зацікавілі Аршанскае Акруговае Краязнаўчае Таварыства і студэнтаў Аршанскага рабфаку. Пад кіраўніцтвам настаўніка Глінскага і сяброў Аршанскага Краязнаўчага Таварыства быў адкопаны ўваход у пячоры, зроблены іх агляд, і ў агульных рысах яны нанесены на схэматычны плян.

26 мая старшыня Аршанскага Краязнаўчага Таварыства Д. М. Васілеўскі зрабіў заяву аб гэтай знаходцы ў Інбелкульце. Гістарычна-археолёгічная камісія ў той-жа дзень абгаварыла гэту заяву ў сваім чарговым пасяджэньні і ўхваліла, каб накіраваць на дасьледваньне памянёных пячор сваіх сяброў—Сербава, Даўгялу і Аніхоўскага.

II.

Ужо 2-га чэрвеня вышэйназваныя таварышы былі ў Воршы і знайшлі поўнае падтрыманьне і шчырую дапамогу з боку краязнаўчага таварыства і рабфаку. Т.т. Васілеўскі, Глінскі і 8 студэнтаў рабфаку не шкадавалі часу, працы і дапамаглі камісіі зрабіць поўныя падрабязныя абмеры пячор, устанавіць іх кірунак, нанесьці на плян, зрабіць некалькі спробных раскопак як дзеля выяўленьня новых уваходаў, так і з мэтай высьвятленьня пытаньня аб тым, ці былі гэтыя пячоры жыльлём для чалавека. Тав. Сербаў зрабіў фотографічныя здымкі, т. Аніхоўскі злажыў дэтальны плян пячор. Акрамя гэтага, былі зроблены дасьледваньні і агляд усяго ўзьбярэжжа па абодвух бакох ручча Арэхаўкі, які тут плыве ў глыбокім рове з паўночнага ўсходу і ўліваецца ў Дняпро. Апошні мае тут просты кірунак з поўначы на поўдзень.

На левым беразе ручча Арэхаўкі, высока ад падэшвы ўзьбярэжжа, ня менш, як на вышыні шасьці сажняў, знаходзіцца ўваход у пячоры. Ён ня зусім прасторны і дзеля гэтага трэба легчы і зьяжджаць у лёх нагамі ўніз. Ужо апынуўшыся ў густой цёмры лёху можна падняцца і стаць на ногі.

Першае ўражаньне вельмі жудаснае: цемра, надзвычайны холад, вільгаць і цяжкое смуродлівае паветра. Але запалілі сьвечкі, і пачалася праца па дасьледваньні. Бачыш, што папаў у калідор, ад якога разыходзяцца ў бок яшчэ два.



**Увaход у пячоры.**

З левага боку дубовы касяк, які захаваўся да раскопак. Зьверху зямля абсыпалася і завала ўваход. Ёсьць толькі лёх, у які можна спаўзьці (адтуль відаць галава студэнта Арш. Рабфаку).

**Фотогр. Арш. Краязн. Т-ва.**

III.

Абмер даў наступныя вынікі:

Калідор „А" мае даўжыні 7 аршын $12^1/_2$ вяршкоў, вышыні 2 аршыны $8^1/_2$ вяршкоў, шырыня розная: 1 аршын $2^1/_4$ вяршка — 1 аршын $6^1/_2$ вяршкоў.

Ад гэтага калідору пачынаюцца ў левы бок яшчэ два калідоры „В" і „С".

Калідор „В“ пачынаецца ад уваходу праз 3 арш. 12 вяршк. Ён мае даўжыні 5 арш. 14 вяршк., вышыні 2 арш. $3^1/_2$ вяршк.; шырыня розная: 1 арш. $1^1/_2$ вяршк.—1 арш. 9 вяршк. У канцы яго незакончаны працяг у 14 вяршк.

Калідор „С“—праз 3 арш. 5 вяршк. ад „В“. Ён большы за „А“, „В“. Мае ў даўжыню 12 арш. 1 вяршк., у вышыню—2 арш. 6 вяршк., шырыней 1 арш. 2 вяршк.—1 арш. $2^1/_2$ вяршк. У канцы гэтага калідору ляжыць насыпаная зямля. Дзеля гэтага няможна прабірацца па калідоры далей.

IV.

Ува ўсіх трох калідорах ёсьць значныя выемкі, або нішы, ва ўсю вышыню калідору, пры глыбіні і шырыні 1 арш.—1 арш $3^1/_2$ вярш. Напрыклад, у галоўным калідоры „А“, насупроць бакавога калідору „С“, адна ніша, у калідоры „В“—дзьве нішы, у калідоры „С“—тры нішы.

Акрамя гэтых выемак, ва ўсіх калідорах ёсьць маленькія пячурачкі 5×5 вяршкоў. У іх верх закураны. Гэта сьведчыць аб прызначэньні іх. Відаць, што тутака ставіўся каганец або плошка для асьвятленьня пры працы ў падзямельлі.

Сьцены маюць у большай частцы правільны старчовы нахіл, а ў калідоры „С“ абодва бакі калідору пасярэдзіне больш выбраны, чымся ўверзе і ўнізе.

Скляпеньне ў розных калідорах мае розную форму,—то напоўкруглую, то востракутную.

V.

Пячоры выкапаны ў пластох пясчана-глiністых адкладаў, з вялікай прымешкай галькі і досьць буйных абкатаных каменьняў. Пры гэтым, па сьцянах пячор вельмі рэзка вызначаецца надзвычайна правільная чарга роўналежных між сабой слаёў рачнога пахаджэньня, з праслойкамі адмытага белага рачнога пяску таўшчынёй 3-4 сантымэтры.

Такая пухкая глеба зьяўляецца небясьпечнай дзеля пабудовы пячор бяз ніякага тынку або абкладкі. Яны могуць абваліцца і абсыпацца ў любую хвіліну.

Магчыма, што, побач з адкрытымі цяпер пячорамі, існавалі і іншыя пячоры, але яны ўжо засыпаны. Пячоры гэтыя мелі ўваход з таго-ж самага паўночнага боку ад ручча Арэхаўкі на аднэй вышыні з уваходам у першыя праз $2^1/_2$ саж. ад першага ўваходу. Гэтыя другія пячоры—тэйжа самай калідорнай сыстэмы і недалёка ад уваходу маюць два кірункі: адзін на поўдзень да 8 аршын, а другі на ўсход на $1^1/_2$ аршыны.

З прычыны таго, што пячоры гэтыя засыпаны, нельга выявіць іх выгляду і пляну. Каб іх дасьледаваць, трэба спачатку ачысьціць гэтыя пячоры ад зямлі, на што патрэбны значны час і сродкі.

Можна думаць, што тут-жа, акрамя двух вызначаных уваходаў, быў яшчэ адзін уваход. Але яго не ўдалося адкапаць.

VI.

Зробленыя раскопкі не далі ніводнай адзнакі, каб у іх знаходзілася чалавечае мяшканьне. Калі заўважыць, што, ня гледзячы на вельмі вузкія калідоры, сьценкі іх ня маюць сьлядоў абціраньня, а яны павінны былі застацца ад часоў жыцьця тут чалавека, дык у гэтым маем досьць моцнае падтрыманьне выказанае думкі.



















Аршанскія пячоры.

Калі-б тут працавала некалькі чалавек разам, дык і тады-б калідоры павінны быць больш шырокімі.

Зьвернем цяпер увагу на кубатуру пячор. Яна дае каля 15 куб. сажняў.

Гэта сьведчыць аб тым, што праца на гэтыя пячоры была патрачана ня вельмі вялікая. Пры лёгкім грунце такую кубатуру зямлі можна было аднаму чалавеку выкапаць і вынесьці ў працягу поўгоду.

Можна дапусьціць, што праца была толькі распачата і няскончаная пакінута. Можа і наўмысьне. Глебны слой не дазваляў пашырыць калідор. Але праца магла спыняцца і дзеля іншых прычын.

Тым ня меней, у Беларусі болей нідзе невядома такіх штучных пячор. Высьветліць іх пахаджэньне неабходна. І, здаецца, перш за ўсё ў гэтым дапамагае штучная катловіна, якая заўважана на самым версе пагорку ўзьбярэжжа, у якім выкапаны пячоры.

Гэта катліна правільнай формы (гл. плян), зроблена рукамі чалавека дзеля таго, каб пабудаваць тут зямлянку.

Зробленая раскопка дала такія знаходкі: кавалак жалезнага нажа, невялікая бляшаная пушачка, да якой знойдзена бляшаная верхняя покрыўка з дзіркай, як-бы для сьвяцільні. Ёсьць чутка, нібы знайшлі тут каганец, якім жыхар зямлянкі карыстаўся для асьвятленьня.

Вось гэты чалавек мог быць архітэктарам і будаўніком знойдзеных цяпер пячор.

VII.

Як давялося даведацца з справкі ў Аршанскім акр. аддзеле землярobства, там захаваўся плян генэральнага межаваньня ваколіц Воршы ў 1783 г. На гэтым пляне, які быў зроблены ўсяго праз 10 год пасьля далучэньня Воршы да Расіі, мясцовасьць „Дубкі“ запісана, як маемасьць „ігумена Куцеінскага (Куцемiскага) манастыра Кірыла з брацьцею“. Усяго ў гэтым вучастку паказана каля 5 дзесяцін.

Гэта ўжо дакумантальная рыска. Яна вельмі маленькая. Але яна дае дасканалы кірунак у вырашэньні пытаньня аб тым, якое насельніцтва магло жыць у Дубкох. Яна, гэта рыска, зьвязвае Дубкі, якія знаходзіліся ад Воршы ў $1^1/_2$ кілём. уверх, з Куцеінскім манастыром, які знаходзіўся ў 3 кілём. ад Воршы ўніз, на тым самым беразе р. Дняпра.

Куцеінскі мужчынскі Пакроўскі манастыр быў заснованы ў 1636 г. Праз якіх-небудзь дваццаць пяць год ён стаў адным з самых з перадавых манастыроў на Беларусі. Тут была заведзена друкарня, з якой вышла значная колькасьць добра зробленых з мастацкага боку кніжак, з гравюрамі беларускіх майстроў. Манастыр меў назву „Беларускай Лаўры“.

Досьць багаты быў гэты манастыр усякімі наданьнямі—зямлёй і іншымі ўгодзьдзямі...

Які-ж быў сэнс гэтаму багатаму манастыру набываць нікчэмную пескаватую гару ў 5-х амаль кілёмэтрах ад манастыра?..

А вось мы якраз бачым, што манастыр моцна трымаецца за гэты кавалачак!..

Відаць, што паміж Куцеінам, Дубкамі і цяпер адкрытымі пячорамі была сьціслая сувязь.

VIII.

Цікава, што рэальная гістарычная праўда не захавалася ў паданьнях цяперашніх насельнікаў Дубкоў. Трэба дзесьці шукаць дакумантаў.

Але на месцы ёсьць легенда аб тутэйшым жыхары, які ўвесь свой век, нібыта, шукаў скарбу ў гары па беразе Дняпра. Называюць і фамілію—Зямкевіч. Ён так і не адшукаў скарбу. І памёр даўно. Нібыта яшчэ яго помніць і добра ведае, што ён шукаў скарбу, адна яшчэ жывая і цяпер грамадзянка, Камінская па прозьвішчу, досьць ужо старога веку...

Аб пячорах, аднак, гэтая грамадзянка ня ведае.

Здаецца нам, што гэта апошняя легенда зусім беспадстаўная. Бо сапраўды чалавек павінен шукаць чаго-небудзь закопанага па якой-небудзь адзнацы... Нельга шукаць у натуральнай неперарытай глебе якогась кладу... А пячоры вырыты ў цаліне.

Не, Зямкевіч не капаў пячор у Дубкох!..

IX.

Адкрытыя пячоры, ня гледзячы на тое, што зьяўляюцца неапрацованымі канчаткова, усё-ж маюць навуковую каштоўнасьць з боку гісторыі Беларусі, мастацтва і цікавасьць з боку геолёгічнага пабудаваньня левага ўзьбярэжжа Дняпра.

Усё гэта выклікае неабходнасьць захаваць гэтыя пячоры ад разбурэньня для шырокіх дасьледаваньняў у будучыні, магчыма, недалёкай.

Акрамя апісаных пячор на левым беразе ручча Арэхаўкі, мы бачылі пячоры і на правым беразе гэтага ручча з уваходам ад р. Дняпра на ўчастку хутараніна Ахопіка... Праўда, там калідор завілы і ня больш 3 сажняў даўжыні ўвесь, і калі спыталіся ў названага грамадзяніна Ахопіка аб гэтых пячорах, якія знаходзяцца каля яго хаты, то ён адказаў, што аб пахаджэньні пячор ня ведае нічога, але тут узімку хаваў бульбу.

Здаецца, што такіх завілых пячор на схову бульбы нідзе на Беларусі не рабілі. Фактычна, пахаджэньне іх іншае, і, такім чынам, на далейшае дасьледаваньне застаецца шмат пытаньняў як у сувязі з цяпер адкрытымі пячорамі, так і іншымі, якія тут знойдзены і ўзяты на ўчот гістарычна-архэолёгічнай камісіяй ІБК.

X.

Калі ўсё вышэйвызначанае было ўсебакова абмяркована на пасяджэньні гіст.-арх. камісіі, то былі высунуты дзьве пропозыцыі: а) аб захаваньні пячор ад разбурэньня і б) аб далейшым іх дасьледаваньні. 15 чэрвеня справаздача была заслухана на пасяджэньні прэзыдыуму Інбелькульту, які таксама знайшоў неабходным, каб гіст.-арх. камісія высьвятляла далей проблему аб аршанскіх пячорах і, з свайго боку, зьвярнуўся да Аршанскага Акруг. Т-ва Краязнаўства, каб забясьпечыць пячоры ад разбурэньня.

•

А. Крукоўскі.

# Старадаўні Тураў і яго ваколіцы [1]).

„Бе бо Рогволод прышел из-за морья, имяше власть свою в Полотьске, а Тур в Турове, от него же и Туровци прозвашася“—вось тыя першыя зьвесткі аб Тураве, якія знаходзім у Кіеўскім летапісе пад 980 годам.

Тураў—цяпер мястэчка (раённы цэнтр), якое ўваходзіць у склад Мазырскае акругі. Пабудаваны на правым беразе р. Прыпяці, ён (Тураў) быў калісьці, паводле летапісаў 980 году, першым горадам у зямлі дрыгавічоў, якія, як кажа летапісец, „седоша межю Прыпетью и Двиною“. Заснаваньне Турава летапісцам прыпісваецца варaскаму князю Туру. І сапраўды, сярод вараскіх іменьняў, напрыклад, у дагаворы Ігара з грэкамі ў 945 годзе, ёсьць імёны з коранем „тур“, як і паміж іншых даўнейшых славянскіх гарадоў ёсьць шмат такіх, якія атрымалі назву ад імя сваіх заснавальнікаў. Да ліку іх належаць такія гарады, як Яраслаў, Уладзімер, Ізяслаў, Барысаў, Давыд-гарадок і інш. Але адносна назвы Турава, насупроць нават летапісам, болей праўдзіва будзе, па нашай думцы, выводзіць назву не ад імя князя Тура, а ад назвы жывёліны „тура“ на гэткіх падставах: папершае, мы сустракаем шмат назоў сёл, вёсак, рэк, палёў, урочышчаў і г. д. з коранем „тур“, і выводзіць гэтыя назвы ад каранёў вараскага пахаджэньня нельга; падругое, на зямлі дрыгавічоў вадзілася шмат тураў, на якіх, як вядома з навучаньня Уладзімера Манамаха, езьдзілі паляваць і кіеўскія князі, а значыцца, праўдзівей усяго думаць, што і горад атрымаў назву ад імя зьвяроў—тураў.

Аб галоўнейшых момантах гісторыі Турава нам вядома тое, што ў X ст. ён быў на чале Тураўскае валасьці і належаў да Полаччыны; у пачатку XI ст. Тураў быў ужо ў складзе Кіеўскага княства, затым належаў зноў да Полаччыны, а ў XIV ст. увайшоў у склад Літоўска-Беларускае дзяржавы [2]). Наагул, трэба сказаць, што Тураў, стаяўшы на чале валасьці, меўшай тую-ж назву, адыграваў даўней значную ролю. Аб мінулым Турава сьведчыць шэраг помнікаў, якія засталіся на тэрыторыі Турава і яго ваколіцы.

На балотнай раўніне тэрыторыі мястэчка Турава знаходзяцца 2 узгоркі, сумежныя, насыпныя, з плоскімі вяршынамі, абкружаныя з аднаго боку рэчкаю Струменьню, з другога—рукавом Дамаухай (цяпер ён завецца Яздою), а з трэцяга й чацьвертага—канавай, у якой калісьці была вада і быў, як і цяпер, мост, так што гэтыя ўзгоркі

---

[1]) Арт. напісан пры дапамозе т. т. Леца, К. Б. Шпакоўскага і П. Кашыся. *Аўтар.*

[2]) Падрабязьней аб гісторыі Турава—у „Верхнем Поднепровье и Белоруссии. т. IX, под редакцией В. П. Семенова“.

зьяўляюцца старадаўняй крэпасьцю-гарадзішчам і маюць назву Туравай гары. У верхняй частцы пляну м. Турава, які мы тут даем, за м. Туравам, к леваму кутку, знаходзіцца старадаўняя крэпасьць-гарадзішча. Яна займае плошчу ў 5 дзесяцін, так што на ім цяпер зьмяшчаецца: 1) сямілетняя школа, 2) яўрэйская 4-комплектная школа, 3) савецкая больніца і 4) Ільлінская царква. Вышыня насыпу крэпасьці мясцамі дасягае 10 мэтраў. У „Описании церквей и приходов по Минской губ. за 1879 год" знаходзім зьвесткі, што ніжні слой тураўскіх узгоркаў (апісваецца гарадзішча) на сажань таўшчынёю складаецца з рачнога пяску; паверх гэтага—пласт, у якім шмат вугольля, над ім ідзе пласт з касьцямі жывёлін і чарапкамі глінянае пасуды, прычым гэтыя чарапкі ў тры разы таўсьцейшыя за чарапкі сучаснае глінянае пасуды; над гэтым пластом—пласт з бярозаваю карою, а затым з рыбяй лускі, пераважна язёвае. Над пералічанымі слаямі ляжыць гліністы пласт.

Ці сапраўды тураўскае гарадзішча-крэпасьць складаецца з усіх тых пластоў, аб якіх успамінаецца ў „Описании церквей и приходов по Минской губернии",—добра невядома, але-ж у 1925 годзе двума краязнаўцамі т.т. Лецам і Чайкоўскім выпадкова ў пакаце гарадзішча, на глыбіні 2-х мэтраў, знойдзена 6 кавалкаў розных костак, з якіх 2 зьяўляюцца зубамі жывёл. Адзін зуб дасягае ў даўжыню 7,5 дэцымэтра бяз кораню і ў шырыню—да 2,5 дэцымэтра і належыць жвачнай жывёліне, другі зуб іншага гатунку, шмат меншых разьмераў і ня мае каронкі. Апрача таго, там-жа знойдзена і некалькі тоўстых чарапкоў. (Месца, дзе знойдзены памянёныя вышэй рэчы, абазначана на пляне—*). Рыбяя луска таксама раней знаходзілася. Месца знахаджэньня яе абазначана—II).

Трэба меркаваць, што знойдзеныя чарапы глінянай пасуды—гэта рэшткі пасуды даўнейшага чалавека, прысутнасьць-жа яшчэ рыбяй лускі дазваляе нам думаць, што на месцы тураўскага гарадзішча-крэпасьці была яшчэ і стаянка даўнейшага чалавека-рыбака.

Па дарозе, якая пераразае ўзгорак, ёсьць цэгла квадратовае формы (разьмер яе $\frac{1}{4} \times \frac{1}{4}$ арш.). Цэгла гэта тонкая, але моцная. Быўшы гадоў 20 таму назад у Тураве настаўнік Корань Г. рабіў раскопкі і дакапаўся да фундаманту нейкае будыніны круглае формы. Фундамант гэты цагляны і калі па ім стукалі, дык аддаваўся глухі гук, нібы сярэдзіна фундаманту была пустою[1]). Сярод насельніцтва ходзяць чуткі, што ў гарадзішчы-крэпасьці калісьці жылі два князі (на кожнай горцы па аднаму) і што ёсьць падземны ход, але пэўных вестак аб гэтым ходзе няма, хоць існаваньне такога ходу ў мінулым магчыма.

У пачатку апісаньня гарадзішча-крэпасьці гаварылася пра рэчкі, канавы, якія акружалі крэпасьць. Трэба думаць, што крэпасьць была яшчэ акружана і сьцяною і што ў крэпасьці былі нейкія нават цагляныя будынкі, аб чым сьведчыць прысутнасьць цэглы квадратовае формы на ўзгорках.

Паводле паданьня, якое захавалася сярод жыхарства, мяст. Тураў было разьмешана ў паўднёва-ўсходнім баку ад крэпасьці на значнай адлегласьці ад апошняй, на месцы-ж часткі цяперашняга мястэчка, прылягаючага да гарадзішча, напрыклад, Чырвонай плошчы і часткай мястэчка да Кастрычнікавае плошчы, былі калісьці магільнікі, бо калі на гэтым месцы потым была адведзена плошча і адбываўся гандаль, дык коньмі частка зямлі была зьнесена і тады знаходзілі ў зямлі

[1]) Жыхарства кажа, што там ёсьць мядзьвежая скура з золатам.

залатыя крыжыкі, такія-ж пярсьцёнкі, а крыху глыбей траплялі труны з касьцьмі *). Старая плошча была на месцы цяперашняе Кастрычнікавае.

Недалёка ад Турава ў заходнім кірунку знаходзяцца Барысаглебскія могілкі, на якіх ёсьць невялікая царква, пабудаваная замест Барысаглебскага сабору—катэдры біскупаў тураўскіх. У Спаскай царкве, якая знаходзіцца ў прадмесьці Турава—Заяцельлі (у паўночна-заходнім кірунку ад крэпасьці), магчыма, яшчэ захоўваецца сынодык з імёнамі біскупаў тураўскіх.

З другіх помнікаў зварачае на сябе ўвагу саркофаг—каменная труна, знойдзеная 18 год таму назад выпадкова пры капаньні магіл-




Старадаўны Тураў.

кі на Барысаглебскім магільніку. Саркофаг зроблены з сьветла-чырвоных цэльных каменных пліт, вычасаных з палявіка. Ён у даўжыню мае да 2-х мэтраў, у шырыню—да 0,9 мэтра, а ў вышыню—0,8 мэтра. Каменныя пліты ўмацаваны тоўстымі жалезнымі скобкамі, але верхняя пліта—века—разьбіта і яе няма. У саркофазе было знойдзена некалькі костак, чэрап і адасланы ў Менск, а таксама знойдзены былі залатыя ніткі, магчыма, з парчавое вопраткі.

Ёсьць у Тураве яшчэ 4 каменныя крыжы, зробленыя з шэрага граніту. Адзін з крыжоў знаходзіцца ў Барысаглебскай царкве, другі—у царкве ўсіх сьвятых, трэці—у царкве Котава. Вышыня крыжоў дасягае да 1,4 мэтра.

---

*) Каля першага крапаснога ўзгорку (ён бліжэй да Чырвонай плошчы) былі знойдзены старасьвецкія боты з косткамі ў іх.

Некаторыя кажуць, што гэтыя крыжы зьяўляюцца межавымі знакамі, якія ставіліся, калі Беларусь была пад польскім панаваньнем. А сярод насельніцтва Турава раней пашырана была легенда аб тым, што крыжы плылі з Кіеву ўверх па рацэ, а калі іх пераняілі, дык вада ператварылася ў кроў.

Можа ў гэтым паданьні трэба бачыць паказаньне таго, як распаўсюджвалася хрысьціянства па Тураўшчыне і адкуль яно сюды занесена; можа якраз плыцьцё крыжоў з Кіеву абазначае занясеньне з таго боку хрысьціянства ў Тураўшчыну, а пераняцьце крыжоў і кроў ад гэтага— што хрысьціянства распаўсюджвалася праз разбой і праліцьцё чалавечае крыві.

Апрача гэтага, у Тураве ёсьць яшчэ легендарная студня, выкапаныя нібыта князем Турам. Насельніцтва кажа, што ў студні—тры дны: залатое, срэбранае і медзяное. Калі прарвецца медзянае дно— вада затопіць Тураў, калі—срэбранае, то вада затопіць Тураўшчыну, а калі прарвецца залатое, дык вада затопіць усю зямлю. (Студня абазначана на пляне [·]).

Паўтары вярсты ад Турава ва ўсходнім кірунку ёсьць невялікія земляныя насыпы, якія маюць назву „дварэц“. Распаложаная тут вёска носіць тую-ж назву. Каля дарогі з Турава ў в. Дварэц месцамі захаваліся яшчэ рэшткі быўшага насыпу, злучаўшага „дварэц“ з Туравам. Магчыма, што гэта—колішняя дарога, магчыма таксама, што на месцы цяперашняе в. Дварэц жылі князі тураўскія па прыкладу полацкіх, жыўшых, як вядома, ня ў самым г. Полацку, а ў прыгарадзе Бельчыцах. Ва ўсякім разе, і месца, дзе цяпер в. Дварэц, калісьці было ўмацаваным, аб гэтым сьведчыць земляны насып і падыходы, якія захаваліся тут.

Апрача паказанага прадмесьця Турава—в. Дварца, на больш значнай адлегласьці ў паўднёва-ўсходнім і ўсходнім кірунку ёсьць яшчэ вёскі, быўшыя раней прадмесьцямі Турава, бо, як сказана было вышэй, м. Тураў знаходзілася ад крэпасьці-гарадзішча на значнай адлегласьці ў паўднёва-ўсходнім кірунку. [Частка мястэчка (гл. плян Турава), што ляжыць, прыблізна у паўночным кірунку ад умоўнае чарты, якая абазначана, збудавана была параўнаўча нядаўна, аб чым сьведчаць старажылы Турава].

У 6 кілём. ад Турава (глядзі карту)—в. Старажоўцы. Гэтая назва сьведчыць аб існаваньні тут калісьці вартаўнічага пункту на дарозе да Турава з паўднёва-ўсходняга боку.

У 8 кілёмэтрах ад Турава, ва ўсходнім кірунку (гл. карту) ёсьць в. Чэрнічы. Назву гэтую магчыма выводзіць ад слова „чэрнецы“. „Чэрнецамі“, вядома, зваліся даўней манахі, дык, такім чынам, на месцы цяперашняе в. Чэрнічы, быў калісь манастыр, у якім жылі „чэрнецы“, ад чаго і вёска атрымала сваю назву. І трэба адзначыць, што каля в. Чэрнічы ёсьць рэшткі старадаўнага жыльля, але невядома якога.

Блізка каля Чэрніч—в. Сьляпцы, па назьве якой трэба думаць, што тут было месца прытулку сьляпых, бо-ж вядома, што манастыры, якія займаліся эксплёатацыяй сялянства, выяўлялі „добрачыннасьць“ адносна тых, з якіх эксплёатацыяй выбілі духі, арганізуючы каля манастыроў прытулкі. Дык в. Сьляпцы, магчыма, і сьведчыць аб існаваньні пры колішнім манастыры прытулку для сьляпых.

На ўсход ад Чэрніч, на адлегласьці 2,5 кілёмэтраў, на беразе р. Прыпяці, ёсьць сяло Пагост. У старадаўнія часы пагостамі зваліся пункты, дзе адбываўся гандаль, куды зьбіраліся гандляры (госьці)

ня толькі з свайго краю, але й чужаземныя (гасьцінныя рады, гасьцінныя двары ў Маскве, Ленінградзе і інш. гарадох). Назва вёскі „Пагост“ як-бы сьведчыць, што гэта было месца даўнейшага гандлю. Цяпер у Пагосьце, на плошчы, прылягаючай да даўняе капліцы, у якой захоўваецца каменны крыж [1]) такое-ж формы і разьмераў, як і ў м. Тураве, штогодна адбываецца вялікі кірмаш. Ва ўсякім разе, на месцы цяперашняй в. Пагост людзі жылі вельмі здаўна, бо ў берагох ракі Прыпяці, пры размыве іх вадою, знаходзяць чарапкі даўнейшае глінянае пасуды.

На поўдзень ад Турава, у кілёмэтрах 7,—в. Рычоў. Гэтую назву можна выводзіць ад слова „рыкаць“, што дазваляе думаць аб прысутнасьці ў гэтай мясцовасьці нейкае рыкаючае жывёліны. Такою жывёлінаю, магчыма, зьяўляўся тур, тым больш што на раўніне, прылягаючай да в. Рычова, былі калісьці вялізныя лясы, пра якія вядома, што ў XVIII ст. яны былі ў концэсіі ангельскіх спэкулянтаў, вельмі зьнішчыўшых лясы.

Самай цікавай зьяўляецца назва вёскі „Толмачава“. Гэтая назва вельмі выразна кажа за сваё пахаджэньне ад слова „талмач“, а вядома, што талмачамі калісьці зваліся асобы, ведаўшыя чужаземныя мовы і служыўшыя пры князёх для перакладу лістоў, грамат, прамоў пасланцоў і князёў. В. Толмачава знаходзіцца ад Турава на адлегласьці 11 кілёмэтраў у паўднёва-заходнім кірунку (цяпер—у Заходняй Беларусі).

Пахаджэньне назвы „Толмачава“ кажа аб тым, што Тураў калісьці меў шырокія зносіны з чужаземцамі, бо ён знаходзіўся на пад‘езнай дарозе да вялікага воднага шляху „з варяг в греки“, ён ляжаў якраз на дарозе, якая зблізкала ўсходнія і паўднёвыя краіны з заходнімі і быў ключом на гэтай дарозе.

Яшчэ даволі цікавыя назвы вёсак—гэта Буразь у 3-х кілёмэтрах ад Турава і Семурадцы (магчыма, ад слова „рада“) у 7 кілёмэтрах ад Турава.

Сказанае аб прадмесьці Турава, якое часткае грунтуецца на паданьнях насельніцтва аб некаторых вёсках, больш—на асаблівасьцях назваў вёсак-прадмесьця, а таксама на тым, што даўняе м-ка Тураў займала іншае палажэньне, у значнай частцы можа быць толькі дапушчэньнем. Але трэба адзначыць, што на тэрыторыі Мазырскае акругі паказаныя вышэй назвы вёсак вызначаюцца ад іншых назваў вёсак сваёй блізкасьцю да некаторых гістарычных фактаў, зьвязаных з жыцьцём даўнейшага гораду. Гэта, папершае, а падругое, калі прыняць пад увагу, што Тураў калісьці шмат разоў нішчыўся, напрыклад, у 1157 г. вытрымаў 3-месячную асаду моцнага войска Ізяслава Давідавіча, у канцы XV і першае паловы XVI ст. татары зьнішчалі яго некалькі разоў, польскае панства разбурала Тураў за ўдзел яго ў казацкіх паўстаньнях [2]),—дык месца распалажэньня самага мястэчка Турава, трэба дапусьціць, мянялася, а ўсё гэта дае падставу лічыць дапушчэньні блізкімі да сапраўднасьці.

---

[1]) Каменныя крыжы, апрача Турава і Пагоста, ёсьць яшчэ ў в. Хлупіне, Перарове, Верасьніцы і Аздамічах (апошняя в., распаложаная на р. Суле, знаходзіцца ў Заходняй Беларусі).

[2]) Па матар‘ялах „Верхнего Поднепровья и Белоруссии, под редакцией В. П. Семенова, т. IX“.

Я. Сяргеенка.

# Гарадзішча пры паселішчы Бабынавічы.

*(Высачан. р., Віцебск. акр.).*

А. П. Сапуноў у сваёй працы „Западная Двина“ зазначае, што м-ка Бабынавічы*) ляжыць на старым волаку, які злучаў р.р. Заход. Дзьвіну і Дняпро праз р. Лучосу, Бабынавіцкае і Зеляноўскае азёры, р. Вярхіту, возера Арахі і р. Аршыцу. Гэты шлях часткай сухаземны, а больш водны, меў у даўжыню каля 35—40 вёрст. Як вядома, волакі былі густа заселены, аб чым сьведчаць частыя знаходкі каля іх старажытных рэчаў і гарадзішчаў.




*) Час. „Наш Край“ № 2-3 (5-6) 1926 г., стар. 56—„Бабынавічы“.

Маючы гэта на ўвазе, я зрабіў некалькі экскурсій на берагі р. Лучосы і Бабынавіцкага возера, дзе знайшоў каля 30 курганоў і некалькі месцаў, якія нагадваюць былое існаваньне на іх чалавека.

Асабліва цікавае тут месца пры вытоцы з возера р. Лучосы. На левым беразе ўздымаецца досыць высокі, каля дзесяці мэтраў увышкі, гарбыль (гл. плян на стар. 56 і малюнак на стар. 57) складзены з чыстага жоўтага сыпучага пяску, які адсюль ветрам пераносіцца далей



**Гарадзішча з усходняга боку**

на паўночны ўсход, засыпаючы на сваім шляху ўсё, што трапляецца. Так, год з дзесятак назад ён прымусіў аднаго селяніна перайсьці зусім з гэтага гарбыля, а хаты іншых жыхароў паступова і нясупынна засыпае.

Дзякуючы сваёй рухавасьці, пясок адкрывае на паўднёвым баку гарбыля старыя пласты, на якіх застаюцца больш важкія прадметы.

У час аднэй экскурсіі мне ўдалося напаткаць на паўднёвым баку гарбыля некалькі крамнёвых сколкаў, якія, на мой погляд, мелі на сабе сьляды апрацоўкі іх чалачекам. Пасьля старанных пераглядаў пяску мне пашанцавала знайсьці яшчэ некалькі сколкаў, якія вельмі падобны да наканечнікаў стрэл першабытнага чалавека.

Гэтыя сколкі пацьвердзілі мае думкі аб тым, што на гэтым месцы, не скажу жыў, а быў у старыя часы чалавек. Гэта падтрымоўваецца яшчэ і тым, што за гарбылём на ўсход знаходзіцца некалькі курганоў (валатовак). Апрача гэтага, на паўночна-ўсходнім баку знойдзены рэшткі валу: агульная даўжыня іх 145 м., вышыня з надворнага боку—1,5 м., унутраны бок зусім засыпаны пяском, выключаючы некаторыя месцы.

Дасьледаваньне гэтага месца абцяжарана тым, што ў часе імпэрыялістычнай вайны тут будавалі мост праз р. Лучосу пясок бралі з гэтага гарбыля і, такім чынам, частку яго зруйнавалі.

Ня толькі скалкі крэмню трапляюцца тут, ёсьць шмат таксама чарапкоў глінянага начыньня, гладкіх і з орнамэнтам, але сказаць, што яны старыя, трудна, бо тут-жа валяецца шмат чарапкоў, выкінутых ганчарамі, якія жывуць побач з гарбылём. Толькі рэдкія адзінкі маюць адзнакі даўняга пахаджэньня.

На самым версе гарбыля пад пластом глебы таўшчынёю ў 20 см. знаходзяцца: цэгла, кахлі без палівы з малюнкамі, жужла і кавалкі жалеза.

Магчыма, што тут была прыстань, на якой адпачывалі людзі, перайшоўшыя волак, перад тым, як пусьціцца па р. Лучосе. Крамень, які пападаецца ў сколках, як відаць, прывозілі сюды, бо навокала няма і простых буйных каменьняў. Мясцовыя старыя людзі пра гэтае месца нічога ня ведаюць і нават пра будынкі, якія напэўна былі тут, ніякіх вестак няма, апрача глухіх і нявыразных успамінаў пра млын, які нібыта тут стаяў. Аб гэтым млыне сьведчаць, паводле слоў мясцовых людзей, палі ці шваі, якія захаваліся ў вытоцы Лучосы.

Краязнаўчы гурток ставіць сваёй першай задачай дасьледаваць гэтае месца, пакольні гэта ў яго сілах.



Г. Л. Вінаградаў.

# Сівыя сьведкі мінулага Чэрвеншчыны.

Будучы ў вёсцы Іванічах і маючы вольных гадзіны са дзьве, я накіраваўся на левы бераг р. Волмы, у лес, які цягнецца да самага Чэрвеню. Мінуўшы мост і прайшоўшы з $^{1}/_{2}$ вярсты ўверх паўз бераг, я натрапіў на былую крэпасьць нашых далёкіх прашчураў—гарадзішча. Пазнаёміўшыся з месцам і дагаварыўшыся з бюро краязнаўства раёну, мы накіраваліся туды, каб больш стала азнаёміцца з гэтым помнікам.

Гарадок, як яго называюць у в. Іванічы, належыць да глыбокай старасьветчыны і да апошняга часу надта добра захаваўся. Мае форму амаль правільнага авалу, ляжыць на стромкім беразе р. Волмы, дзе яна толькі ў адным гэтым месцы блізка падступае к берагу. Вакол шуміць бор. Тут-жа поплеч знаходзіцца рум, дзе ляжаць кучы бярвеньня, якое тут-жа скідаецца ў раку і зьвязваецца ў лавы. Унізе чуцьчуць шавеліцца санлівая рака Волма, дробныя хвалі якой, як-бы суздром, пазбавіўшыся ўвесь час гнілых вязкіх берагоў, з гонарам б'юць і падмываюць высокі бераг.

Правы бераг—вялікі топкі лог у гэтым месцы ў $^{1}/_{2}$ вярсты ўшыркі, увесь парос высачэзнай асакой. Поўвярстовае лагво ракі гаворыць аб былым веліччы Волмы. А далей сінее ліставы лес.

Гарадзішча ўяўляе сабою гладкую пляцоўку, з трох бакоў абведзенаю валам і двума глыбокімі равамі, адным прадоўжным бокам яно прыціскаецца да рэчкі. Пляцоўка мае ўдоўжкі болей 60 мэтраў, ушыркі—каля 35 мэтраў, роўная, як стол, з невялікім узвышшам удоўж равоў. У прадоўжным кірунку чуць прыкметны як-бы тры загоны, але вялізарнейшыя хваёвыя пні, якіх тут раскідана болей 30 штук, і некалькі таўшчэзных хвой гавораць за другое. Калі-ж гэта і загоны, то надта даўныя.

Акаляючыя равы глыбінёю да $2^{1}/_{2}$ мэтраў (старыя кажуць, што яшчэ за іх памяцьцю яны былі значна глыбей), шырынёю на самым дне больш $1^{1}/_{2}$ мэтра. З паўночнага боку, як равы, так і вал, упіраюцца ў рэчку, робячы просты кут, у процілеглым-жа канцы, загінаючыся, робяць тупы кут, прычым першы роў каля самай рэчкі нішчыцца.

На паўночным баку ў 10 мэтрах ад берагу ракі ёсьць як-бы вароты ў гарадок. Прызначэньне іх цяжка вытлумачыць, ці гэта былі сапраўдныя дзьверы, уваход у крэпасьць, а мо' й проста засыпаны равы для вывазкі бярвеньня, пні ад якога засталіся на пляцоўцы. З абодвух бакоў гэтага ўваходу ёсьць і ямы, але пазнаць, калі

яны зроблены, немагчыма. Больш падыходзіць думка першая, бо бярвеньні можна было проста сьпіхаць у раку або, налажыўшы дрэвы, перакачваць праз равы.

Апроч хвой, на гарадзішчы, асабліва на самым спуску да ракі, растуць арэшнік, вольха, бяроза і дзе-ні-дзе дубы. Некаторыя з іх падмываюцца вадой і спаўзаюць у рэчку. Вышыня самога гарадка над вадзяным узроўнем больш 5 мэтраў. Самая рака мае ўшыркі каля 20 мэтраў, глыбіня ня вымерана, але работнікі на руме казалі, што ў гэтым месцы дастаць дно шостам, які ўжываецца пры сплаве лесу, цяжка.

Цікава адзначыць, што насельніцтва як в. Іваніч, так і іншых, ня ведае ніякіх ні паданьняў ні легенд аб гарадзішчы. Некаторыя




пробуюць тлумачыць, што гэта—старасьвецкія акопы, а якія і калі пакопаны—ніхто ня ведае й ня чуў. На экскурсіі чэрвенскіх піонэраў і комсамольцаў сяляне вёскі Іваніч зазначылі, што нібы гадоў 5—7 назад пастухі знайшлі ў гэтым месцы дзьве мэталёвыя монэты і мэталёвую лыжку з орнамэнтамі конікаў і птушак. Больш ніхто ніколі не знаходзіў нічога. Дзе-ж падзелася знойдзенае—невядома. Але адносна лыжкі можна сказаць, што гэта магла быць салдацкая лыжка з часоў імпэрыялістычнае вайны, якіх шмат папрынесена з Аўстрыі і паробена нашымі салдатамі. У вабрыве, які знаходзіцца з паўночна-ўсходняга боку гарадзішча, па пластаваньні нічога разабраць няможна.

Паводле ўсіх адзнак можна дапусьціць, што гарадзішча служыла месцам абароны, куды невялікі род з усёй сваёй сям'ёю і маемасьцю хаваўся ў той час, калі на яго нападаў другі мацнейшы род. Трэба дапусьціць, што тут-жа будаваліся й зямлянкі як для жанчын, дзяцей, так і для жывёлы. Вадою-ж карысталіся, мабыць, з рэчкі, для чаго былі патаемныя, захованыя ад ворага, спускі, хаця ў даным гарадзішчы гэтых спускаў няпрыкметна. Напад працягваўся ня больш 2-3 дзён, бо экономічны бок прымушаў ворага кідаць сваю ахвяру. Самы разьмер гарадзішча кажа аб тым, што гэты гарадок пабудованы яшчэ ў каменны век.



Я. Зянюк.

# З кіем па раёну.

*(Грозава, Слуцкай акругі).*

Шмат размоў выклікае паміж сяброў Грозаўскага Краязнаўчага Т-ва экскурсія па раёну, вызначаная плянам управы на ліпень месяц.

Група настаўнікаў у 5 чалавек 22 ліпня з кіямі ў руках, з торбамі за плячыма, хто босы, хто ў сандалях, рушылі з Грозава. Праз $2^1/_2$ клм. ад мястэчка глыбокі, пракопаны паводкамі ды навальніцамі яр—об'ект нагляданьня. Напластаваньне грунтовых парод, дзеяньне вады і паветра, працэсы ўтварэньня вапнякоў з нібыножак і выветрываньня—вывучай, калі ласка, на месцы.

— Абавязкова сюды прыду з вучнямі, як толькі зьбяруцца,—заяўляе тав. Гарбок, дзівуючыся і разглядаючы „экспонаты“, закручвае іх у паперу і запіхае ў торбу.

Наперадзе балота. Усе разуліся, падкасаліся і выцягнуліся ланцугом па сьцежачцы. А вось знайшлі „вашывую траву“, ад якое карову пушыць, і ўсе разглядаюць уважліва. Шукаюць яшчэ. Усякі сам хоча знайсьці, але яе ня так багата ёсьць.

Сьпяшаемся ў Грэзак. Тут старавечнае замчышча на высокай высьпе паміж раўчука й лагоў, што засталіся на месцы даўнейшага возера, прыцягвае нашу ўвагу. Цяпер вапнякі капаць грашчанам (жых. м. Грэску) забаранілі на „Замку“, а раней капалі і выкопвалі з пяску косьці чалавечыя, шаблі, шпоры ды іншыя рэчы, захаваныя тут ад мінулых часоў. Дакопваліся да нейкіх лёхаў, што ідуць у глыбіню. „Падземныя ходы“, кажуць аб іх сяляне. Мясцовыя таварышы падносяць нам два чарапы чалавечых галоў, якія вельмі добра захаваліся ў пяску, нават з поўным лікам зубоў. Выгляд высьпы псуюць крыху акопы часоў імпэрыялістычнае вайны, схованыя паміж высокіх векавых вязаў. Аглядаем сьляды былых сьцен (там цэглу раней даставалі грашчане), месца былое грэблі й мосту, што быў над ровам для злучэньня з мястэчкам. Наш „вучоны сакратар“ штось крамзоліць на паперы ды нешта мармоча сабе пад нос.

Але раптам насунуўся вечар. Заклапаціўся наш „заўхоз“, шукаючы харчоў. Выспаліся ў гумне аднаго з тамтэйшых сяброў краязнаўства, што пацягнуўся разам з намі назаўтра ў вандроўку.

Раніцаю бадзёра сьцігаем далей. Аблічылі, аглядзелі, а наш саматкны мастак і замаляваў курганы ў полі паміж вёскамі—Марозы і Забелы. Іх усяго 35, відаць, вайсковага пахаджэньня, завуць іх „Магілкі“.

У вёс. Шышчыцах, перш, чым дайсьці да школы, дзе сьнедаць думалі, забрылі ў капліцу, што стаіць пры вёсцы. На сьцяне прыго-

жага пісьма вобраз „божай маці“. Тут-жа запыленая „канпаня“*) ў куточку. З аднаго боку на ёй вобраз хрыста, на ім надпіс славянскімі літарамі: „року 1791 сеи образъ брацкі до цекви насвшеі панны маріи забелскоі в память вѣчную“, а на другім баку—„пакланеньне валхвоў“ з надпісам „Epipnania Domini“. Член сельскага савету зайшоў і, як відаць, зьдзівіўся, убачыўшы, што адзін сядзіць на кокішках і штось малюе, іншыя шворацць па капліцы. А „мастак“, намаляваўшы нешта, ужо ўважліва ўглядаецца ў нейкія дзьве анучы, што запыленыя ў кутку на падлозе валяюцца, і старанна даводзіць члену сельсавету аб непатрэбе іх у капліцы (значыць, аддай нам). Разглядзеўшы паперу ад РВК з просьбаю культурнай дапамогі экскурсантам, неахвотна згаджаецца, хоць і добра бачыць, што гэта старыя абразы на палатне.

З в. Шышчыц да Вераб'ёва на лясной дарозе матылёў прыгожых шмат. Іх першы асочыць Зянюк, а ловіць шапкаю Цубровіч, ды лепш, як сачком,—браку ня больш 25 проц. Гарбок увесь час бядуе, што яго этэр уцякае з пляшачкі і да канца ня хопіць, затым вельмі ашчэдна траціць і некалькі матылёў з іголкамі ў сьпіне ўцякло на волю.

Ад лясное сядзібы Вераб'ёва, дзе зацікавіла нас толькі адна сушылка для шышак, лясьнік паказвае нам дарогу на хутар Шклярэўскага, аб якім ходзяць самыя фантастычныя апавяданьні, як аб першабытным, дзікім чалавеку.

Па „лініі“, што даўней служыла мяжою паміж лясьнымі абшарамі князя Радзівіла ды графа Вітгенштэйна, зрабіўшы 3 вярсты з нямінучым у лясох дадаткам—„гакам“, або „валовым рыкам“, прытаіўшы дух, падыходзім да хутара. „Дзіка“ няма дома, і гэта дае магчымасьць добра аглядзець знадворны выгляд будовы і рэчы, бедны запас якіх багата раскіданы пад сьцяною „хаты“, уткнуты ў сьцяну, заткнуты пад стрэху і г. д. Будова—зусім нязвычайная. Наводаль стаіць мізэрнае гуменца, а тут, пад шырока раскарачанаю над кволымі сьценамі страхою, зьмяшчаецца і хатка ў асобным зрубе, закутку, і хлеў—ня хлеў для чатырох кароў і двух быкоў (коняй Шклярэўскі ня трымае); ня хлеў, а хутчэй загон пад шофаю, з якога гаспадар жывёлу на дзень і ўзімку выганяе на балота на пашу або да стогу. Хатку літаральна „верацяном растрэсьці можна“. Запускаем вока праз дзьверы ў хату (бо дзьверы—недапасовная дошка): печ ёсьць у хаце, але коміна над стольлю няма. Наддзіркаю ў столі нахілена кароткая дрыўляная плашка, яна павінна не дапушчаць іскар да страхі.—„Раз ужо згарэлі, дык пасьля таго палім у печы асьцярожна“, гэтак казаў потым гаспадар. На панадворку—кіі, жэрдкі, бярвеньні. Усё параскідана ў непарадку, як пасьля пагрому. Пад страхою новы кованы воз —гэта на зьмену саням, на якіх дагэтуль цэлы год арудаваў, улетку снапы вазіў і г. д.

А вось з кустоў каля гумна сам гаспадар з касою. Ён здаровы з твару, у тоўстым зрэб'і і ў шапцы з зрэб'я, пашытай няўмелаю рукою (мусіць, сам). Мы тлумачым гаспадару, што ідзем з Захацінава на паляваньне за Шантароўшчыну, ды з тропу зьбіліся—просім паказаць дарогу (бо не паважае ён аглядальнікаў). Здалёку заводзім гутарку з гаспадаром. Ён адказвае ахвотна (не раве, як уяўлялі раней), але відаць не дасказвае ўсяго. Ён родам з Варкавіч (3 клм. ад Слуцку), меў $^1/_6$ надзелу, купіў за 2 тысячы тут 17 дзесяцін пяску ды лесу, 7 сот доўгу меў. Жонка з дзяўчынкаю кінула яго дзесяць год

*) Пераносны вобраз на насілках.

таму назад, пайшла жыць у Варкавічы, пакінуўшы яму малую дзяўчынку ды хлопчыка $1^1/_2$ год. Сам гадаваў,—цяпер хлопчык у лесе з жывёлаю, дзяўчынка жне жыта (а жыта не ўрадзіла—не сабраць насеньня). Ахвотна прынёс нам з студні-ямы вады напіцца.

Ці ёсьць падлога ў хаце?—гэта, каб зайсьці ў хату. Цяжка ў кароткіх словах даць малюнак хаты. Гэта цэлы музэй, гэта законсэрваваная назад шмат сотак год хата нашага продка-лесавіка. З хаты другі выхад у хлеў, заміж дзьвярэй—з нячэсаных дошчак варотцы, авечка навылёт пралезьці можа. У хаце—нічога чэсанага сякераю ці габлёванага. У кутку старасьвецкія жаронцы. Гарбок няпрыкметна ўшчыкнуў хлеба ды саўгануў мне ў руку—на хлеб непадобны ні з колеру, ні з складу.

Вачыма шворым па куткох ды хутка стуль на панадворак. Разьвіталіся.

Прыціснутае пачуцьцё... Гэта ня „дзікун"—гэта на ўзьдзіў трывалы гарапашнік, а па поглядах на жыцьцё—стары Анісім з сваім кажухом з Коласавага апавяданьня. Ён ня дурны, мазгі на месцы, але думка сьвідруе іх замала, няма імкненьняў да новага жыцьця.

Усё іншае пасьля здавалася мала цікавым. Вогнішча, начлег паміж лясоў у Неспадзянцы, хараство летняе ночы, упрыгожанае выцьцём ваўкоў,—усё гэта штось звычайнае. Праходзілі праз сав. гасп. Покрашаў, і высокі пазелянелы слуп з абваленым тынкам быў сьведкаю жыцьця многіх Міхасёў Шклярэўскіх навакол—нам так здавалася.

Вандроўка была карысная, здаровая ды багатая хараством і ўражаньнямі. Здабытае нясьлі з сабою, рэшту па дарозе ў школах пакінулі—для тэрміновай дастаўкі. З пройдзенаю мясцовасьцю азнаёміліся, стала магчымым яе апісаньне. Паўторную экскурсію ладзілі ў жніўні.

Ці ўсе Таварыствы ладзілі ўлетку экскурсіі па раёну?



# ХРОНІКА.

## Пашыраны Пленум Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

*(3 і 4 верасьня 1926 г.).*

Прэзыдыум ЦБК склікаў на 3 і 4 верасьня г.г. пашыраны Пленум дзеля абгаварэньня, перад пачаткам вучэбнага году, розных пытаньняў па краязнаўству. На Пленум былі скліканы па аднаму прадстаўніку з кожнага акруговага краязнаўчага т-ва, па 1 прадстаўніку з сэкцыі і камісій ЦБК і інш. навуковых культасьветных установ у Менску.

Парадак дня быў наступны:

1. Справаздача Прэзыдыуму ЦБК і плян далейшай працы—т. Казак.
2. Справаздачы двох акруговых т-ваў краязнаўства—Барысаўскага і Мазырскага.
3. Краязнаўства і школа—даклад т. Аляксандрава.
4. Усесаюзны перапіс і краязнаўчыя організацыі—даклад т. Шастакова.
5. Пробнае апісаньне тыповага раёну БССР—даклад т. Казака і садаклад т. Немцава аб стане працы.
6. Аб контрольных лічбах СССР і БССР—даклад Пятровіча.
7. Бягучыя справы.

Пленум адчыніў старшыня Цэнтр. Бюро Краязнаўства т. Бялуга, які ў уступнай прамове падкрэсьліў дасягненьні і недахваты краязнаўства на Беларусі да гэтага часу.

### Справаздача Прэзыдыуму ЦБК і плян далейшай працы.

*(Даклад т. Казака).*

За пэрыод з 1 сакавіка да 1 верасьня 1926 г. ЦБК кіравалася пастановамі Першага краязнаўчага зьезду, у якіх намечаны шляхі краязнаўчае справы як па організацыйных, так і па практычных пытаньнях. Пастановы зьезду будуць грунтам працы ЦБК і ў далейшым. Ажыцьцяўленьню пастаноў зьезду ў працягу першых двох месяцаў перашкаджала неўкомплектаванасьць складу Прэзыдыуму ЦБК, і ў гэты час кіраваньне краязнаўчай працай не магло быць плянавым. Пачынаючы-ж з красавіка, пасьля аканчальнага ўкомплектаваньня ЦБК, праца набыла плянавы характар. З 28 красавіка пасяджэньні Прэзыдыуму адбываліся рэгулярна, а протоколы сваячасна накіроўваліся акруговым т-вам краязнаўства. 12 мая быў зацьверджаны Прэзыдыумам плян працы на весну і лета. У плян працы ўвайшлі пытаньні аб падліку стану краязнаўчых організацый, па выкананьні сэзонныхназіраньняў і запаўненьні анкет і па абсьледваньні аднаго тыповага раёну. Для ажыцьцяўленьня гэтага пляну ён быў безадкладна разасланы на месцы. Галоўнымі пытаньнямі, унесенымі ў плян, Прэзыдыум ЦБК лічыў вывучэньне стану краязнаўчай справы і спробнае абсьледваньне тыповага раёну. Па першым пытаньні была складзена невялічкая анкета і разаслана па краязнаўчых організацыях з мэтай запаўненьня на 1-га ліпня. Ня гледзячы на важнасьць анкеты, дагэтуль большасьць акруговых таварыстваў яе не запоўнілі. Па другім пытаньні была праароблена такая праца: а) складзен плян абсьледваньня, б) вызначан раён, в) абгаворана пытаньне на спэцыяльнай нарадзе ў Прэзыдыуме ЦБК з мэтай прыцягнуць увагу навуковых працаўнікоў. 28 і 29 мая прадстаўнікі ЦБК выяжджалі на месца ў Асіпавічы на настаўніцкую кон-

фэрэнцыю, інформавалі аб мэтах і заданьнях абсьледваньня, прыцягнулі да справы ўвагу ўсіх працаўнікоў раёну і распачалі працу. Абсьледваньне праводзіцца членамі Раённага Т-ва Краязнаўства пад кіраўніцтвам яго старшыні, тав. *Немцава*, а апрацоўка матар'ялаў будзе рабіцца ў адпаведных сэкцыях і камісіях Інбелкульту. З мэтай інструктаваньня мясцовых працаўнікоў і абсьледваньня некаторых спэцыяльных пытаньняў вырашана накіраваць у Асіпавіцкі раён 6 экспэдыцый. Лічачы абсьледваньне раёнаў па ўсіх галінах краязнаўства вельмі важнай справай, Прэзыдыум ЦБК прапанаваў усім акруговым таварыствам краязнаўства ўнесьці ў плян працы таксама абсьледваньне хаця-б аднаго раёну, на якім згуртаваць усю ўвагу акругі. Апрача гэтага, Прэзыдыум ЦБК распрацаваў орыентацыйны плян працы на 1926-27 і 1927-28 г. г., дзе намеціў галоўныя шляхі разьвіцьця краязнаўчай справы на Беларусі на працягу бліжэйшых 2-х год. Адначасна складзены орыентацыйны каштарыс на 1926-27 год, у якім прадугледжана пашыранасьць працы. Так, з новага бюджэтнага году штат інструктароў ЦБК будзе павялічаны да 2-х, што дасьць магчымасьць наладзіць жывую сувязь з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі. Маючы на ўвазе дрэннае матар'яльнае становішча акруговых таварыстваў, ЦБК зьвярнулася ў Прэзыдыум Інбелкульту, а апошні ў Саўнарком з просьбай прыняць утрыманьне акруговых таварыстваў на мясцовы бюджэт. Па гэтым пытаньні таксама быў складзены орыентацыйны каштарыс і дакладная запіска. У многіх акругах утрыманьне акруговых таварыстваў ужо ўзята на мясцовы бюджэт. Каб дапамагчы пашырэньню і ўзмацненьню краязнаўчай справы ў адсталых акругах, Прэзыдыум ЦБК зьвярнуўся ў Наркамасьветы з просьбай накіраваць у гэтыя акругі, пры разьмеркаваньні скончыўшых пэдустановы, тых асоб, якія выявілі сябе больш здольнымі да краязнаўчай працы, а таксама зьвярнуўся ў акрвыканкомы Слуцкі, Барысаўскі і Мазырскі аб адводзе памяшканьняў пад краязнаўчыя музэі. Прымаліся меры да популярызацыі краязнаўчай справы шляхам пастаноўкі шэрагу лекцый на настаўніцкіх курсах і праз мясцовы друк. У жніўні праведзена вялікая організацыйная праца па ажыўленьні краязнаўчай справы перад пачаткам вучэбнага году. У гэтым кірунку зроблена наступнае: разасланы ліст да ўсіх краязнаўчых організацый з адзначэньнем тых мерапрыемстваў, якія трэба прарабіць перад пачаткам вучэбнага году для ўзмацненьня працы і пераводу яе на плянавы кірунак. Таксама зроблены захады перад партыйнымі, савецкімі, профсаюзнымі і комсамольскімі організацыямі аб прыцягненьні да гэтай справы ўвагі адпаведных мясцовых устаноў і організацый. З мэтай дапамогі мясцовым краязнаўчым організацыям у сэнсе вывучэньня сучасных поглядаў на краязнаўства, выпісан для кожнага раённага т-ва комплект літаратуры популярна-краязнаўчага зьместу на суму каля 10 рублёў на раён. Прымаліся належныя меры да выкананьня пастаноў зьезду адносна наладжаньня справы рэгулярнага выданьня часопісу „Наш Край". Зьвернена ўвага на зьмест часопісу, прыняты меры, каб друкавалася больш матар'ялу з месц. Прымаюцца меры да пераводу часопісу на самааплату. Як і раней, праз часопіс падтрымлівалася сталая сувязь з краязнаўчымі організацыямі СССР і некаторымі організацыямі Заходняй Эўропы. Апрача гэтага, прымаліся меры да выкананьня і іншых пастаноў краязнаўчага зьезду: заказаны і надрукованы членскія білеты для членаў краязнаўчых організацый у ліку 12.000 экз., здадзены ў друк матар'ялы Першага Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду. З мэтай цэнтралізаваць краязнаўчую справу, новым корэспондэнтам ЦБК на запытаньні, як працаваць, Прэзыдыум ЦБК радзіў увайсьці ў мясцо-

выя краязнаўчыя організацыі, ад якіх і атрымаць належныя ўказаньні ў працы. Вось галоўныя мерапрыемствы, якія ЦБК прарабіла за справаздачны пэрыод. Цікава ведаць, як яны адбіліся на ўзмацненьні і палепшаньні краязнаўчае справы на БССР. Пакуль што, як сьведчаць матар'ялы, атрыманыя з месц, гэтыя мерапрыемствы не зрабілі значных зьмен у краязнаўчай справе на мясцох. Так, прапанаваны мясцовым організацыям плян працы ў жыцьцё, за рэдкімі выключэньнямі, не праведзены; анкеты аб стане справы ад большасьці акруг не атрыманы, матар'ялы па выкананьні ўказаных у пляне пытаньняў не паступалі; да вывучэньня і дасьледваньня раёнаў акруговыя таварыствы не прыступалі. Стан краязнаўчых організацый, паводле сабраных ЦБК даных, можа быць выяўлены з такой таблічкі:

**Склад краязнаўчых організацый БССР на 1/IX—26 г.**

| НАЗВА АКРУГІ | Лік т-ваў на 1/IX. | Лік гурт. | Лік член. | | % парт. | | Профэсія. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1/II | 1/IX | КПБ, | КСМБ | Наст. | інш. |
| Аршанская | 11 | 2 | 873 | 847 | 10 | | | |
| „ па 4 раёнах | | | | 250 | 7,6 | 3,2 | 87 | 13 |
| Барысаўская | 8 | 8 | 321 | 676 | 4,5 | | 95 | 5 |
| „ па 4 раёнах | | | | 220 | 7 | 5 | 85 | 15 |
| Бабруйская | 11 | 3 | 430 | 741 | 20 | | 80 | 20 |
| „ па 8 раёнах | | | | 298 | 11 | 5 | 85 | 15 |
| Віцебская | 12 | 7 | 465 | 983 | | | | |
| „ па 4 раёнах | | | | 191 | 7 | 4 | 94 | 6 |
| Калінінская | 10 | 3 | 457 | 642 | 15 | | 75 | 25 |
| „ па 4 раёнах | | — | | 220 | 8 | 4,5 | 93 | 7 |
| Магілеўская | 10 | 4 | 399 | 954 | 10 | | 77 | 23 |
| Мазырская | 6 | 4 | 128 | 222 | | | | |
| „ па 1 раёну | | | | 37 | 8 | 1,6 | 87 | 13 |
| Менская | 8 | 4 | 410 | 598 | | | | |
| „ па 3 раёнах | | | | 99 | 3 | 3 | 92 | 8 |
| Полацкая | 9 | 3 | 339 | 713 | | | | |
| „ па 2 раёнах | | | | 104 | 7 | 5 | 94 | 6 |
| Слуцкая | 5 | 3 | 107 | 295 | 10 | | 90 | 10 |
| „ па 3 раёнах | | | | 68 | 16 | 3 | 93 | 7 |
| РАЗАМ | 90 | 41 | 3.738 | 6.830 | 12 | | | |

Аб працы, праведзенай па акругах, можна разважаць паводле матар'ялаў, прысланых ЦБК:

*Аршанская* акруга прыслала 144 словы, 372 экз. фолькл. матар'ялу, 1 фэнолёгічнае мат., 2 артыкулы для „Н. Краю" на 7 арк., 7 паведамленьняў аб ахове помнікаў старасьветчыны.

*Бабруйская* акруга прыслала 2.948 слоў, 312 фольк. запісаў, 2 фэнолёг. назіраньняў, 3 мэтэоролёг. назіраньняў, 1 колекцыю шасьціножак, 1 паведамленьне аб помніках старасьветчыны, 1 запоўненую анкету проф. Скандракова і 5 экспонатаў археол.

*Барысаўская* акруга — 605 слоў, 253 фольк. запісаў, 20 фэнол. назіраньняў, 14 мэтэоролёг. назір., 5 артык., паведамленьне аб помніках і сьпіс помнікаў.

*Віцебская*—1.489 слоў, 2.990 фольк. запісаў, 47 фэнол. назір., 15 мэтэор. назір., 9 артыкулаў, 1 паведамленьне аб помніках старасьветчыны і некалькі археол. экспон.

*Калінінская*—2.000 слоў і 1 паведамленьне аб курганох.

*Магілеўская*—5.568 слоў, 178 фольк. запісаў, 15 фэн. назіраньняў, 11 мэтэор. назіраньняў, 3 паведамленьні аб помніках, некалькі археолёгічных экспонатаў.

*Менская*—2.106 слоў, 732 фольк. запіс., 24 фэн. назір., 10 мэтэор. назір.

*Мазырская* — 16 фольк. запісаў, 10 фэн. назір., 18 мэт. назіраньняў, 1 колекц. шасьціножак, 2 артыкулы і 1 паведамленьне аб помніках.

*Полацкая*—540 слоў, 40 фольк. запісаў, 3 фэн. назір., 2 мэт. назіраньні.

*Слуцкая*—1.333 словы, 84 фольк. запіс., 3 фэн. назір., 2 мэтэор. назір., 2 паведамл. аб помніках і 1 колекц. шасьціножак.

Усяго ад часу Зьезду да 1-га верасьня атрымана 16.763 словы, 5.007 фольк. запісаў, 129 фэн. назір., 71 мэт. назір., 3 колекцыі шасьціножак.

З гэтых даных можна зрабіць наступныя вывады:

а) весткі дасылаюцца выпадкова;

б) найчасьцей прысылаюцца матар'ялы з Бабруйшчыны, Мазыршчыны і Віцебшчыны;

в) шмат матар'ялаў прысылаюць карэспондэнты-сяляне, але гэтыя матар'ялы ня маюць вялікай каштоўнасьці;

г) амаль што ніякіх матар'ялаў не дасылае Калінінская акруга.

Магчыма, што частка якіх-небудзь матар'ялаў, мінуючы ЦБК, трапіла беспасрэдна ў тую ці іншую камісію ІБК, але агульнага малюнку гэта не мяняе.

**Справаздача аб працы Барысаўскага Акруговага Таварыства за люты—жнівень 1926 г.**

*(Даклад т. Самцэвіча).*

Бабруйскае Акруговае Т-ва Краязнаўства ў сучасны момант складаецца з гарадзкой організацыі, 9-ці раённых таварystваў і 16 гурткоў, з якіх 12 школьных і 4 сельсавецкіх. Лік членаў т-ва—340, ня лічачы 350 супрацоўнікаў з вучнёўскай моладзі. 85 проц. складаюць настаўнікі, потым ідуць агрономы, партыйныя і савецкія працаўнікі; партыйцаў лічыцца 5 проц. Пасьля 1-га Усебеларускага Краязнаўчага Зьезду ўтвораны 2 раённыя т-вы і 2 школьныя гурткі.

На 2-ой акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі 25 і 26 сьнежня 1925 г. было абрана ўправа ў складзе 7 асоб: *В. А. Самцэвіча* (старшыня), *І. І. Сманцэра* (сакратар), *С. Рычкова*, *С. П. Нікіфаровіча*, *Ю. А. Мазінга*, *І. М. Корзуна*, *Плячкова* і двох кандыдатаў—*Сікорскага* і *Сабалеўскага*. У складзе ўправы—2 партыйцы. Пасяджэньні ўправы адбываюцца 2 разы ў месяц. Усяго за справаздачны час адбылося 8 пасяджэньняў, на якіх разгледжаны 30 пытаньняў; копіі ўсіх протоколаў пасылаюцца ў ЦБК і ў раённыя таварыствы.

Сродкі Акр. т-ва складаліся з членскіх складак гарадзкой організацыі (39 р. 50 кап.) і з субсыдый ЦБК (у суме 150 руб.).

Сродкі выдаткаваліся на аплату тэхнічных працаўнікоў, на выпіску пэрыодычнай літаратуры і на правядзеньне экскурсій. Адсутнасьць матар'яльнай базы дрэнна адбіваецца на працы: нельга наладзіць жывой сувязі з раённымі організацыямі, няма як распачынаць выдавецкую справу і г. д. Сёлета складзены каштарыс на 1926-27 бюдж. год на суму 3.250 р. (прынята акруговай бюджэтнай камісіяй).

Праца гарадзкой організацыі (60 чалавек) праводзіцца ў сэкцыях: школьна-краязнаўчай, культурна-гістарычнай, прыродазнаўчай, этнографічнай і соцыяльна-экономічнай. У маі ўтварылася яўрэйская сэкцыя, якая яшчэ і да гэтага часу знаходзіцца ў стадыі організацыі і працы не распачала.

Школьна-краязнаўчая сэкцыя ўтварылася толькі ўвесну г. г. Сэкцыя ставіць сваёй мэтай вывучэньне програмна-мэтодычных пытаньняў і набыцьцё тэхнічных звычак у правядзеньні краязнаўчай працы (організацыя экскурсій, досьледаў). На настаўніцкіх сходах, на зьезьдзе загадчыкаў сямігодак і летніх настаўніцкіх курсах сэкцыяй былі пастаўлены даклады: „Задачы і мэтоды школьна-краязнаўчай працы", „Школа і краязнаўства", „Організацыя і правядзеньне экскурсій у прыродзе". Увесну сэкцыя разглядала пляны экскурсій гарадзкіх школ на фабрыкі і прымала ўдзел у апрацоўцы анкет для абсьледваньня прамысловых прадпрыемстваў. Сэкцыя апрацавала програмуанкету для летніх настаўніцкіх курсаў па абсьледваньні дрэваапрацоўчай прамысловасьці ў Барысаве.

Культурна-гістарычная сэкцыя (5 ч.) праводзіла падлік помнікаў старасьветчыны, некаторыя з якіх абвешчаны дзяржаўнай маемасьцю (пастанова СНКБ ад 5-VII-1926 г.). Двума членамі сэкцыі былі абсьледваны помнікі кампаніі 1812 г., праведзена было вывучэньне гісторыі г. Барысава і яго помнікаў. Сэкцыя заслухала даклады: „Беларускі рух на Барысаўшчыне ў XIX ст." *(т. Аляхновіч)*; „Гісторыя г. Барысава і яго помнікі". Сэкцыя праз усю вясну і лета клапацілася аб ахове т. зв. батарэй у Барысаве.

Прыродазнаўчая сэкцыя заслухала даклад: „Пералётныя і зімуючыя ў нас птушкі" *(С. Нікіфоровіч)*. У канцы чэрвеня і пачатку ліпня праведзена 10-дзённая экскурсія на возера Пялік. Матар'ялы і экспонаты гэтай экскурсіі зараз апрацоўваюцца.

Этнографічная сэкцыя сабрала шмат матар'ялу ад раённых організацый і школьных гурткоў; частка гэтых матар'ялаў пераслана ў ЦБК, частка знаходзіцца ў сэкцыі. Улетку сэкцыя не працавала зусім, бо яе члены ўсе знаходзіліся ў водпуску.

Соцыяльна-экономічная сэкцыя працу сваю толькі распачала, заслухаўшы 1 даклад і апрацаваўшы часткаю матар'ялы абсьледваньня дрэваапрацоўчай прамысловасьці ў Барысаве.

Наогул, трэба адзначыць, што ў сэкцыях працуе толькі частка членаў, актыў гарадзкой організацыі, большая-ж частка актыўнага ўдзелу ў працы ня прымае. У жніўні 1924 г. быў заложаны Краязнаўчы Музэй, які да апошняга часу зьмяшчаўся ў будынку пэдтэхнікуму. Музэй пачаў ужо больш-менш нормальную працу і сабраў шмат экспонатаў мясцовай природы і быту. Зімой мінулага году музэй мусіў зачыніцца, бо яго пакоі былі заняты для працы тэхнікуму. Зараз усе экспонаты згорнуты ў кучу. Перад акрвыканкомам пастаўлена пытаньне аб перадачы для музэю будынку.

Далей т. *Самцэвіч* разглядае працу кожнай краязнаўчай организацыі Барысаўскай акругі паасобку, адзначаючы, што за апошні час ва ўсіх раёнах краязнаўчыя організацыі ўжо ўтвораны, досыць добра азнаёміліся з мэтамі і заданьнямі краязнаўства, але пакуль што праца зьяўляецца новай для масавага працаўніка, і адчуваецца патрэба жывой сувязі з цэн-

трам у кіраўніцтве і інструктаваньні. Адсутнасьць сродкаў перашкаджае гэтаму.

Добра наладжана сувязь акругове ўправы з ЦБК. Сувязь з раённымі таварыствамі слабая.

**Справаздача аб працы Мазырскага Акруговага Т-ва.**

*(Даклад т. Крукоўскага).*

Мазырскае Акруговае Краязнаўчае Т-ва складаецца з 7 асоб. На пасяджэньні яго запрашаюцца кіраўнікі асобных сэкцый. Т-ва правяло наступную організацыйную працу: а) організавала 9 раённых краязнаўчых таварыстваў, у склад якіх уваходзяць 193 члены; б) утворан гурток пры Людзяневіцкай сямігодцы (13 членаў); в) у Мазыры ўтворана гарадзкая краязнаўчая організацыя з 56 членаў, 2 гурткі з агульным лікам членаў 47 ч. Усяго па акрузе лічыцца 10 таварыстваў, 3 школьныя гурткі. Усяго членаў 309. У склад організацыі ўваходзяць пераважна настаўнікі, вельмі мала ўцягнуты ў працу члены КСМ і КПБ, мала дзе ўцягнуты агрономы, каморнікі, лясныя працаўнікі, зусім ня ўцягнуты яшчэ шырокія колы сялянства. У горадзе (ня лічачы школьных гурткоў) склад організацый такі: працаўнікоў асьветы—20, працаўнікоў саюзу зямлі і лесу—24, саўслужачых — 4, працаўнікоў камгаспу—4, мэдсанпрацы—2, ня членаў саюзаў — 2; з вышэйшай адукацыяй—17 членаў, з сярэдняю—34, ніжэйшай—5; членаў КПБ — 1, кандыдатаў—5, членаў КСМ—2, беспартыйных—48.

За справаздачны час праведзена і праводзіцца наступная праца: 1) асочаны часткаю жалезныя руды, паклады каоліну, крэйды, сабрана колекцыя мінэраляў; 2) у 5-х пунктах працуюць мэтэоролёгічныя станцыі 3-га разраду, дзе-ні-дзе вядуцца фэнолёгічныя назіраньні; 3) у 3-х раёнах праведзена апісаньне тэхнікі сялянскага ральніцтва па анкеце праф. Скандракова, у іншых раёнах гэтая праца яшчэ не закончана; 4) фотографуюцца помнікі прыроды і культуры; 5) сабраны матар'ялы для апісаньня гораду Мазыра, асочаны Мазырскія ўзвышшы, складзена схэматычная карта іх, вывучаецца былая сядзіба гр. Горвата ў м. Нароўлі, вывучаўся конскі кірмаш у Мазыры; 6) нанава апісваюцца помнікі старасьветчыны, сабраны матар'ялы па гісторыі Мазыршчыны (асабліва па гісторыі грамадзянскае барацьбы), знойдзена стаянка першабытнага чалавека, сабрана колекцыя монэт (45 штук), некаторыя царкоўныя экспонаты, гішпанская стрэльба XVII ст. Выдзелена два прадстаўнікі па ахове помнікаў і падрыхтаваны матар'ялы па абвяшчэньні некаторых помнікаў дзяржаўнай уласнасьцю. Яўрэйская сэкцыя адшукала ў Азарычах пінкос, якому налічваецца больш за 200 гадоў; 7) сабрана да 1.600 картак для слоўніка жывой мовы, 310 песень, казак, прыказак і загадак. З гэтага ліку 101 песьня апрацавана і даслана ЦБК, з ліку іх да 10-х прыкладзены мэлёдыі на нотах; 8) выдзелены Каралінскі раён для ўсебаковага краязнаўчага вывучэньня і апісаньня; 9) гуртком пры 5-ай школе зроблена апісаньне хутара Леніна, вывучалася фабрыка „Чырвоны Кастрычнік“, сабраны некаторыя матар'ялы па гісторыі Мазыра з 1905 году; 10) у раёнах сабраны некаторыя матар'ялы па апісаньні раёнаў.

Недахватамі краязнаўчае справы ў Мазыршчыне трэба лічыць наступнае: 1) мала популярызавана справа, мала ўцягнута работнікаў, партыйцаў і комсамольцаў, зусім ня ўцягнуты шырокія працоўныя масы; 2) у організаваных таварыствах праца вядзецца вельмі марудна; 3) прымітыўнае абсталяваньне мэтэоролёгічных станцый не дае пэўнасьці, што зробленыя нагляданьні правільныя; 4) адсутнасьць музэю не дазваляе належна экспонаваць сабраныя матар'ялы і прыцягнуць, такім чынам, грамадзкую ўвагу на дасягненьні краязнаўчай працы. З мэтай зьнішчэньня недахватаў і наладжаньня справы,

Мазырскае Акруговае Т-ва правяло цыкль лекцый па краязнаўству і практычныя працы на акруговых курсах па перападрыхтоўцы настаўнікаў; рэгулярна дае артыкулы па краязнаўству ў газэту „Савецкая Вёска"; правяло краязнаўчую нараду з прадстаўнікамі ад усіх раёнаў, падрыхтоўвае цыкль лекцый па краязнаўству для прачытаньня ў работніцкіх клюбах з дэмонстрацыяй адпаведных дыяпозытываў.

Пры акруговым бюро ўтвораны наступныя сэкцыі: яўрэйская ў складзе 5 асоб, экономічная з 7 чалавек, прыродазнаўча-географічная з 5 асоб, этнографічная з 5 асоб, гісторыка-археолёгічная з 9 чалавек. Для ўвязкі працы з акрплянам у экономічную сэкцыю ўцягнута значная частка працаўнікоў апошняга. Ажыўленьне краязнаўчай працы можна чакаць пасьля правядзеньня ў канцы верасьня і ў пачатку кастрычніка раённых і акруговага краязнаўчых зьездаў.

У спрэчках па справаздачах выказаліся т. т. Мялешка, Аніхоўскі, Касьпяровіч, Радкевіч, Бялуга, Харламповіч і Даўгяла. Была зьвернута ўвага на тое, што яшчэ ня зусім добра наладжана жывая сувязь паміж ЦБК і акруговымі т-мі, што Менскае Акр. Т-ва мала працавала, у той час калі яно павінна было быць узорным для іншых.

**Рэзолюцыя па справаздачах Прэзыдыуму ЦБК і акруговых т-ваў.**

Заслухаўшы справаздачы прадстаўнікоў Прэзыдыуму ЦБК і акруговых таварыстваў краязнаўства, Пашыраны Пленум ЦБК адзначае:

1. Ад часу Першага Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду мясцовыя краязнаўчыя організацыі правялі значную працу.

2. Прэзыдыум ЦБК у вагульных рысах трымаўся правільнага кірунку, адзначанага ў пастановах зьезду.

3. Організацыйны пэрыод краязнаўчай працы на Беларусі яшчэ ня ў поўнай меры закончаны.

4. У далейшым, у мэтах палепшаньня краязнаўчай працы, трэба шырока популярызаваць краязнаўчую справу за дапамогай друку і шляхам пастаноўкі дакладаў ды лекцый на настаўніцкіх раённых курсах, у школах сямігодках, тэхнікумах і інш., а таксама на сходах работнікаў, сялян і работніцка-сялянскай моладзі, з мэтай уцягненьня ў краязнаўчую справу шырокіх колаў працоўных мас і асабліва вучнёўскай моладзі.

5. У мэтах ажыўленьня і ўзмацненьня існуючых краязнаўчых організацый і пашырэньня краязнаўчай сеткі трэба: а) акруговым таварыствам правесьці перад пачаткам вучэбнага году краязнаўчыя конфэрэнцыі па раёнах, дапасаваўшы іх, па магчымасьці, да працы раённых настаўніцкіх курсаў; б) раённым таварыствам правесьці краязнаўчыя сходы вучняў старэйшых груп школ, а таксама сходы актыву хат-чытальень і культкамісій сельсаветаў з мэтай утварэньня гурткоў; в) Прэзыдыуму ЦБК правесьці да студзеня 1927 г. акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі.

6. Трэба імкнуцца да ўтварэньня краязнаўчых музэяў у тых акруговых цэнтрах, дзе іх яшчэ няма, а таксама пры раённых таварыствах.

7. Працу краязнаўчых гурткоў трэба па пытаньнях мясцовага значэньня падпарадкаваць раённым таварыствам, працу раённых таварыстваў — акруговым, акруговых — Цэнтральнаму Бюро Краязнаўства; па пытаньнях-жа агульна-дзяржаўнага значэньня ў кожнай краязнаўчай організацыі застаўляецца права непасрэдных зносін з ЦБК.

8. У мэтах утварэньня адзінай сыстэмы кіраўніцтва краязнаўчай справай усе камісіі і сэкцыі Інбелкульту павінны рассылаць новыя анкеты і інструкцыі праз ЦБК, каб апошні быў у курсе ўсёй справы, якую вядуць краязнаўчыя організацыі.

9. Аматары-краязнаўцы павінны быць уцягнуты ў краязнаўчыя органі-

зацыі і атрымліваць ад іх заданьні ў плянавым парадку.

10. Усе краязнаўчыя організацыі павінны перавесьці працу на плянавы кірунак, паклаўшы ў аснову працы выкананьне паасобнымі членамі заданьняў па сэзонах.

11. Чарговымі заданьнямі агульна-дзяржаўнага значэньня да 1-га сакавіка 1927 г. зьяўляецца: а) усебаковае дасьледваньне і вывучэньне кожнай акругай аднаго раёну; б) сэзонныя фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні; в) вывучэньне бюджэту часу селяніна звычаёвага права, хатніх раместваў і становішча сялянскай гаспадаркі, паводле адпаведных анкет; г) вывучэньне грашовых скарбаў, вуснай народнай творчасьці і матар'ялу па беларускім мастацтве; д) апісаньне помнікаў старасьветчыны, дзе гэта ня зроблена. карысных выкапняў і паселішчаў гарадзкога тыпу; е) прыняцьце ўдзелу ў дэмографічным перапісе 1926 г. (пры перапісе сачыць за правільнымі назвамі паселішчаў і нацыскамі); ж) прыняцьце актыўнага ўдзелу ў часопісу „Наш Край“ шляхам прысылкі заметак з месц, пашырэньне і популярызацыя часопісу, палепшаньне справы акуратнасьці выданьня часопісу.

12. Да сьнежня 1926 г. па ўсёй БССР трэба правесьці перарэгістрацыю членаў краязнаўчых організацый з мэтай высьвятленьня іх складу і раздачы членскіх білетаў з захаваньнем адзінага парадковага нумару па кожнай акрузе.

13. ЦБК і акруговыя т-вы мусяць прыняць належныя меры да папаўненьня краязнаўчых раённых бібліотэчак пэрыодычнай краязнаўчай літаратурай.

14. ЦБК праз адпаведныя камісіі Інбелкульту мае прыняць меры да выданьня новых анкет і інструкцый па пытаньнях сельскай гаспадаркі і інш.

15. ЦБК за асеньні і зімовы пэрыод павінна правесьці абсьледваньне стану краязнаўчай справы ў кожным акруговым т-ве ў 2-3 раёнах, падрыхтавацца і правесьці ў канцы студзеня і ў пачатку лютага месяца 1927 г. 2-гі Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд.

16. Для аблягчэньня зносін мясцовых організацый з акруговымі цэнтрамі, Прэзыдыум ЦБК павінен паклапаціцца аб дарэмнай перасылцы краязнаўчых матар'ялаў па пошце на імя акруговых таварыстваў.

17. Прэзыдыум ЦБК і акруговыя т-вы павінны трымаць больш сьцiслую сувязь з плянавымі органамі.

18. Прэзыдыум ЦБК павінен вывучаць пытаньне аб аб'яднаньні дзейнасьці ўстаноў, якія вядуць краязнаўчую працу: музэі, сады, запаведнікі, дасьледчыя станцыі, архівы і г. д.

19. Прэзыдыум ЦБК павінен паклапаціцца, каб Дзяржаўны Музэй дапамагаў краязнаўчым музэям, дасылаючы ім дублеты і фотографіі экспонатаў.

20. Прэзыдыум ЦБК павінен прыняць усе меры да ўзмацненьня Менскага Акруговага Т-ва шляхам вылучэньня з свайго складу аднаго прадстаўніка для накіраваньня яго працы і правядзеньня ў бліжэйшы час раённых і акруговых краязнаўчых конфэрэнцый па Менскай акрузе.

21. Прэзыдыум ЦБК павінен палепшыць жывую сувязь з мясцовымі організацыямі і часьцей накіроўваць на месцы сваіх прадстаўнікоў.

22. ЦБК павінна ўзмацніць працу сярод нацменшасьцяй.

23. Прэзыдыум ЦБК павінен клапаціцца аб залічэньні актыўнейшых краязнаўцаў у члены-корэспондэнты Інбелкульту.

**Краязнаўства і школа.**

*(Даклад т. Аляксандрава).*

У сваім дакладзе т. Аляксандраў зазначае, што сучаснае краязнаўства ня можа абмяжоўвацца ў умовах соцыялістычнага будаўніцтва СССР аднымі акадэмічнымі заданьнямі. Краязнаўства павінна, у першую чаргу, дапамагаць вывучэньню тых умоў, у якіх адбываецца гаспадарчая дзейнасьць насельніцтва, іначай кажучы, павінна прыняць вытворчы ўхіл.

Запаўняючы краязнаўчую працу новым конкрэтным зьместам, мы тым самым набліжаем працу краязнаўцаў, пераважна настаўнікаў, да працы ў самой школе, якая таксама мае вытворчы характар і запаўняе сваю працу мясцовым матар'ялам. Ня спыняючыся ў сучасны момант на агульных пытаньнях школьнага краязнаўства і не вырашаючы пакуль што ўсіх проблем, высунутых апошнім, трэба першыя часы зьдзейсьніць некаторыя мерапрыемствы, якія дапамогуць набліжэньню краязнаўчай працы да штодзеннай працы настаўнікаў. Трэба ўвязаць працы мясцовых краязнаўчых організацый з працай мясцовых мэтодычных бюро пры акруговых аддзелах асьветы дзеля наданьня програмам краязнаўчага ўхілу. Трэба, каб мясцовыя краязнаўчыя організацыі ў бліжэйшы час прыступілі да апрацоўкі краязнаўчага матар'ялу з мэтай выдрукаваньня апошніх, што значна дапаможа працы ў школах. Трэба прасунуць у школу сучасную краязнаўчую літаратуру. Надышоў час пачаць організацыю па акругах і раёнах школьна-пэдагогічных музэяў, якія у першую чаргу, мусяць адбіваць гаспадарчую дзейнасьць працоўнага люду. У мэтах паглыбленьня і распрацоўкі проблем школьнага краязнаўства БССР, трэба ўтварыць пры ЦБК школьна-краязнаўчую сэкцыю, якая ўзгодніць сваю працу з пэдагогічнай сэкцыяй Інбелкульту і з мэтбюро Наркамасьветы.

**Рэзолюцыя па дакладу „Краязнаўства і школа“.**

Заслухаўшы даклад тав. Аляксандрава, Пашыраны Пленум ЦБК адзначае важнасьць закранутага ў дакладзе пытаньня і прапануе краязнаўчым організацыям імкнуцца ўвязаць сваю працу з працай мэтодычных камісій, па магчымасьці, прасоўваць краязнаўчую літаратуру ў масавую школу, асьвятляць пытаньні школьнага краязнаўства на старонках „Нашага Краю“ і „Савецкай Беларусі“, клапаціцца аб тым, каб у програмы пэдагогічных вучэбных устаноў было ўведзена выкладаньне мэтодыкі краязнаўства. ЦБК мае адчыніць пры сабе асаблівую Школьна-Краязнаўчую Сэкцыю.

**„Усесаюзныя перапісы і краязнаўчыя організацыі“.**

*(Даклад т. Шастакова).*

Дакладчык адзначае, што Беларуская рэспубліка, утвораная з т. зв. Нова-Земскіх губэрань, амаль што ня ведае даваеннай статыстыкі. Вайна, окупацыі, фронт, эвакуацыі—затрымалі разьвіцьцё ў ёй статыстыкі. Перапісы 16, 17, і 20 г.г. ахапілі толькі частку яе цяперашняе тэрыторыі, дый самыя гэтыя перапісы ў умовах грамадзянскай вайны не маглі быць належным чынам праведзены. Апрача таго, з таго часу адбыліся значныя зьмены ў народнай гаспадарцы СССР і БССР, якія значна адбіліся на разьмяшчэньні і складзе насельнікаў. Недахват статыстычных матар'ялаў аб народнай гаспадарцы перашкаджае правільнаму правядзеньню прац урадовых і плянавых органаў Рэспублікі. Пастановай Саюзнага Саўнаркому ў канцы гэтага году будзе праведзены дэмографічны перапіс, а ў бліжэйшыя гады—сельска-гаспадарчы, прамысловы, гандлёвы і коопэрацыйны. Зразумела, што для Беларусі гэтыя перапісы маюць асабліва актуальнае значэньне. Гэтыя перапісы дадуць магчымасьць выявіць дасягненьні Савецкае ўлады на гаспадарчым фронце і будуць падставай для далейшага будаўніцтва соцыялістычнай гаспадаркі СССР. Дэмографічны перапіс дазволіць закончыць раёнаваньне СССР на падставе сучасных даных аб разьмяшчэньні насяленьня па тэрыторыі і аб падзеле яго па нацыянальнасьцях. Матар'ялы дэмографічнага перапісу аб ліку дзяцей школьнага ўзросту, аб стане пісьменнасьці ў розных мясцовасьцях Саюзу дапамогуць складаньню школьных сетак і распрацоўцы далейшага пляну ліквідацыі няпісьменнасьці. Перапіс дасьць матар'ял для распрацоўкі нор-

мальных сетак розных мэдычных і санітарных установаў. Ведамасьці перапісу аб раёнах цягі збожжавых грузаў, у зьвязку з станам мясцовага гандлю і прамысловасьці, дадуць магчымасьць орыентавацца пры вырашэньні шэрагу пытаньняў, зьвязаных з аднаўленьнем мясцовага дарожнага будаўніцтва. Перапіс падлічыць прогрэсыйныя зьявы і дасягненьні сялянскай гаспадаркі і гэтым дасьць аснову для пабудовы пляновых мерапрыемстваў па палепшаньні сялянскай гаспадаркі. Перапіс жывёлы выявіць разьмеры жывёлагадоўчага багацьця нашага краю, ступень забясьпечанасьці працоўнай і продукцыйнай жывёлай сялянскай гаспадаркі, пакажа кірунак, у якім разьвіваецца гэтая галіна народнай гаспадаркі, і дасьць магчымасьць прыняць меры па палепшаньні гадоўлі жывёлы. Прамысловы перапіс дапаможа аднаўленьню нашай прамысловасьці, дасьць, разам з данымі дэмографічнага перапісу, дакладныя даныя аб колькасьці пролетарыяту і кваліфікаванай працоўнай сілы. Асаблівае значэньне мае перапіс для дробнай саматужнай прамысловасьці, якая грае такую вялікую ролю ў экономіцы краю, але зьмест і аб'ём якой дагэтуль выяўляліся толькі прыблізна.

Перапіс пакажа, чаго мы дасягнулі і чаго трэба яшчэ дасягнуць, а значыць, пакажа кірунак далейшай працы і краязнаўства.

Посьпех перапісу залежыць, папершае, ад складу перапісчыкаў і ўсяго пэрсоналю па перапісе, які павінен ведаць побыт і мясцовыя ўмовы, а таксама ад сьвядомых адносін шырокіх колаў насельніцтва і асабліва сялянства. І ў тым і ў другім органы дзяржаўнай статыстыкі Беларусі спадзяюцца на дапамогу мясцовых краязнаўчых організацый, якія маюць сваю шырокую сетку і ўцягнулі ў сябе ўсіх найбольш сьвядомых і актыўных працаўнікоў, беспасрэдна зьвязаных з сялянскімі масамі БССР. У вадказнай справе наступных перапісаў краязнаўчыя організацыі павінны даць найлепшых пропагандыстых сярод сялянскіх мас, найлепшы сьвядомы пэрсональ будучых перапісаў, як рэгістратараў, гэтак, асабліва, інструктароў.

У спрэчках па дакладу опонэнты адзначаюць, што краязнаўчыя організацыі лепш, як хто, адчуваюць патрэбу перапісу і ўсімі способамі будуць дапамагаць правільнаму правядзеньню іх. Трэба толькі, каб статорганы ішлі насустрэч краязнаўцам, шчыльней зьвязаліся з краязнаўчымі організацыямі, больш сьвядома адносіліся да нацполітыкі Компартыі і Савецкай улады і не разглядалі справу перапісу, як справу, падлеглую толькі статорганізацыі. Справа статыстыкі—справа грамадзкая.

У заключным слове т. Шастакоў згаджаецца з недахватам у некаторых статпрацаўнікоў сьвядомых адносін да нацполітыкі Компартыі і Савецкай улады, згаджаецца з недахватам сувязі паміж статорганамі і краязнаўчымі таварыствамі, але адзначае, што гэтыя недахваты будуць зьнішчаны.

**Рэзолюцыя па дакладу „Ўсесаюзныя перапісы і краязнаўчыя організацыі“.**

Заслухаўшы даклад т. Шастакова аб будучых ўсесаюзных перапісах і прымаючы пад увагу вялізную ролю іх у справе далейшага будаўніцтва СССР і асабліва Беларусі, бедная на статыстычныя даныя ў галіне народнай гаспадаркі, Пашыраны Пленум ЦБК зьвяртаецца да ўсіх краязнаўчых організацый з наступнай пропозыцыяй: 1) павесьці шырокую і энэргічную пропаганду заданьняў і мэт будучых перапісаў сярод насельніцтва, як шляхам асобных гутарак, так і спэцыяльных сходаў, конфэрэнцый і г. д.; 2) лічыць бязумоўна патрэбным беспасрэдны актыўны ўдзел у перапісах усіх работнікаў краязнаўчых організацый, а ў тых выпадках, калі гэта немагчыма—усямерную дапамогу працы перапіснага апарату; 3) краязнаўчым організа-

цыям прыняць удзел у распрацоўцы перапісных матар'ялаў, усімі спосабамі дапамагаць статорганізацыям у гэтай справе і сачыць за правільнасьцю правядзеньня перапісаў; 4) лічыць бязумоўна патрэбнай цесную сувязь краязнаўчых організацый з органамі дзяржаўнай статыстыкі на мясцох, скарыстаўшы з гэтай мэтай найбольш поўны ўдзел працаўнікоў краязнаўства ў добраахвотнай статыстычнай корэспондэнцкай сетцы, а таксама ўцягненьне раённых статыстыкаў і наогул працаўнікоў статоргану ў краязнаўчыя організацыі; 5) прымаць меры да ўсебаковага асьвятленьня пытаньняў аб перапісе на старонках „Нашага Краю".

### Стан абсьледваньня Асіпавіцкага раёну.

Тав. Казак інформуе аб тых мэтах, якімі кіравалася ЦБК, высоўваючы пытаньне аб абсьледваньні ўзорнага раёну, а таксама высьвятляе прычыны, чаму ўзорным раёнам абраны Асіпавіцкі. Пытаньне аб абсьледваньні Асіпавіцкага раёну абгаварвалася на пасяджэньні прэзыдыуму ІБК і на спэцыяльнай нарадзе, прычым гэтая справа была прызнана вельмі важнай. 29-30 мая прадстаўнікі ЦБК выяжджалі ў Асіпавічы з мэтай наладжаньня справы. У Асіпавічах праведзена раённая краязнаўчая конфэрэнцыя, на якой была заслухана інформацыя ЦБК аб пляне і парадку працы і былі абраны адказныя працаўнікі па адным на кожны сельсавет. Уся справа па абсьледваньні раёну праводзіцца Асіпавіцкім раённым таварыствам краязнаўства, а распрацоўка матар'ялаў— у вадпаведных камісіях Інбелкульту.

Далей т. Немцаў, старшыня Асіпавіцкага раённага т-ва, інформуе аб ходзе працы на месцы, адзначаючы, што раён падзелен на 7 частак, прычым у кожнай частцы асобна праводзіцца зьбіраньне матар'ялаў. Паводле каляндарнага пляну Асіпавіцкага раённага т-ва, уся праца па абсьледваньні падзелена па месяцах на 12 частак у відзе заданьняў, якія штомесяц пасылаюцца ў сельсаветы для выкананьня. З некаторых сельсаветаў ужо атрыманы сабраныя матар'ялы. Дапамагаць у працы абяцаліся як профсаюзы, гэтак і раённыя ўстановы. Фактычна дапамагаюць толькі некаторыя профсаюзы і комсамольцы. З боку ўстаноў пакуль што дапамогі яшчэ ня было. Увесь час вядзецца зьбіраньне гэрбарнага матар'ялу, прычым каля 200 экз. ужо накіравана ў ЦБК. Большая частка сабраных матар'ялаў па ўсіх галінах краязнаўства ляжыць яшчэ ў Асіпавіцкім т-ве. У некаторых сельсаветах праца затрымалася з прычыны перабroom некаторых настаўнікаў, якія вядуць адказную працу па краязнаўству ў паасобных сельсаветах, у другія месцы. Вельмі добра ідзе праца вучнёўскага гуртка ў Асіпавіцкай сямігодцы: зьбіраюцца расьліны, робяцца розныя назіраньні, сабрана каля 500 песень і 300 пагаворак і інш. Шмат ёсьць у таварыстве фотоздымкаў раёну. Робіцца глебавая карта, якая к кастрычніку павінна быць скончана.

### Рэзолюцыя па інформацыі аб стане абсьледваньня Асіпавіцкага раёну.

Заслухаўшы інформацыю аб ходзе справы па абсьледваньні Асіпавіцкага раёну, Пашыраны Пленум ЦБК адзначае:

1) прызнаць распачатую працу па абсьледваньні раёну вельмі патрэбнай і своечаснай;

2) прыняць меры да правядзеньня яе найбольш грунтоўна;

3) прызнаць правільным і патрэбным высунутае ЦБК пытаньне аб унясеньні ў плян працы кожнага акруговага таварыства краязнаўства вывучэньне аднаго тыповага раёну;

4) вынікі абсьледваньня паступова высьвятляць у друку.

### „Контрольныя лічбы СССР і БССР“.
*(Даклад т. Пятровіча).*

Дакладчык спачатку спыняецца на мэтах складаньня контрольных лічбаў, на значэньні іх у пляне соцыялістычнага будаўніцтва і высьвятляе характар вядзеньня гаспадаркі соцыялістычнай дзяржавы і буржуазнай. Далей дакладчык прыводзіць контрольныя лічбы гаспадаркі СССР і БССР. У канцы дакладу тав. Пятровіч гаворыць аб патрэбе ўвязкі працы краязнаўчых організацый з органамі Дзяржпляну як у цэнтры, так і на мясцох, і прыводзіць прыклады, дзе магчыма гэта ўвязка: абсьледваньне тыпаў будоўлі, вывучэньне прыродных багацьцяў БССР, эволюцыя сельскае гаспадаркі, сумесныя досьледы па вывучэньні вытворчага боку і г. д.

### Рэзолюцыя па дакладу тав. Пятровіча „Контрольныя лічбы СССР і БССР“.

Даклад прыняць да ведама; прызнаць правільным і патрэбным высунутае дакладчыкам пытаньне аб увязцы працы органаў дзяржпляну з краязнаўчымі організацыямі; у мэтах практычнага выяўленьня гэтага аб'яднаньня ў працы, лічыць патрэбным утварэньне ў Інбелкульце камісіі па дасьледваньні гаспадарчага становішча краю.

У канцы Пленуму прадстаўніком акруговых т-ваў былі выдадзены краязнаўчыя бібліотэчкі для ўсіх раённых таварыстваў і членскія кніжкі ў зьвязку з перарэгістрацыяй членаў усіх краязнаўчых організацый БССР, якая мае адбыцца да 1 студзеня 1927 г.

## Сьпіс дэлегатаў Пашыранага Пленуму ЦБК

| №№ чарг. | Прозьвішча і імя. | Ад якой організацыі. |
|---|---|---|
| 1 | Мікіцінскі Ўсевалад | Слуцкае акруговае таварыства |
| 2 | Аніхоўскі Алесь | Калінінскае „ „ |
| 3 | Кавалёў Захар | Амсьціслаўскае раённае таварыства |
| 4 | Мялешка Сяргей | Полацкае акруговае таварыства |
| 5 | Самцэвіч Васіль | Барысаўскае „ „ |
| 6 | Касьпяровіч Мікола | Віцебскае „ „ |
| 7 | Хвасьцюк Мікалай | Галоўполітасьветы |
| 8 | Вяршук Васіль | Прыродазнаўчая сэкцыя |
| 9 | Крукоўскі Алесь | Мазырскае акруговае таварыства |
| 10 | Паноў Аляксандар | Дзяржаўны музэй |
| 11 | Бібіла Юлія | Бібліографічная камісія і дзяржаўная бібліотэка |
| 12 | Лёсік Язэп | Правапісна-тэрмінолёгічная камісія |
| 13 | Даўгяла Зьмітрок | Гістарычна-архэолёгічная камісія |
| 14 | Харламповіч Паўлюк | Дзяржаўны музэй |
| 15 | Грыневіч Антон | Песенная камісія |
| 16 | Пятровіч І. | Дзяржплян |
| 17 | Аляксандраў Гілель | Прэзыдыум ЦБК |
| 18 | Сербаў Ісак | Этнографічная сэкцыя |
| 19 | Плаўнік Зьмітрок | Прэзыдыум ЦБК |
| 20 | Казак Аляксей | „ „ |
| 21 | Азбукін Мікалай | „ „ |

| №№ чарг. | Прозьвішча і імя. | Ад якой організацыі. |
|---|---|---|
| 22 | Мачульскі Васіль | Літкамісія ІБК |
| 23 | Бялуга Мікола | Прэзыдыум ЦБК |
| 24 | Байкоў Мікола | Слоўнікавая камісія ІБК |
| 25 | Ракаў Якаў | Навуковая Організацыя Працы |
| 26 | Шчакаціхін Мікола | Мастацкая сэкцыя |
| 27 | Красінскі Мікола | Тэатпадсэкцыя |
| 28 | Бузук | Дыялектолёгічная камісія |
| 29 | Александроўскі | Аб'яднаньне гурткоў пры чыгуначных школах Менскага вузла |
| 30 | Жураўскі | Акруговы Аддзел Асьветы |
| 31 | Радкевіч Ной | ЦК ЛКСМБ |
| 32 | Абрамчук Макар | ЦК КПБ |
| 33 | Сьцяпуржынскі Алесь | Менскае Акруговае Т-ва Краязнаўства |
| 34 | Мар'ясіна | Саюз прац. асьветы |
| 35 | Сушынскі Язэп | Магілеўскае Акруговае Т-ва |
| 36 | Дзівак Гарасім | Бабруйскае „ „ |
| 37 | Немцаў Алесь | Асіпавіцкае Раённае Т-ва |
| 38 | Ігнатоўскі Ўсевалад | Інбелкульт |
| 39 | Шастакоў | ЦСУ |
| 40 | Макарэўскі | Мэтэоролёгічнае Бюро |

**Вынікі экспэдыцыі па вывучэньні ткацтва ў Асіпавіцкім раёне і наогул па Бабруйскай акрузе.**

У канцы ліпня Інстытут Беларускае Культуры накіраваў у Асіпавіцкі раён экспэдыцыю па вывучэньні ткацтва. Паводле раней вызначанага пляну экспэдыцыя пабывала ва ўсіх сельсаветах названага раёну. З Асіпавіцкага раёну кірунак быў узяты на Сьвіслацкі, II і I Бабруйскі, Рагачэўскі і Жлобінскі раёны. Акрамя непасрэдных наведваньняў таго ці іншага паселішча, рабілася апытаньне грамадзян пра ткацтва іх раёну на рынках гарадоў і мястэчак і, наогул, дзе прыходзілася каго-небудзь сустракаць. Такім чынам, трэба зазначыць, што ткацтва Бабруйскай акругі вывучана досыць грунтоўна. Зроблены цэлы шэраг запісаў, якія ўсебакова характарызуюць экономічны бок ткацтва і каля сотні зарысовак узорных тканін. Выкрыты значны лік узораў высокай мастацкай вартасьці. Як вынік экспэдыцыі, трэба зазначыць, што Асіпавіцкі раён зьяўляецца як-бы асяродкам усёй Бабруйскай акругі. У гэтым раёне можна знайсьці ўзоры тканін усёй акругі. Ткацтва ва ўсёй акрузе зьяўляецца падсобным заняткам. Ткуць выключна жанчыны.

Для музэю, які мае быць організаваны пры Інбелкульце, удалося закупіць каля пяцідзесяці розных тканін.

Тканіны мастацкай вартасьці закупіць не ўдалося. Ніхто ня хоча прадаваць. На запытаньне, чаму не прадае, заўсёды чуецца ад дзяўчат такі адказ: „Зьбіраюся замуж, з чым-жа я застануся, калі прадам?" А замужнія адказваюць так: „Ткаць мне няма калі дый няма як, хай застанецца дачцы на ўспамін. Грошы вазьмі—яны і разыйдуцца, а рэчы ня будзе". На рынку мастацкая тканіна сустракаец-

ца вельмі рэдка. Толькі вялікая бяда прымушае сялянку збываць падобныя рэчы, ды і ў такіх выпадках мастацкая тканіна збываецца апошняй, калі іншага выйсьця ўжо няма.

Справа ў тым, што для мастацкай тканіны патрэбна шмат працы. Некаторыя гатункі патрабуюць трох асоб пры тканьні. Гэтыя тры асобы ў працягу 10-гадзіннага дня працы вытыкаюць палову аршына. Гэта не аснаўная праца, а толькі нязначная частка ўсёй працы, якая ўкладаецца ў гэту справу. Пры такіх умовах зусім зразумела, што ня кожная сялянка і не заўсёды, калі ёй захочацца, зможа займацца гэтай працай, а раз яна што-небудзь выткала, дык з рук сваіх выпускаць ня хоча.

**Р. П. Рак.**

### Краязнаўчая праца на Барысаўшчыне ў 1926 г.

Барысаўскае Т-ва Краязнаўства зорганізавалася ў лютым м-цы 1924 г. і ў сучасны момант складаецца з гарадзкой організацыі, 8 раённых т-ваў і 15 гурткоў (з іх 12 школьных). Агульны лік сяброў т-ва 340 чал. (пераважна настаўніцтва) і каля 350 чал. вучнёўскай моладзі.

Праца гарадзкой організацыі праводзіцца ў сэкцыях: школьна-краязнаўчай, культурна-гістарычнай, прыродазнаўчай, этнографічнай. Нядаўна ўтварылася яўрэйская сэкцыя, якая знаходзіцца яшчэ ў стадыі організацыі.

*Школьна-краязнаўчая сэкцыя* ўтварылася толькі вясной гэтага году. Ставіла даклады на настаўніцкіх сходах, на зьезьдзе загадчыкаў сямігодак акругі і на летніх настаўніцкіх курсах, даклады аб задачах і мэтодах школьнай краязнаўчай працы, аб організацыі і правядзеньні экскурсій, разглядала пляны экскурсій гарадзкіх школ на фабрыкі і заводы, прымала ўдзел у апрацоўцы плянаў краязнаўчай працы на настаўніцкіх курсах (вывучэньне дрэваапрацоўчай прамысловасьці ў Барысаўскай акрузе).

*Культурна-гістарычная сэкцыя* праводзіла подлік помнікаў старасьветчыны, з якіх некаторыя абвешчаны дзяржаўнай маемасьцю (паст. СНКБ ад 5-VII г. г.); склала і разаслала па раённых організацыях програмы па вывучэньні рэволюцыйнага руху, заслухала даклад „Беларускі рух на Барысаўшчыне ў XIX ст." (Аляхновіч).

*Прыродазнаўчая сэкцыя* заслухала адзін даклад—„Пералётныя і зімуючыя ў нас птушкі" (т. Нікіфаровіч); у канцы чэрвеня і пачатку ліпня праведзена 10-дзённая экскурсія на возера „Пялік". Матар'ялы і экспонаты (чучалы, гэрбарыі, апісаньні) зараз апрацоўваюцца.

Яшчэ ў жніўні 1924 году заложаны быў краязнаўчы музэй, які да апошняга часу зьмяшчаецца ў будынку пэдтэхнікуму. Музэй пачаў ужо было больш-менш нормальную працу і сабраў шмат рэчаў і экспонатаў мясцовай вытворчасьці (прыроды, быту). Але зімой гэтага году музэй мусіў зачыніцца, з прычыны заняцьця пакояў для працы тэхнікуму і адсутнасьці належнага памяшканьня. Усе рэчы згорнуты ў кут. Пастаўлена пытаньне перад *Акруговым Выканаўчым Камітэтам аб прадастаўленьні будынку для музэю*, у якім адчуваецца вялікая патрэбнасьць.

*У Барысаўскім раёне* раённае організацыі няма: працай кіруе Акруговая ўправа. Ёсьць 2 гурткі: Вяляціцкі і Лошніцкі.

*Вяляціцкі* гурток налічвае 17 сяброў. Вялася праца па зьбіраньні і запісу народнай творчасьці (109 песьняў адасланы ў ЦБК).

*Лошніцкі* гурток утварыўся 10 сакавіка 1926 г.; сяброў—7. Гуртком запісана некалькі песьняў, прыказак; зьбіраюцца матар'ялы для слоўніка жывой беларускай мовы, зьбіраюцца каменныя тапары, малаткі, даўныя монэты.

*Бягомельскае* раённае т-ва ўтварылася нядаўна; і вядзе назіраньні за пагодай, навальніцамі. Нарыхтаваная мэтэоролёгічная станцыя 2-га разраду.

Сувязь з Акруговай Управай вельмі слабая.

*Бярэзінскае* раённае т-ва зорганізавалася ў канцы 1925 году і ў сучасны момант налічвае 91 сябр. Разглядаліся амаль што выключна арганізацыйныя пытаньні, папулярызавалася ідэя і мэтоды працы. Сталай працы ня было. Пры Бярэзінскай і Багушэвіцкай сямігодках зладжыліся вучнёўскія (з старэйшых груп) краязнаўчыя гурткі, але праца яшчэ нявыяўлена; адсутнічала належнае кіраўніцтва.

*Зембінскае* раённае т-ва ўтварылася ў лютым м-цы гэтага году, праца не наладжана; сувязі з Акруговай Управай ніякай няма. Ня ўцягнута ў краязнаўчую працу і сямігодка. Існуючы ў раёне Кішчына-Слабодзкі гурток зрабіў апісаньне помнікаў старасьветчыны.

*Крупскае* раённае т-ва зорганізавалася ў пачатку 1926 году. Организацыя ня мае ніякага пляну працы; сама організацыя не аформлена. Лепш працаваў гурток пры Бобрскай сямігодцы, хаця праца яго насіла выпадковы характар. Гуртком сабрана шмат песьняў, пагаворак, казак, замоў, якія адасланы ў ЦБК. Гуртком вяліся мэтэоролёгічныя назіраньні, назіраньні над сьнегавым насьцілам. Знойдзены і адасланы ў БДМ грошы старых часоў. Разгледжан архіў б. памешчыка Барталамея ў Бабры; аб матар'ялах і бібліотэцы на францускай мове паведамлены Беларуская Даяржаўная Бібліотэка і літаратурная сэкцыя пры ІБК.

*Лепельскае* раённае т-ва, утворанае ў 1925 годзе, вядзе фонолёгічныя назіраньні, апісаньне курганоў і паселішча Старога Лепелю. Школьны гурток пры Каменскай сямігодцы займаўся запісамі фольклёрнага матар'ялу; зрабіў 4 экскурсіі, прычым на беразе возера Камень выяўлена прысутнасьць зялезнай руды і вохры (узоры ёсьць у школьным музэі); абсьледваў касьцёл у маёнтку Губіна, пабудаваны ў 1714 годзе; у касьцёле захоўваюцца некаторыя запісы манахаў, статут Домініканскага манастыра і інш. Пры школе організуецца школьны музэй.

*Плешчаніцкі* гурток вядзе фонолёгічныя назіраньні, сабраў гэрбарый мясцовых расьлін (200 экз.); у музэі сабраны 109 монэт розных часоў прылады каменнага веку, чыгуннае вядро (1812 г.) і інш. У м. Крайску (на мяжы з Польшчай) ёсьць таксама гурток, праца якога нявыяўлена.

Раённая організацыя фактычна адсутнічае, што вельмі шкадліва адбіваецца на працы пагранічнага раёну.

*Халопеніцкае* раённае т-ва пачало сваю працу ў канцы 1925 г., хаця ўтворана яшчэ ў 1924 г. У працу, апрача настаўнікаў, уцягнуты: агроном, лясьнічы, коопэрацыйныя і савецкія працаўнікі. Вывучаюцца: лясная гаспадарка, мясцовыя глебы, саматужная прамысловасьць. Пры сямігодцы зладжыўся школьна-краязнаўчы гурток, які займаўся, галоўным чынам, зьбіраньнем фольклёрнага матар'ялу і вядзе мэтэоролёгічныя назіраньні.

*Чарэйскае* раённае т-ва 6-га сакавіка правяло 1-ую краязнаўчую конфэрэнцыю. Заслуханы былі: інформацыйны даклад аб Першым Усебеларускім краязнаўчым зьезьдзе, аб працы раённага т-ва, аб вывучэньні мясцовага краю, аб складаньні гэрбарыю і інш. Праца т-ва кульгае, сувязь з Акруговай Управай слабая.

*Гурток натуралістых пры пэдтэхнікуме* зорганізаваўся ў сакавіку 1925 г. і складаецца з 43 асоб студэнтаў. Гурток вядзе фонолёгічныя назіраньні паводле програм ЦБК (РСФСР) і свае матар'ялы адсылае ў Ленінград, а з 1926 г. пасылае і ў ЦБК. Працуе 2 сэкцыі: орнітолёгічная і мэтэоролёгічная, заложана мэтэоролёгічная станцыя. У гуртку чытаюцца даклады.

Пры гарадзкіх школах-сямігодках: 1-й імя Янкі Купалы, 2-й і 7-й таксама ёсьць краязнаўчыя гурткі, праца якіх выяўлялася ў экскурсіях на фабрыкі і заводы, зьбіраньні фольклёр-

нага матар'ялу (7-я школа), складаньні гэрбарыяў мясцовых расьлін.

За апошні год ва ўсіх раёнах утвораны краязнаўчыя організацыі, якія азнаёміліся з задачамі краязнаўства, але, паколькі праца для масавых працаўнікоў зьяўляецца новай, адчуваецца неабходнасьць у жывой непасрэднай сувязі, у кіраўніцтве і інструктаваньні. Адсутнасьць сродкаў перашкаджае гэтаму.

**В. Самцэвіч.**

### Праца Навук. Т-ва па вывучэньні Беларусі пры Бел. С.-Г. Акадэміі ў Горках.

На пасяджэньні кіраўніцтва Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай С.-Г. Акадэміі ад 10-V б. г. заслухан быў даклад камісіі па складаньні проэкту сувязі Навуковага Т-ва з краязнаўчымі таварыствамі (дакладчык профэсар М. Бурштэйн).

Сувязь павінна праводзіцца, згодна гэтага проэкту, у наступным:

1. 1-2 разы ў год павінны скліканца ўрачыстыя пасяджэньні Навуковага Т-ва з прадстаўнікамі ад краязнаўчых таварыстваў і інш. грамадзкіх устаноў.

2. Сябры Т-ва павінны пэрыодычна выяжджаць у вакругі для інформацыі аб дзейнасьці Т-ва, для чытаньня навуковых дакладаў і для азнаямленьня з працай краязнаўчых Т-ваў і прыняцьця ўдзелу ў іх зьездах.

3. Запрашэньне прадстаўнікоў цэнтральных устаноў, акруговых краязнаўчых т-ваў, агрономаў і сялян-дасьледчыкаў для дакладаў і інформацый у Т-ве.

4. Прыцягненьне для працы ў Т-ва акруговых і раённых працаўнікоў краязнаўства і сялян-дасьледчыкаў.

5. Пэрыодычная інформацыя праз друк шырокіх мас аб дзейнасьці Т-ва.

6. Прыняцьце сталага ўдзелу Т-ва ў бюлетэні Інбелькульту.

18-V ад падшэфнага Магілеўскага Акруговага Т-ва Краязнаўства ў Навуков. Т-ве па вывучэньні Беларусі атрыманы сьпіс тэм, на якія найбольш пажадана заслухаць даклады:

1. „Геолёгічная пабудова Беларусі"—проф. Лунгерсгаўзен.

2. „Нашы глебы"—проф. Афанасьеў.

3. „Апошнія даныя па экономічнай географіі Беларусі"—доц. Г. Гарэцкі.

4. „Мэтэоролёгічныя зьявішчы і іх назіраньне ў школе"—проф. Кайгародаў.

5. „Флёра Беларусі і яе дасьледваньне"—проф. Васількоў.

6. „Фаўна Беларусі і яе дасьледваньне"—проф. Салаўёў.

7. „Сельская гаспадарка ў Беларусі"—проф. Скандракоў.

8. „Сяляне—дасьледчыкі-самародкі"—проф. Бурштэйн.

9. „Шляхі разьвіцьця беларускай літаратуры"—доц. М. Гарэцкі.

10. „Гісторыя зямляўладаньня і землякарыстаньня ў Беларусі"—проф. Фралоў.

7-VI б. г. на пасяджэньні Навуковага Т-ва быў заслуханы даклад проф. Лунгерсгаўзена аб яго паездцы 30-V у Магілеўскае Акруговае Т-ва Краязнаўства для дакладу (лекцыі) на тэму: „Геолёгічны нарыс Беларусі" і для ўвязкі працы.

Вырашылі ў пёршую чаргу паехаць у Магілеў для дакладу пр. Кайгародава, пр. Салаўёва, пр. Васількова і г. д.

На агульным зьезьдзе Навуковага Т-ва па вывучэньні Беларусі пры Беларускай С.-Г. Акадэміі ад 30-V б. г. заслуханы былі наступныя навуковыя даклады:

1. Проф. Мельніка С. П. на тэму „Лесагадоўна-фэнолёгічныя назіраньні". Дакладчык расказаў аб гісторыі парку ў Горках, дзе вядуцца фэнолёгічныя назіраньні, і адзначыў, што парк гэты заложан у 1864 г. і зьяўляецца другім па старасьці гадоў (першы—у Ленінградзе).

2. Грашавага Ю.—аб сконструяваньні ім унівэрсальнага тэрмагіграстату для вэгетацыйных досьледаў з жывымі об'ектамі. Дакладчык пры-

вёў прынцыпы конструяваньня свайго апарату, яго добрыя бакі, як мажлівасьць атрымліваць аднолькавыя вільгаці і цяпло розных камэр апарату і інш.

Вырашылі ўхваліць сконструяваны Грашавым унівэрсальны тэрмагіграстат.

### Праца Смалявіцкага раённага таварыства.

Наша т-ва мае 129 сяброў, з якіх 88 зьяўляецца вучнямі раённай сямігодкі.

Праца т-ва за час яго існаваньня (з красавіка 1925 г.) вялася, галоўным чынам, у наступным парадку: а) частка сяброў т-ва вывучала расьліннасьць раёну, вынікам чаго зьявіўся досыць поўны зельнік (374 від. расьлін); пры вывучэньні расьліннасьці асаблівая ўвага была зьвернута на „пустазельле" і складзены асобны зельнік пустазельля (з 102 відамі); б) другая частка вяла (і вядзе) працу па абсьледваньні і апісаньні паверхні, абвадненьня насельных пунктаў раёну; в) трэцяя частка вядзе працу па вывучэньні раёну ў грамадзка-экономічным і культурна-гістарычным напрамках. Да гэтага часу сабрана некалькі сот слоў для слоўніка жывой мовы, а таксама запісана некалькі дзесяткаў народных песьняў, баек, замоў і інш. Апрача таго, у бягучы час робіцца рэгістрацыя (па магчымасьці) усіх помнікаў старасьветчыны, якія знаходзяцца на тэрыторыі раёну.

Што тычыцца сучаснага моманту, дык праца вядзецца ў тым-жа кірунку, калі ня лічыць збору шасьцёх ножак для ўтварэньня колекцыі.

У бягучым годзе т-ва прыступіла да організацыі раённага музэю, у якім раён мае быць прадстаўлены ў трох кірунках—прыродазнаўча-географічным, грамадзка-экономічным і культурна-гістарычным.

Сходы сяброў т-ва адбываюцца звычайна разам з раённымі настаўніцкімі конфэрэнцыямі. На сходах практыкуюцца даклады на тэмы, якія маюць інструкцыйны характар, як, напрыклад: „Зоолёгічныя колекцыі, іх збор і складаньне", „Вывучэньне расьліннасьці раёну", „Фэнолёгічныя назіраньні" і інш.

**В. Купр.**

### Краязнаўчы гурток пры Узьдзенскай сямігодцы.

*(Менская акруга).*

У канцы лютага б. г. пад кіраўніцтвам старшыні Краязнаўчага Раён. Т-ва пры Узьдзенскай сямігодцы організаваўся краязнаўчы гурток з вучняў. Гурток мае 70 членаў і падзяляецца на 4 сэкцыі: прыродазнаўчую, этнографічную, культурна-гістарычную і экономічную.

Агульныя сходы гуртка адбываюцца 1 раз у тыдзень. На кожным сходзе чытаюцца даклады інформацыйнага зьместу, а таксама даецца членам гуртка праца.

Гурток шырака разгарнуў працу. Штодня вядуцца фэнолёгічныя і частко̀ва мэтэоролёгічныя назіраньні, па якіх будуць апрацоўвацца таблііцы. Зьбіраецца матар'ял аб польскім паўстаньні 1863 г. і аб рэволюцыйным руху 1905 г. У Узьдзенскім раёне складаецца зборнік мясцовай народнай вуснай творчасьці. Робяцца апісаньні вёсак, складаюцца дыяграмы, у якіх паказаны рост насельнасьці, сьмяротнасьць, нацыянальны склад і інш.

Школьны рукапісны часопіс „Вір" прыняў краязнаўчы ўхіл. У часопісу зьмяшчаюцца: малюнкі мясцовых, найбольш цікавых будынкаў, мясцовыя краявіды, народныя песьні з нотамі, гістарычныя апісаньні мясцовасьцяй і г. д. Галоўнай перашкодай у працы гуртка зьяўляецца адсутнасьць сродкаў.

**Яз. Гарасімовіч.**

### У Магілеве.

Член прэзыдыуму ЦБК т. Г. С. Аляксандраў першымі днямі жніўня быў у Магілеве, дзе азнаёміўся з працай мясцовага т-ва краязнаўства.

Тав. Аляксандраў прачытаў на летніх настаўніцкіх курсах лекцыю на тэму „Краязнаўства і школа“. Пасьля лекцыі і садакладу сакратара т-ва т. Ламака адбылася дыскусія, у якой прынялі ўдзел слухачы-настаўнікі. Настаўнікі зьвярнулі ўвагу на перашкоды, якія не даюць краязнаўству разгарнуцца ў раёнах.

Тав. Аляксандраў меў таксама нараду з мясцовымі яўрэйскімі настаўнікамі аб тым, каб пры Магілеўскім Краязнаўчым Т-ве нарыхтаваць яўрэйскую сэкцыю.

Управа Краязнаўчага Т-ва ў Магілеве абрала дзеля абсьледваньня Быхаўскі раён, прычым пастаноўлена пачаць працу з пачатку надыходзячага вучэбнага году.

### Краязнаўства ў Гомельшчыне.

ЦБК атрымала справаздачу аб дзейнасьці Гомельскага Бюро Краязнаўства за тэрмін з кастрычніка 1925 г. па ліпень 1926 г. Паводле справаздачы відаць, што краязнаўчая праца па Гомельшчыне не разгарнулася шырака і ўмовы для працы былі ня зусім здавальняючыя: бюро ня мае памяшканьня, пытаньне мала папулярызуецца.

Бюро лічыцца пры Губана і зносіцца праз яго апарат. На мясцох таварыстваў асобных няма. Усе зносіны па краязнаўчай справе робяцца праз павятовыя АНА, але апошнія прымаюць мала ўдзелу ў працы.

Найбольшы ўдзел у пашырэньні краязнаўчай справы прыняла інструктарская беларуская сэкцыя; яна зорганізавала 5 гурткоў.

7-8 чэрвеня б. г. адбылося пасяджэньне пленуму бюро з удзелам прадстаўнікоў ад усіх акруговых організацый. Пленум адзначыў, што да гэтай справы ня ў поўнай меры прыцягнута грамадзкая думка, ня ўцягнуты ў працу навуковыя працаўнікі і організацыі. Пленум вызначыў цэлы шэраг мерапрыемстваў па популярызацыі і разьвіцьці краязнаўчай справы.

### Праца Валынецкага Краязнаўчага Раённага Т-ва.

*(Полацкая акруга).*

Таварыства зорганізавалася ў 1925 г. Лік сяброў цяпер даходзіць да 100 чал. Т-ва падзелена на 5 сэкцый: этнографічная, экономічная, прыродазнаўчая, гісторыка-археолёгічная і прырода-бытавая. Сабрана да 200 нар. песень, старасьвецкіх грошай і інш., чыталіся на сходах т-ва розныя даклады.

**Я. Козік.**

### Вынікі этнографічнай экскурсіі ў Беларускім Палесьсі.

Сёлета Этнографічнае аддзяленьне Географічнага Факультэту Ленінгр. Дзярж. Унівэрсытэту накіравала звыш 70 этнографічных экскурсій для вывучэньня быту насяляючых СССР народнасьцяй.

У Беларускае Палесьсе быў камандыраваны студэнт-этнограф М. Грынблят, якому было даручана выявіць асаблівасьці соцыяльна-экономічнага і духоўнага жыцьця паляшука, яго быт, заняткі, творчасьць, забабоны і г. д. і г. д.

Мэтод дасьледваньня быў выбраны не разьязны, які дагэтуль яшчэ ўжываецца этнографічнымі экспэдыцыямі, а стацыянарны,—такі мэтод дае магчымасьць глыбей і грунтоўней унікнуць у жыцьцё народу, уявіць асаблівасьць яго быту, патрэбы насельніцтва і г. д. і, такім чынам, апошні можа лічыцца больш навуковым.

Месцам дасьледваньня быў выбраны самы характэрны куток Палесься—Талескі сельсавет Тураўскага раёну, Мазырскае акругі, галоўным чынам, сяло Танеж. Сяло гэта, якое налічвае звыш 270 двароў, раскінута сярод балот, лясоў і пяскоў у 35 вярст. ад раённага цэнтру, 57 в. ад чыгуначнай станцыі і 120 в. ад акруговага гораду.

85-90 проц. усяго насельніцтва сельсавету складаюць беларусы-паляшукі, процантаў 10 яўрэяў і 12 двароў украінцаў-перасяленцаў. Галоўны

занятак насельніцтва—земляробства, пабочны—лясныя распрацоўкі.

У быту паляшукоў захавалася шмат беларускіх нацыянальных асаблівасьцяй,—як у вопратцы і будынках, так і ў фольклёры, мове і г. д. Напрыклад, захаваліся яшчэ старадаўнія жаночыя ўборы наміткі, нацыянальная беларуская вопратка—андаракі, капоты, кабаты, сьвіткі, лапці і г. д. Гарадзкія фасоны яшчэ зусім не прасяклі сюды, апроч галіфэ ў хлопцаў.

Мова—чыста беларуская. Мясцовыя асаблівасьці—оканьне, саканьне, дыфтонгі ўо і іе і інш.

Этнографічны матар'ял сабраны амаль па ўсіх галінах жыцьця паляшука: прыродныя ўмовы, заняткі насельніцтва, промыслы, будовы, вопратка, народнае харчаваньне і інш. Дэтальна вывучана новая савецкая вёска—уплыў рэволюцыйнага часу, праца грамадзкіх, савецкіх і партыйных організацый і ўстаноў. Сабраны матар'ял па народнай рэлігіі, звычаях і забабонах. Асабліва зьвернута ўвага на знахарства, якое моцнымі карэньнямі сядзіць яшчэ ў быту паляшука, а таксама на мясцовыя хваробы—каўтун, „залатнік" і трасца (памясцоваму—„хондзя"). Сабраны таксама ўсе віды фольклёру.

Увесь матар'ял будзе ў хуткім часе апрацован.

**М. Г.**

### Краязнаўства на Украіне.

На чале краязнаўчай справы ў Украінскай ССР стаіць Украінскі Камітэт Краязнаўства пры Наркамасьвеце. У кожнай акрузе ёсьць акруговае бюро краязнаўства, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі ад Акрпляну, Акр. Адз. Нар. Асьветы, Статбюро, саюзу прац. асьветы, бюро пролетарскага студэнцтва, комсамолу і раённых краязнаўчых організацый.

Акруговым бюро падпарадкаваны як старыя краязнаўчыя організацыі, гэтак і новыя нізавыя ячэйкі пры сялянскіх будынках і хатах-чытальнях. У вапошнія часы Укр. Камітэт Краязнаўства закончыў рэгістрацыю краязнаўчых організацый Украіны, якіх аказалася 150. Апрача таго, не рэгістраваліся гурткі пры сялянскіх будынках, хатах-чытальнях, школах і г. д., лік якіх, можна думаць, дасягае 10.000.

Дзяржплян Украіны прызнаў, што Украінскі Камітэт Краязнаўства мае быць адзіным у рэспубліцы органам, на якім ляжыць абавязак кіраваць вывучэньнем продукцыйных сіл Украіны. Аднак, некаторыя з старых дзеячоў краязнаўства імкнуцца давесьці, што вывучэньне продукцыйных сіл зьяўляецца заданьнем Дзяржпляну, а краязнаўчыя організацыі павінны займацца выключна вывучэньнем мясцовай географіі. Такім чынам, на Украіне адчуваецца вострая барацьба поглядаў на краязнаўства.

Адны даводзяць тоесамасьць краязнаўства і географіі, другія, і ў тым ліку Укр. Кам. Краязн., лічыць краязнаўства мэтодам вывучэньня мясцовага краю, орыентованым на продукцыйныя сілы.

Асноўнымі заданьнямі краязнаўства на Украіне Камітэт лічыць: 1) удакладненьне організацыйнай сыстэмы краязнаўчых організацый; 2) ахапленьне ўсяго настаўніцтва, усіх сялянскіх будынкаў і хат-чытальнень; 3) кіраваньне краязнаўчай працай праз часопіс „Сялянскі Будынак"; 4) выданьне друкаваных прац.

Ужо падрыхтован да друку першы нумар часопісу „Краязнаўства", які мусіць выйсьці ў сьвет у жніўні або ў верасьні. У гэтым нумары, між іншым, будуць зьмешчаны артыкулы: а) Чарговыя заданьні краязнаўства на Украіне, б) Краязнаўства і раёнаваньне, в) Організацыйныя формы краязнаўчай працы на мясцох, г) Краязнаўчая школа, д) інформацыйны аддзел, е) краязнаўчая хроніка ў СССР і ў закардоньні, ж) інструкцыі і програмы, з) бібліографія і офіцыяльны аддзел, і) пытаньні і анкеты

Нумар будзе складацца з 5—10 аркушоў.

Трэба думаць, што мэтодычныя артыкулы ў часопісе ўнясуць большую аднастайнасьць у вадносіны краязнаўчых організацый да сваёй справы. Апрача таго, Укр. Кам. Краязн. рыхтуе да выданьня 2 сэрыі брошурак: 1) бібліотэку краязнаўца і 2) навуковую бібліотэку. Першая будзе мець характар інструкцыйна-мэтодолёгічны, другая мае складацца з навуковых прац па розных галінах украінскай навукі.

### Краязнаўства ў Закаўкаскай СФСР.

Краязнаўчыя організацыі Закаўказьзя дагэтуль яшчэ маюць характар навуковых таварыстваў, слаба зьвязаных з масамі і мала зьвязаных паміж сабой. У кожным выпадку, організацыі трох галоўных частак Закаўказьзя — Армэніі, Азэрбэйджану і Грузіі—працуюць зусім незалежна адны ад другіх і нават не заўсёды абменьваюцца сваімі выданьнямі. З мэтай увязкі краязнаўчай працы ва ўсіх трох рэспубліках і для ўнясеньня плянавасьці ў працу тамтэйшых краязнаўчых організацый, у Тыфлісе пры Закаўкаскім ЦВК 3 гады назад была ўтворана *Закаўкаская Навуковая Асоцыяцыя.*

Аднак, спробы Асоцыяцыі аб'яднаць працу краязнаўчых організацый Закаўказьзя пакуль што вынікаў не далі і дзейнасьць Асоцыяцыі абмежавалася экспэдыцыйна - дасьледчай працай. У першую чаргу Асоцыяцыя занялася ўсебаковым абсьледваньнем Паўднёва - Осэтынскай самаўраднай краіны. Улетку 1924 году за дапамогай спэцыяльнай экспэдыцыі былі выяўлены выступаньні карысных выкапняў гэтай краіны, была выпраўлена геолёгічная карта, сабраны даныя для характарыстыкі быту і гісторыі осэтынаў. Адначасна была накіравана экспэдыцыя ў Нагорных Карабах з мэтай вывучэньня гаспадаркі і быту мясцовай люднасьці. У 1925 г. Закаўкаская Навуковая Асоцыяцыя праводзіла этнографічнае абсьледваньне Абхазіі і сабрала шмат матар'ялаў, датычных народнага быту, звычаяў і поглядаў абхазцаў.

У працягу летніх месяцаў 1926 г. Асоцыяцыя наладзіла тры экспэдыцыі: у Аджарыстан, у Даралагез і Нахічаванскі край. У часе экспэдыцый праводзіцца абсьледваньне гэтых краін у політыка-экономічным, гісторыка-этнографічным і прыродазнаўчым разрэзах.

З краязнаўчых організацый асобных рэспублік Закаўказьзя найбольш выявіла сябе Таварыства вывучэньня і абсьледваньня Азэрбэйджану, якое выдала шмат навуковых выданьняў на расійскай і цюркскай мове па пытаньнях гісторыі, мовы і часткова прыроды ды экономікі Ўсходняга Закаўказьзя.

У Грузіі краязнаўчую працу вядуць Музэй Грузіі, Грузінскае Таварыства гісторыі і этнографіі, Грузінскае Географічнае Таварыства, Абхаскае Навуковае Таварыства ў Сухуме і Т-ва вывучэньня Аджарыстану ў Батуме.

Пры музэі Грузіі ў сучасны момант адчынена толькі Зоолёгічнае аддзяленьне, у якім зьвяртаюць на сябе ўвагу памастацку выкананыя групы жывёл у натуральнай абстаноўцы. Між іншым, там знаходзіцца—забіты ў 1922 г. каля Тыфлісу закаўкаскі тыгра.

У Армэніі краязнаўчая праца толькі распачынаецца, прычым на чале краязнаўчых організацый Армэніі пастаўлена адзінае Армянскае Бюро Краязнаўства пры Народным Камісарыяце Асьветы ў Эрывані.

*Выдавец*—**Інстытут Беларускае Культуры.**

*Рэдактар*—**С. Плаўнік (З. Бядуля).**

# ЗЬМЕСТ.



## ПРОГРАМЫ, ІНСТРУКЦЫІ І АНКЕТЫ.



## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.



## ХРОНІКА